—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
11
СНЕЖНЯ
1992 г.
№ 50 (3668)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 1 рубель.
(Па падпісцы — 10 кап.)

«ПОЛЫМЮ»—70

# З ВЕРАЮ Ў АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

**Галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей ЗАКОННІКАЎ адказвае на пытанні нашага карэспандэнта Алеся МАРЦІНОВІЧА**

**— Сяргей Іванавіч, з выпадку юбілею «Полымя» ёсць нагоды азірнуцца на пройдзены часопісам шлях, перанесціся на семдзесят гадоў назад. Тут Вам (і мне) памяць не паможа, мы з вамі—людзі іншага часу, але калі ўзяць у рукі першы нумар часопіса ды пагартаць яго, адначасова ўзнаўляючы і тагачасную сітуацыю, што складвалася ў рэспубліцы?**

— Зрабіць гэта не так і проста, але паспрабуем, хоць нейкімі агульнымі штрыхамі, абмаляваць той час, калі нарадзіўся часопіс «Полымя», які цяпер з'яўляецца старэйшым літаратурным выданнем рэспублікі.

Сем гадоў з кароткімі перадышкамі на тэрыторыі шматпакутнай Беларусі, якую крыжуюць шляхі з Захаду на Усход, з Поўначы на Поўдзень, якая заўсёды была, як гарох пры дарозе, — хто ні ідзе, той шчыпле, — вяліся ваенныя дзеянні: першая імперыялістычная бойня, рэвалюцыйны пераварот, грамадзянская вайна, акупацыя германцамі, палякамі. У гэтай калатнечы трагічным стаўся лёс Беларускай Народнай Рэспублікі, якой не далі ўстаць на ногі, акрыяць, якую задушылі адразу пасля нараджэння, што і па сёння балючаю стрэмкаю вярэдзіць сэрца кожнага свядомага беларуса. Рыжскі дагавор 1921 года распаласаваў Беларусь па жывому на дзве часткі. Да Польшчы адышла тэрыторыя ў 108 тысяч квадратных кіламетраў з насельніцтвам звыш 4 мільёнаў чалавек. Акрамя таго, РСФСР уключыла ў свой склад Гомельскую і Віцебскую губерні. БССР складалася на той час з шасці паветаў былой Мінскай губерні (Мінскі, Ігуменскі, Барысаўскі, Бабруйскі, Слуцкі і Мазырскі). І вось на гэтай маленькай выспачцы (52,3 тысячы кв. км, 1,6 млн. чалавек) беларускай зямлі, якую бессаромна абкарналі магутныя, ваяўнічыя суседзі, трэба было будаваць новае палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё.

Пераход ад вайны да міру на Беларусі праходзіў у надзвычай складаных умовах. Разбураная прамысловасць, заняпад сельскай гаспадаркі, грабежніцкая палітыка ваеннага камунізму — усё гэта легла цяжкім грузам на плечы беларусаў, у лёсе якіх і без таго адбыўся пакутніцкі, трагічны паварот, была растаптана іхняя нацыянальная годнасць.

І ўсё ж, нягледзячы на неймаверныя цяжкасці, у рэспубліцы поруч з аднаўленнем народнай гаспадаркі распачынаецца нацыянальна - культурнае будаўніцтва. Школы пераводзяцца пераважна на беларускую мову навучання (падкрэслім, што аднадасова адчыняюцца школы і для нацыянальных меншасцей на іх роднай мове), ствараецца выдавецтва, дзе выпускаюцца газеты, часопісы, падручнікі, кнігі, пачынае сваю дзейнасць тэатр У. Галубка, адкрываюцца Беларускі дзяржаўны універсітэт, інстытут сельскай гаспадаркі, наладжваецца сістэма прафесійных вучылішчаў, тэхнікумаў, працуюць Дзяржаўны музей, Цэнтральны архіў, бібліятэкі. Працэс беларусізацыі набірае размах.

Вось мы і падышлі да моманту стварэння часопіса-юбіляра. Мяркую, што мала хто з чытачоў «Полымя» ведае адну цікавую дэталь: часопіс мог бы мець іншую назву, і, як мне здаецца, добрую — «Адраджэнне». А хросным бацькам, які хацеў яго так назваць, быў Янка Купала.

Пра падзеі, якія папярэднічалі выхаду першага нумара «Полымя», расказваецца ў цікавых успамінах Яўхіма Кіпеля. Аднойчы на пачатку 1922 года ў Юбілейны Дом на Савецкай

(Працяг на стар. 6—7).




**Яны робяць часопіс «Полымя» сёння. Фотааб'ектыў занатаваў увесь калектыў — ад галоўнага рэдактара да кур'ера-прыбіральшчыцы.**

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

**Учора, 10 снежня, сусветнае супольніцтва адзначала Дзень правоў чалавека. Сорак чатыры гады таму Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, якая заклала аснову міжнародных адносін паваеннай пары.**

**У дэкларацыі, паміж іншага, сказана (артыкул 21): «Кожны чалавек мае права прымаць удзел у кіраванні сваёй краінай непасрэдна ці праз пасярэдніцтва свабодна абраных прадстаўнікоў... Воля народа павінна быць асновай улады ўрада; гэтая воля павінна знаходзіць сабе выражэнне ў перыядычных і нефальсіфікаваных выбарах».**

**У заяве Генеральнага Сакратара ААН Бутраса Галі з нагоды дня паведамлена, што наступны год будзе Міжнародным годам карэнных народнасцей—тых, чые правы «парушаюцца асабліва часта». Рыдае, быццам кіраўніцтва ААН прымала такое рашэнне, беручы пад увагу і стан правоў чалавека ў Беларусі, у прыватнасці, супярэчнасць паміж воляй грамадзян — прыхільнікаў рэферэндуму — і ўладай (Вярхоўнага Савета ў нашым выпадку).**

**3 СНЕЖНЯ**

У Віцебску створана дзяржаўная іміграцыйная служба. Патрэба ў такой службе выклікана ўзрастаючай колькасцю імігрантаў у вобласці і горадзе — на сёння толькі афіцыйна зарэгістраваных іх налічваецца каля 3 тысяч.

Штодзённыя газеты змясцілі заяву прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, пісьменнікаў, вучоных, мастакоў, журналістаў — у сувязі з рашэннем Вярхоўнага Савета Беларусі аб забароне рэферэндуму. У заяве, паміж іншым, гаворыцца аб «пагрозе рэанімацыі таталітарнай сістэмы», народныя дэпутаты закліканы да перагляду пытання аб рэферэндуме і прызначэнні яго даты. Падкрэслена, што рэферэндум — канстытуцыйны шлях да карэннай палітычнай рэформы.

**4 СНЕЖНЯ**

Выконваючы абавязкі Прэзідэнта Літвы Старшыня Сейма А. Бразаўскас, выступаючы перад парламентам, заявіў, што Літве спатрэбіцца каля 15 гадоў, каб дасягнуць эканамічнага ўзроўню 1990-га года.

У Беларусь прыбыла дэлегацыя магістрата г. Бона (Германія).

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч сустрэўся з прадстаўнікамі другой нямецкай дэлегацыі — зямлі Ніжняя Саксонія. Асноўная мэта нямецкіх візіцёраў — аказанне дапамогі ў лячэнні «чарнобыльскіх» дзяцей.

**5 СНЕЖНЯ**

Міністэрства абароны ЗША паведаміла аб закрыцці (ці скарачэнні) каля 30 ваенных базаў у Еўропе.

На 53-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр першы Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь М. Ігнатовіч. Светлая памяць...

**6 СНЕЖНЯ**

Як паведаміла Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, падрыхтавана і ў хуткім часе будзе падпісана пагадненне паміж урадамі і міністэрствамі абароны Украіны і Беларусі аб умовах падрыхтоўкі афіцэраў у ваенных вучылішчах і акадэміях абедзвюх краін.

**7 СНЕЖНЯ**

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Апроч іншага, зацверджаны склад дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на перамовах з Украінай — аб дзяліметацыі і дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы паміж краінамі.

А ў вышэйшых калідорах улады суседняй Літвы тым часам змянілася танальнасць выказванняў па памежных пытаннях. Бордзкае пасоўванне мяжовага адасаблення, за якое выступаў экс-старшыня парламенту В. Ландсбергіс, прыпынена. У самой Вільні зліквідоўваюцца супрацьтанкавыя ўмацаванні вакол будынка Сейма Літоўскай Рэспублікі.

**8 СНЕЖНЯ**

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Венгерскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Акаш Энгельмайер уручыў даверчыя лісты Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічу.

**9 СНЕЖНЯ**

На месцы пераправы напалеонаўскіх войск цераз раку Бярэзіну ля вёскі Студзянка Барысаўскага раёна ўстаноўлены і асвячоны святарамі памятны знак, увенчаны крыжам. Адбылося таксама тэатралізаванае прадстаўленне і салют з гарматаў узору 1812 года.

На Беларусі, такім чынам, ушаноўваецца памяць загінуўшых на яе зямлі людзей — незалежна ад таго, скуль яны і што неслі нашым продкам, гора ці вызваленне. І ў гэтыя ж дні прэса паведаміла пра новыя акты вандалізму ў Курапатах... Ці ўстановіць нарэшце міліцыя імя тутэйшага хама?

**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЕННІК**

## Свабода і зона— рэчы несумяшчальныя?

Раней у снежні звычайна аб'яўляўся «аўрал» — трэба было абавязкова выканаць план, альбо здаць які-небудзь аб'ект да наступлення новага года. Не раўнуючы з практыкай нашага парламента, усё ж засведчым факт: з надыходам зімы тэмпы заканадаўчай работы ў Вярхоўным Савеце паскорыліся. Але гэта зусім не азначае, што законы пачалі прымацца з «лёгкасцю незвычайнай». Спрэчкі па найбольш прынцыповых пытаннях носяць часам вельмі жорсткі характар. Так было і на гэтым тыдні.

У другім чытанні Закона аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі не былі прыняты ўсяго некалькі пунктаў. Яны тычацца, у прыватнасці, падатковых ільгот, якія павінны былі б стымуляваць развіццё навукаёмістай вытворчасці, інавацый, найбольш перадавых тэхналогій. На думку намесніка старшыні парламенцкай камісіі па навуцы У. Заблоцкага, які прадстаўляў законапраект, прапанаваныя карэктывы робяць яго прыняцце бессэнсоўным, паколькі ставяць пад сумненне навукова-тэхнічны прагрэс у рэспубліцы. Аднак прапанова дэпутата зняць наогул праект з абмеркавання, падтрымкі не знайшла. Ці ўдасца знайсці кампраміс па спрэчных пунктах яшчэ падчас гэтай сесіі — сказаць цяжка.

Законапраект аб свабодных эканамічных зонах разглядаўся ў першым чытанні. Але пастанову па гэтым пытанні не ўдалося прыняць нават за аснову. Для таго, каб правесці галасаванне, спікеру давялося чатыры разы запар аб'яўляць перарэгістрацыю дэпутатаў (першая рэгістрацыя паказала, што не было кворуму). І кожны раз на табло высвечвалася новая лічба! Справа тут не ў недахопах камп'ютэрнай сістэмы, а, хутчэй за ўсё, у нервовай атмасферы, што апанавала залай.

Што здарылася? Пытанне аб свабодных эканамічных зонах у рэспубліцы ўзнімаецца ўжо даўно. Іх прыхільнікі настойваюць, што стварэнне зон — лепшы шлях для прыцягнення замежных інвестыцый. Стварыць такую зону, напрыклад, у Брэсцкай вобласці, прапаноўвалася яшчэ на мінулай сесіі. Фактычна ўжо існуюць свайго роду «міні-зоны» ў калгасе-камбінаце памяці Ільіча на Брэстчыне і на тэрыторыі аэрапорта «Мінск-2». Прадстаўнікі ўрада і дэпутаты ездзілі ў Кітай, каб пазнаёміцца з практыкай стварэння свабодных зон. Праўда, спасылкі на Кітай пры абмеркаванні закона большасць дэпутатаў не пераканалі: усё ж такі вельмі розныя ўмовы і маштабы КНР з яе гіганцкім насельніцтвам і Беларусі. Выказвалася шмат сур'ёзных сумненняў і перасцярог. Напрыклад — ці не прывядзе стварэнне СЭЗ да адтоку ўсіх найбольш кваліфікаваных спецыялістаў і рабочых з-за розніцы ў аплаце працы? І ці як гэта адаб'ецца на рабоце прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі ў цэлым, на іх канкурэнтаздольнасці? Грунтоўнага аналізу эканамічных, палітычных і сацыяльна-эканамічных наступстваў намечанага эксперыменту, на жаль, няма. Як успрымуць людзі існаванне свайго роду «аазісаў дабрабыту і працвітання», дзе шчаслівыя грамадзяне рэспублікі будуць адгароджаны ад сваіх менш шчаслівых суграмадзян высокім плотам (хай сабе і сімвалічным)? Хіба намер пабудаваць капіталізм у некалькіх, «асобна ўзятых зонах» не з'яўляецца чарговай утопіяй?

Здаецца, усім ясна, што для замежных інвестыцый патрэбна перш за ўсё стабільная эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы, прыняцце комплексу рыначных законаў. Чаму ж тады не прызнаць, што лепей за ўсё было б зрабіць усю Беларусь свабоднай эканамічнай зонай?

Довады ў падтрымку законапраекта, прадстаўленага ўрадам, якія былі выказаны, у прыватнасці, Старшынёй Вярхоўнага Савета і першым віцэ-прэм'ерам Беларусі, аказаліся недастатковымі, каб пераканаць дэпутатаў у неабходнасці прыняцця закона ў прынцыпе.

На сесіі прыняты змены ў Законе аб банках і банкаўскай дзейнасці. (Аб дыскусіі вакол гэтага пытання паведамлялася ў мінулым нумары «ЛіМа»). Пасля дапрацоўкі гэтыя змены былі істотна адкарэктаваны. У прыватнасці, грашова-крэдытная і фіскальная палітыка застаецца пад кантролем парламента. Нацыянальны банк будзе вызначаць абменныя курсы афіцыйнай грашовай адзінкі. Не прайшла папраўка, згодна з якой парламент не мог змясціць з пасады старшыню НБ інакш як па ягонай просьбе. Наколькі можна меркаваць, рэакцыя кіраўнікоў камерцыйных банкаў на іншыя прынятыя змены — спакойная.

**Віталь ТАРАС.**

## Стабілізуючы фактар

**Заява Цэнтральнай Рады БСДГ у сувязі з гадавінай утварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў**

**Стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў з'явілася адзіна магчымым цывілізаваным спосабам дэмантажу апошняй імперыі, які папярэдзіў як яе некантралюемы развал, так і магчымыя спробы яе гвалтоўнага ўзнаўлення, што магло прывесці да катастрафічных вынікаў (як гэта адбылося ў Югаславіі). Яно дазволіла пакончыць з няпэўнасцю статуса суб'ектаў былога Саюза, якія атрымалі магчымасць свабоднага дзяржаўнага самавызначэння і свабоднага, раўнапраўнага ўзаемасупрацоўніцтва.**

**ЦР Грамады канстатуе, што недастатковая эфектыўнасць Садружнасці, у чым яе абвінавачваюць многія, выклікана ў многім аб'ектыўнымі абставінамі — надта ўжо розныя па эканамічнаму развіццю, культурных традыцыях, палітычных інтарэсах рэспублікі ўваходзілі ў былую «новую гістарычную супольнасць». Таму, разглядаючы СНД як важны стабілізуючы фактар на тэрыторыі значнай часткі былога Саюза, Грамада лічыць прыярытэтным для Беларусі ў дачыненнях з усімі дзяржавамі былога СССР развіццё двухбаковых адносін.**

**Узаемадзеянне ў рамках Садружнасці не павінна ператвараць СНД у замкнёную групоўку, а мусіць разглядацца як адзін з фактараў будаўніцтва «агульнаеўрапейскага дома», усталявання атмасферы даверу і ўзаемаразумення паміж народамі і дзяржавамі свету.**

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# З ЧЫМ ІДЗЁМ У БУДУЧЫНЮ?

Шаноўная рэдакцыя!

Дзякуй вам за шматгадовую руплівую працу па захоўванні і адраджэнні Беларушчыны. Але час рухаецца наперад, узнікаюць новыя плыні і рухі, часам можна і не заўважыць, што жыццё вымагае новых формаў і ідэй. Казанае я б не хацеў адносіць да «ЛіМа», бо, на шчасце, ён застаецца на вастрыні часу, у фарватэры грамадскай думкі. Але пэўныя ягоныя традыцыі і кірункі, працягнутыя з перыяду савецкай гісторыі, амаль нязменна існуюць і сёння. Я разумею, што гэта не вельмі прыемная размова, ды праўда, мабыць, ніколі не бывае салодкай, горкі прысмак — яе нязменная якасць ва ўсе часы. З іншага ж боку, горыч больш карысная для здароўя, чым салодкасць, а ў дадзеным выпадку — для здароўя «ЛіМа» і беларускай культуры наогул.

Што тычыцца асобных сацыял-рэалістычных кірункаў вашага тыднёвіка, то ідуць яны, здаецца, ад заснавальнікаў і ў першую чаргу — ад Саюза пісьменнікаў Беларусі. Разумеючы, што гэтая арганізацыя аб'ядноўвае сёння розныя плыні, даводзіцца прызнаць: разам з захоўваннем пэўных форм Беларушчыны яна працягвае і многія дзяржаўна-камуністычныя традыцыі, хіба толькі апранаючы іх у «нацыянальна-дэмакратычнае» адзенне. Зараз модна параўноўваць адносную колькасць чыноўнікаў, настаўнікаў, урачоў і іншых спецыялістаў у нас і на Захадзе. Калі б існавала такая статыстыка ў адносінах да літаратараў, мяркую, што і тут «на душу насельніцтва» ў нас было б не менш пішучых прафесіяналаў, чым у развітых краінах. Варта б радавацца з такой нагоды, ды на тых самых «душах насельніцтва» гэты інтэлектуальны патэнцыял ніяк не адбіваецца. Прычына таму як у якасці «патэнцыялу», так і ў формах яго існавання і дзейнасці. Калі якасць інтэлектуальнай і творчай працы — рэч тонкая, далікатная, залежная больш ад індывідуальна-духоўных зрухаў асобнага чалавека, то формы праяўлення і асабліва існавання яе ў вялікай ступені абумоўлены знешнімі, грамадска-сацыяльнымі абставінамі. Вось змена апошніх і магла б аказаць станоўчы ўплыў на прагрэс беларускай культуры. Сёння ж, нават у сферы адносін да яе дзеячаў, мы бачым тую ж фармальнасць і абыякавасць, што і за савецкім часам, увасобленую ў іерархічную піраміду дзяржаўнага мастацтва. Тыя ж граматы, медалі, ордэны, тытулы «заслужаных» і «народных», большасць якіх народ мала ведае. У гэтым і бяда народа, і «віна» саміх уладальнікаў званняў. Нават калі гэта і сапраўды выдатныя ў сваёй галіне творцы, то многія сферы культуры вельмі спецыфічныя заўжды будуць даступныя толькі абмежаванаму колу людзей. Дык, можа, увесці яшчэ званні «заслужаных элітарных», «народна авангардных», «народна-традыцыйных», «вытанік кіч-культуры» і інш. Не, гэта бязглузды, калі не фантасмагарычны шлях у нікуды, і сусветны вопыт яскравы таму сведка. Дзяржава і мастацтва павінны інакш будаваць свае адносіны, бо дзяржаўнае мастацтва такая ж пачварная з'ява, як і знакамітая «партыйнасць» літаратуры. Задача дзяржавы не размяркоўваць розныя званні і выплачваць рэнту іх уладальнікам, а ўстварэнні ўмоў для развіцця культуры і магчымасці зарабіць грошы самім яе творцам.

Сапраўднаму мастаку (за рэдкім выключэннем) не патрэбны дзяржаўныя падачкі,

# Да грамадзян Рэспублікі Беларусь

## Зварот Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Як вядома, ужо трэці год дзейнічае ў рэспубліцы Закон аб мовах, якім вызначаны статус нацыянальнай мовы Беларусі як адзінай дзяржаўнай. Гэта важнейшая для нацыянальна-дзяржаўнага развіцця народа Беларусі прававая норма замацавана ў дзеючай Канстытуцыі і Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, якія былі прыняты ў адпаведнасці з воляй беларускага народа больш як двума трэцямі складу Вярхоўнага Савета Рэспублікі.

І вось цяпер, калі Рэспубліка Беларусь абвясціла палітычную незалежнасць і эканамічную самастойнасць, калі ў Бацькаўшчыне імкліва ідзе фарміраванне інстытутаў дзяржаўнасці — ад дыпламатычных структур усіх узроўняў да нацыянальнага войска, — шэраг народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь пры абмеркаванні ў Вярхоўным Савеце праекта Канстытуцыі ў другім чытанні выступілі з прапановай замацаваць за рускай мовай статус другой дзяржаўнай мовы рэспублікі. Гэтаму выступленню групы дэпутатаў папярэднічала шырокая і яўна загадзя спланаваная ў сродках масавай інфармацыі рэспублікі кампанія за ўсталяванне ў Беларусі т. зв. дзяржаўнага двухмоўя і адпаведна за перагляд Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

Аўтарам азначаных вышэй выступленняў бракуе, як бачна, гістарычнай кампетэнтнасці і дасведчанасці ў галіне моўна-культурнага заканадаўства рэспублікі. Уся гісторыя Беларусі сведчыць аб талерантным стаўленні яе карэннага насельніцтва да моў і культуры ўсіх нацыянальных супольнасцей, якія жылі і жывуць на беларускай зямлі. Гэтаму не супярэчыць тое, што беларускі народ на сваёй этнічнай радзіме настойліва імкнуўся захаваць за роднай мовай функцыі грамадска-дзяржаўнай мовы, што засведчана ў такіх дзяржаўна-палітычных дакументах, як Статут Вялікага княства Літоўскага, акты Кастуся Каліноўскага, Статутныя граматы Беларускай Народнай Рэспублікі, палажэнні нарматыўных актаў БССР у 20-х гадах. Да гэтага ў свой час імкнуліся і прыйшлі ўсе краіны цывілізаванага свету. І тыя нацыянальныя супольнасці, якія жывуць у Беларусі, захоўваюць родныя сувязі з народамі на сваіх этнічных тэрыторыях, дзе сфармаваліся дзяржаўныя нацыянальныя ўтварэнні, у якіх выкарыстоўваюцца як адзіна дзяржаўныя толькі адпаведныя нацыянальныя мовы: руская ў Расіі, польская ў Польшчы, літоўская ў Літве і г. д. Такая аб'ектыўная рэальнасць нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў цывілізаваным свеце, і яна не магла не паспрыяць таму, каб і ў Беларусі беларуская мова набыла статус адзінай дзяржаўнай мовы рэспублікі.

Цяпер дзейны Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, у адпаведнасці з ратыфікаванымі рэспублікамі міжнароднымі дакументамі ў галіне абароны правоў чалавека, прадастаўляе ўсе магчымасці для выкарыстання як рускай, так і іншых моў нацыянальных меншасцей у іх грамадска-культурным жыцці. Больш таго, руская мова з'яўляецца абавязковай для вывучэння ва ўсіх навучальных установах рэспублікі, шырока прадстаўлена ў аўдыёвізуальным афармленні жыццёвага асяроддзя, з'яўляецца мовай міжнацыянальных зносін і г. д. Фактычна на сёння сітуацыя склалася такая, што прыхільнікі рускай мовы ў Беларусі маюць непараўнальна больш магчымасцей для шырокага ўжытку яе ў грамадскім жыцці рэспублікі, чым носьбіты мовы любой нацыянальнай меншасці як у Рэспубліцы Беларусь, так і ў любой еўрапейскай краіне. Ні пра якое гвалтоўнае паніжэнне яе ролі ў нашай дзяржаве гаварыць няма падстаў.

За прапановамі замацаваць у прававой сістэме рэспублікі за рускай мовай статус другой дзяржаўнай мовы нельга не бачыць далёка ідучыя мэты: спыніць працэс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, унесці напружанасць у міжнацыянальныя адносіны ў рэспубліцы і стварыць умовы, у выніку якіх становіцца магчымым скасаванне нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь і пераўтварэнне яе ў выніку штучнага фарсіравання асіміляцыйных працэсаў у духоўна-культурную правінцыю Расіі, а ў дачыненні да шэрагу рэгіёнаў — і іншых сумежных дзяржаў. У гэтым — уся сутнасць пытання. І не трэба хітраваць і разлічваць на наіўных.

Прынясце першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь нельга азмрочыць замацаваннем у ёй антынароднага і антыдэмакратычнага палажэння аб дзяржаўным статусе мовы якой бы ні было нацыянальнай меншасці Беларусі. Нельга дапусціць, каб Закон аб мовах не выконваўся службовымі асобамі Рэспублікі, у тым ліку і некаторымі прадстаўнікамі заканадаўчай улады. Вярхоўны Савет як выразнік волі народа Беларусі і правамоцны яго прадстаўнік ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, а значыць і ў галіне моўнакультурнай, не можа насуперак яго карэнным інтарэсам усталёўваць у рэспубліцы дзяржаўнае двухмоўе, ведаючы, што гэтым самым пазбавіць беларускі народ роднай мовы і гістарычнай перспектывы яго духоўна-культурнага развіцця.

Без развітой нацыянальнай культуры і шырокай прысутнасці ў дзяржаўна-грамадскім жыцці нацыянальнай мовы няма будучыні для Беларусі. Няма будучыні і ў тых палітычна-грамадскіх сіл у рэспубліцы, якія ставяць сабе на мэце зруйнаванне нацыянальнай мовы Беларусі і фактычнае пазбаўленне яе статуса дзяржаўнай у выніку ўсталявання дзяржаўнага двухмоўя. Настаў час, шаноўныя грамадзяне, зразумець гэта!

Жыве Беларусь і вечна жыве беларуская мова!

# Памяць засталася

**У СУВЯЗІ З 72-МІ УГОДКАМІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ НА АДРАС КАМІСІІ ПА ЗАМЕЖНЫХ СУВЯЗЯХ БНФ ПРЫЙШЛІ ВІНШАВАННІ АД СУРОДЗІЧАЎ НА ЧУЖЫНЕ.**

«З вялікай радасцю і гонарам перасылаем праз Вас удзельнікам святкавання дня Слуцкага Збройнага Чыну нашы найлепшыя і найшчырэйшыя пажаданні. Мы цешымся, што супольна дачакаліся гэтага доўгачаканага дня, калі Беларускі народ будзе ўспамінаць сваіх продкаў, што змагаліся за вольнасць і дэмакратычны лад у Беларусі, усюды, дзе б ні знаходзіліся сведамыя і добрасумленныя сыны і дочкі Беларускага Народу»,— пішацца ў віншаванні Старшыні Згуртавання беларусаў Канады сп. Міколы Ганько.

«Беларуска - Амерыканскае задзіночанне вітае беларускія арганізацыі вайскоўцаў і ўдзельнікаў свята — вальных урачыстасцяў з нагоды ўгодкаў Слуцкага Паўстання 1920 году. Жыве Беларусь!» — тэлеграма Прэзідэнта БАЗА сп. Антося Шукелойця.

Прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады (эміграцыя Аўстраліі і Амерыкі) сп. Міхась Зуй у сваім звароце «Да беларускага грамадства» адзначае, што, «нягледзячы на тое, што паўстанне было задушана вялікай колькасцю бальшавіцкага войска, аднак памяць аб ім засталася назаўсёды ў беларускай свядомасці... Нельга яшчэ сказаць, што сёння існуе Незалежная Рэспубліка Беларусь, калі ёй кіруе старая камуністычная гвардыя, якая паслугоўваецца і надалей расейскай мовай, і, магчыма, чакае на паварот старога строю. Аднак мы будзем верыць у тое, што... сонейка поўнае свабоды, заззяе ў наша ваконца».

**НОВЫЯ ВЫДАННІ**

# ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ Ў... АПАЗІЦЫЮ

**У кіёсках «Саюздруку» з'явілася новая газета—«К широкой оппозиции». Выдаўцом яе з'яўляецца Фонд свабоднай інфармацыі і праваахові. Праграмная заяўка прываблівае: «Упершыню мы гаворым аб грамадзянскай апазіцыі незалежна ад міжпартыйнай барацьбы». А што ў нумары? У нумары — інтэрв'ю вядомага журналіста Л. Свірыдава (дарэчы, ён выконвае абавязкі галоўнага рэдактара) з не менш вядомай дысідэнткай Л. Аляксеевай «Правы чалавека трэба адстойваць пры любым рэжыме, пры любой канстытуцыі». Нястомны М. Собаль дзеліцца развагамі аб нашым жыцці-быцці — «Зона маўчання». Пісьменнік В. Тарас, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Я. Новікаў, журналіст А. Ліманоўскі, дэпутат Савецкага райсавета Мінска Я. Русінаў і іншыя (усе яны — аўтары першага нумара) таксама з тых, да чыйго голасу варта прыслухацца.**

**Адным словам, шчыльнымі радамі ў... апазіцыю.**

**Праўда, прачытаеш нумар і... Апазіцыя, канешне, добра, але чамусьці гэтая самая апазіцыя аб трывогах, спадзяваннях беларускага народа гаворыць не па-наскаму. Толькі невялічкі ўступ пададзены па-беларуску, а ўсё астатняе — «на великом и могучем». Зноў — няхай жыве «межнациональный»?**

**ФЕСТЫВАЛІ**

# ПЕРШЫ ДУДОВЫ ФЭСТ

**У Доме літаратара з вялікім поспехам прайшоў Першы балтыйскі дудовы фэст, які ладзіўся ў рамках «Свята фальклору» намаганнямі «Выбранецкіх шыхтоў». Мінчане прымалі выканаўцаў з дзяржаў Балтыі і Беларусі. Музыкі гралі старадаўнія і цяперашнія творы на дудзе і ад яе ўтвораных інструментах, а таксама акампанавалі салістам, фальклорным гуртам і танцорам. Былі і цікавыя расказы выканаўцаў пра гісторыю таго ці іншага інструмента, асаблівасці грання на ім.**

**Гарачымі апладысментамі прымалі слухачы кожнага выканаўцу, кожны калектыў. Упадабала публіка народную песню «Каля рэчкі», якую праспяваў Уладзімір Бярбераў (дарэчы, унук паэта Аркадзя Куляшова) у суправаджэнні дуды; своеасаблівае гучанне на дудзе беларускіх народных танцаў «Мікіта», «Лявоніха» і іншых, а таксама мелодыі «Песня арлоў», «Божая птушка» ў выкананні П. Кушкурэвіча з Віцебшчыны. Поспех мелі знаёмыя мінчанам ансамбль «Неруш», фальклорны гурт «Ліцьвіны».**

**Фундатарамі дудовага фэсту былі фірмы «Vайkalaka», «Круиза», газета «Свабода». Ёсць спадзеў, што свята будзе традыцыйным.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

якія, да таго ж, лягчэй атрымаць не таленавітаму, а прабіўному і маючаму пэўныя сувязі. Магчыма, разбурэнне такой сістэмы прыйдзецца не да спадобы многім (а мо й большасці?) сучасных прафесійных дзеячаў ад мастацтва: камусьці прыйдзецца добра папрацаваць, а каму і перакваліфікавацца. У гэтым праяўляецца адмоўны, ці мо й драматычны бок праблемы, затое самое мастацтва, ягоны прэстыж і эфектыўнасць значна выйграюць, пазбавіўшыся зануднага правінцыялізму, сярмяжнасці і другасортнасці, не заўжды беспадстаўна прыпісваемых нашай культуры.

Выключэнняў у гэтым шэрагу няшмат, і спынімся на галоўным з іх—на літаратуры, ці дакладней, моўнай культуры Беларусі. Па вядомых прычынах наша мова пакуль не можа ўдзельнічаць у рыначнай барацьбе і без актыўнай падтрымкі ўлады ніколі не дасягне такой вышыні. Але, па-першае, гэта з'ява, я спадзяюся, часовая, пераходная, а па-другое, яна ўсё ж павінна змяніць свае формы, бо тая бальшавіцкая рэвалюцыйнасць і зацыкленасць, з якой пачалася праводзіцца моўная палітыка, можа прывесці да непажаданых вынікаў. Гэта ў пэўнай ступені тычыцца не толькі «беларусізацыі», але наогул стратэгіі нацыянальнай культурнай палітыкі. У такой далікатнай сферы, як культура, адміністратыўныя метады павінны быць зведзены да мінімуму, інакш вынік будзе хуткім і адмоўным. Нават паланізацыя і русіфікацыя на Беларусі ажыццяўляліся паступова, спакваля, шырокім фронтам — праз рэлігію, школу, літаратуру, мастацтва, дзяржаўныя структуры. Гвалтоўныя ж дзеянні стараліся праводзіць неўпрыкмет, прыкрываючыся рознымі ідэалагічнымі гунькамі (культурная непаўнацэннасць, спрадвечная еднасць беларусаў з расейцамі і г. д.), а потым як мага хутчэй выкрэсліваць іх з народнай памяці.

Можна сказаць, што сучаснае становішча амаль таго ж кшталту, а згадкі пра вяртанне да сваёй існасці, згубленай нацыянальнай самасвядомасці хоць і безумоўна верныя па сутнасці, але зусім не зразумелыя для большасці простых людзей, адны з якіх лічаць сябе рускімі, другія — палякамі, трэція — «беларусамі па пашпарту» ці проста савецкімі грамадзянамі. Многім зусім чхаць на нацыянальнае пытанне, яны даўно вырашылі яго ў сваю карысць: радзіма там, дзе лепш плацяць, а на якой мове завуцца грошы — не мае значэння. Але пакінем убаку савецка-спажывецкі інтэрнацыяналізм, не ён галоўная перашкода для нашага станаўлення. Найпершая праблема існуе ў тым, каб спыніць на Беларусі панаванне камуністычных традыцый і прымхаў, каб не адбылося так, што нацыянальныя па зместу ідэі, запоўніўшы старыя таталітарныя формы і атаясаміўшыся з імі, дыскрэдытавалі сябе ў грамадскім уяўленні. А гэта ўжо пачалося, бо Беларушчына і беларускасць звязваецца многімі людзьмі з коснамоўнасцю беларускіх каментатараў, убогасцю тэлеперадач, другасортнасцю друкаванай прадукцыі, закасцянеласцю пісьменнікаў-ветэранаў, сярмяжнасцю палітыкаў-дэпутатаў, адсутнасцю сваёй самастойнай думкі і г. д. Нельга ісці ў будучыню з такім непрывабным і струхлелым цяжарам, гэта гібельны шлях. Толькі лепшыя здабыткі нашых папярэднікаў усіх часоў і палітычных арыентацый, а галоўнае — актыўная стваральная праца сёння дапамогуць дасягнуць жаданае мэты. Але ні ў якім разе не гвалт, не імкненне да хуткага выніку любымі сродкамі, бо такі вынік будзе ненадзейным і часовым. У працэсе рэбеларусізацыі поўнасцю апраўдана сілавое ўвядзенне мовы ва ўжытак уладных структур. Іншага не мае быць: у дзяржаўных установах — дзяржаўная мова. Што тычыцца адукацыі, то тут асноўнае — пераконванне, тлумачэнне, уласны прыклад і ўрэшце — пабудова сітуацыі, адваротнай 30—80 гадам: гэта значыць, стварэнне беларускай мове «вучонага», «інтэлектуальнага», «адукацыйнага» і проста прэстыжнага іміджу. Гэтага не зробіць ні рэвалюцыя, ні пераварот, ні самы лепшы прэзідэнт. Гэта штодзённая руплівая праца не толькі дзяржавы, але кожнага з нас, незалежна ад узросту, прафесіі і сацыяльнага становішча, праца ўсіх, хто яшчэ лічыць сябе беларусам і жадае росквіту сваёй радзіме. Толькі такі сустрэчны рух зверху — мовы «дзяржаўнай», «афіцыйнай» — і знізу — мовы «народнай», «забытай» — дасць добры плён нашаму адраджэнню.

І ўсё ж праблема мовы хоць і асноўны, але не адзіны камень у падмурку беларускага ўсталявання. Станаўленне культуры і мастацтва справа не менш важная і тэрміновая. Адносіны дзяржавы з мастацтвам ніколі не бываюць ідэальнымі, а тым больш у краіне з такім таталітарным анамнезам, як наша. Таму ў выбары арыенціраў культурнай палітыкі трэба зыходзіць з дэмакратычнасці, шматграннасці і раўнапраўнасці розных плыняў мастацтва. Дзяржава ў культурным ды і ў астатніх сэнсах стварэнне кансерватыўнае, маларухомае, і гэта нармальна, бо яе наканаванне — замацоўваць і абараняць дасягнутыя рубяжы, прыдаваць ім акрэсленыя грамадскія формы. Мастацтва ж адна з самых рухомых з'яў чалавечай дзейнасці, існуючая ў вечным пошуку і станаўленні. Таму канфлікт ці супярэчнасць між імі — рэч амаль непазбежная.

Гледзячы наперад, можна толькі пажадаць, каб разам з традыцыйна трывалым народным, класічным і эстрадным мастацтвам звярталася больш увагі і на нованароджаныя, сучасныя плыні. Мастацтва застаецца жывым і дзейсным толькі за кошт прыліву новых ідэй, канцэпцый і сіл. У задачы мудрай дзяржаўнай палітыкі ўваходзіць стварэнне спрыяльных умоў і для такога мастацтва, нават калі яно ў асобныя перыяды будзе насіць апазіцыйны і канфліктны характар. Будучая моц беларускай культуры не ў маналітным адзінстве і непахіснасці, а ў шматграннасці і разгалінаванасці, дыялектычнай барацьбе і ўзаемадзеянні яе розных плыняў і кірункаў. Класіка і мадэрнізм, авангард і фальклор, элітарнае і масавае, абстрактнае і рэалістычнае, адным словам, усе вядомыя і пакуль невядомыя віды павінны прысутнічаць у беларускім мастацтве. Калі любы беларус знойдзе адпаведную ці блізкую сабе мастацкую з'яву, можна будзе сказаць, што беларускае мастацтва выконвае сваю ролю. Ці хутка гэта будзе?

**В. АЎРАМЕНКА,**
**урач.**

г. Магілёў.



# «А НАРОД МОЙ— НАРОД ЛІРНІК...»

*«...трэба памірыць у душы беларуса старое з новым, трэба вышукаць, што ў яго душы жывуча са старыны і на чым будаваць новае...».*

М. ГАРЭЦКІ.

Творчасць Максіма Гарэцкага — гэта чыстая крыніца, якая прабіваецца з глыбінь народнага жыцця. Суровая праўда адлюстравання пачварных, а часам і страшных з'яў быцця арганічна спалучаецца ў Гарэцкага з усхваляванай паэтычнасцю ўспрымання прыгажосці роднага краю, велічы светабудовы. Спакойная апавядальная манера, якая пераважае ў пісьменніка, тоіць пад сабою напружанне драматызму, а нярэдка і трагізму.

Сучаснаму чытачу М. Гарэцкі блізкі сваёй нязменнай цікавасцю да маральнага боку чалавечых адносін. Канфлікты ў сюжэтах яго твораў часцей за ўсё грунтуюцца на сутыкненні сіл дабра і зла, гуманістычнага светлага пачатку ў душы героя — з наступаючай на яго ўладай цёмных жыццёвых сіл. Пісьменнік не абстрагуецца ад сацыяльнага боку быцця. Наадварот, сацыяльна-класавыя, саслоўныя ўзаемаадносіны і супярэчнасці з'яўляюцца той атмасферай, у якой развіваюцца сюжэты яго апавяданняў, раманаў і драматычных твораў. Аднак не гэтыя сацыяльныя адносіны з'яўляюцца галоўным з таго, што прываблівае ўвагу пісьменніка. Яго вабіць чалавечая асоба з усёй складанасцю яе ўнутранага свету, цікавяць жыццёвыя сітуацыі, у якіх выяўляецца здольнасць чалавека хоць бы ў нейкай меры, хоць бы на імгненне вырвацца з-пад згубнага дыктату пачварных умоў быцця. Інакш кажучы — моманты перамогі духоўнасці. Вось гэтай цікавасцю да асобы, да героя, здольнага ў крытычнай сітуацыі зрабіць вольны выбар, які абумоўліваецца вышынёй яго духоўнасці, цікавы і дарагі М. Гарэцкі нашаму сучасніку.

Супрацьстаянне асобы сілам зла ў яго бясконцай шматаблічнасці складае змест многіх апавяданняў пісьменніка, напрыклад, у кнізе «Досвітак» («Прысяга», «Страшная музыкава песня», «Сасна», «Багатая пчэльня»). Цікавая ў гэтым сэнсе «Прысяга». Сутнасцю апавядання з'яўляецца паядынак у душы героя добрага, гуманнага пачатку з сіламі страху, які выклікае ў яго дзяржаўная ўлада і служачая ёй царква. Барацьба гэтая дасягае вышыні сапраўднага трагізму. Галоўны герой апавядання селянін Тарас сваім маўчаннем дарue волю, а можа быць, і жыццё тром беглым мужыкам і ў той жа час, як ён сам лічыць і як лічаць аднавяскоўцы, прыгаворвае сябе де пагібелі. У момант выпрабавання Тарас перажывае хвіліны слабасці, вагаецца, але ўрэшце знаходзіць у сабе сілы не зрабіць здрадніцтва. Ён маўчыць у час допыту, маўчыць у час малітвы, якая азначае прысягу. Ён робіць вялікі грэх: дае ілжэсведчанне перад іконай, перад выявай бога, але беглых сялян не выдае. Характэрна, што самі выратаваныя Тарасам мужыкі таксама ўпэўнены ў непазбежнасці яго смерці як кары гасподняй за грэх ілжэпрысягі. Яны кланяюцца Тарасу ў ногі, як бы адчуваючы сваю віну перад сваім выратавальнікам, не адважваюцца глянуць яму ў вочы. Тарас ад гэтага часу пачынае жыць з усведамленнем блізкасці свайго канца. Ён як бы благаслаўляе выратаваных ім мужыкоў на далейшае жыццё: «Што ж, браткі, заставайцеся надалей, жывіце...»

М. Гарэцкі ў сваёй творчасці робіцца заступнікам натуральных чалавечых пачуццяў і імкненняў як вышэйшых жыццёвых пачаткаў: імкнення асобы да волі, праўды, прыгажосці, пачуцця справядлівасці, любові, чалавечай годнасці, непарыўнай сувязі з радзімай. Пісьменнік улоўлівае самае нязначнае імкненне душы, у якім угадваецца подых простага і таму святога чалавечага пачуцця, прарыў яго з-пад прыгнёту жыццёвых бед і неўладкаванасці. Апавяданне «Паясок» займае ўсяго палову старонкі кнігі, але змяшчае ў сабе сапраўдную чалавечую драму. Жыхарка глухога сібірскага пасёлка, беларуска-перасяленка, жанчына, што рана састарэла, замучаная беднасцю і горам, прадае аўтару апавядання вышыты паясок, адзіную прыгожую рэч, якую захоўвала ў сваёй убогай, цёмнай хаце. Цётку Надзею кінуў муж, яна жыве надгаладзь з сынам-падлеткам, пасялковым пастушком, невялікія грошы за паясок для яе як манна нябесная. Але апавяданне нечакана канчаецца тым, што жанчына даганяе чалавека, які купіў паясок, і просіць ёй вярнуць яго — гэта ж «памяць аб вяселлі». Такая канцоўка гаворыць шмат пра што. На імгненне нам прыадкрываецца глыбінная чысціня душы жанчыны, тое светлае, чалавечае, што не здолелі забіць ні гора, ні несправядлівасць мужа, ні жахлівая галеча.

Пра сілу натуральнага чалавечага кахання, яго перамогу над абстрактным светапоглядным пачаткам гаворыць апавяданне «Стары прафесар». На героя расказа, вучонага, які аддае ўсё жыццё навуцы, звальваецца страшэнная бяда: смяротна захворвае маладая жонка, якую ён горача кахае. Урачы прызнаюць яе становішча безнадзейным. Прафесар жыве ў маёнтку сваячкі, і вяскоўцы прапануюць паспрабаваць варажбу (абвязаць сырой ніткай хворую і потым кінуць гэтую нітку на ростанях, каб зняць хваробу). Герой апавядання катэгарычна адвяргае гэтую недарэчную задуму. Але становішча хворай робіцца ўсё цяжэй. І тут у душы прафесара разыгрываецца страшэнная барацьба. Жах страціць каханага чалавека, усведамленне бяссілля навукі падказваюць думку аб тым, каб паспрабаваць усё, нават забабоннае дзейства з ніткай. Але гэта азначала б здраду тым прынцыпам, па якіх жыве прафесар. Доўга цягнецца гэтая барацьба ў яго душы, але пачуццё кахання перамагае, перамагае перакананне, што жыццё каханай важней за ўсе абстрактныя прынцыпы.

Ідэя свабоды выбару, свабоды, якая вызначае прыроду чалавека, яго адрозненне ад усяго, што жыве на зямлі, яго духоўную сутнасць — гэтая ідэя з'яўляецца ці не асноўнай у творчасці М. Гарэцкага. З асобай сілай яна выяўляецца ў п'есе «Антон». У гэтым творы барацьба духоўнага, светлага пачатку з варожымі яму сіламі набывае трагічны характар. Галоўны герой п'есы Антон цяжка ўспрымае грубасць, карыслівасць, ілжывасць бацькі, тое, што ён як ляснік, панскі слуга крыўдзіць аднавяскоўцаў, а галоўнае тое, што Аўтух п'янствуе: «Чым я вінават, што бацька мой п'янствам сваім жыць сям'і ўсёй не дае?» Антон на каленях моліць бацьку кінуць піць. Але Аўтух гатоў прапіць нават свайго ўнука, маленькага Іваньку, аддаўшы яго старцам у павадыры. Няменшым цяжарам гняце душу і тое, што Антон усведамляе безабароннасць простага чалавека перад уладамі. Але насуперак усяму герой прагне дабра, чысціні, імкнецца спазнаць ісціну. Усе яго думкі і пачуцці скіраваны да бога, да царквы. Праўда, і тут яго часам ахопліваюць сумненні: «Няўжо ж і поп не знае, няўжо ж і ў кнігах не напісана, як усё, што к чаму, адкуль яно, што будзе?» Менавіта пропаведзь святара адыгрывае злавесную ролю ў лёсе Антона: яго надломленая псіхіка не вытрымлівае.

Герой М. Гарэцкага не здольны пайсці на кампраміс з жыццём. У яго была магчымасць змяніць свой лёс, пайсці з вёскі, з бацькавай хаты (Аўтух меціў сына ў лёкаі ў дом памешчыцы), але сын адмовіўся здзейсніць бацькаву мару. Антон мог бы скарыцца і жыць як усе, плыць па цячэнні. Гэткую раду ў шчырай размове пасля царкоўнай службы і пропаведзі, уразіўшай Антона, дае яму аднавясковец Кузьма. На рэпліку Антона («Дасада ў мяне, дзядзька, на сэрцы, каб вы ведалі, што за дасада...») яго субяседнік адказвае: «Дасада не расада, на градку не пасодзіш... Пакінь ты, усяк людзі жывуць, а жывуць...» Аднак Антон не можа скарыцца і ў канцы канцоў адважваецца на страшны ўчынак, — забойства дзяцей.

Пра тое, які глыбокі філасофскі сэнс уклаў аўтар у вобраз і гісторыю жыцця Антона, гаворыць таксама змест перадапошняй сцэны п'есы. У ёй даецца спрэчка Доктара з Беларускім аўтарам. Першы адмаўляе існаванне душы, нейкага вышэйшага пачатку ў чалавеку: усё вызначаецца фізіялогіяй, законамі матэрыі. На гэта Беларускі аўтар пярэчыць Доктару: «Нашто ж тыя законы нашы далі чалавеку разуменне сваёй слепаты... Можа, гэта разуменне і натварыла бяды з Антонам...» Беларускі аўтар не можа згадзіцца з меркаваннямі Доктара аб пасіўнасці духоўнага пачатку, аб тым, што незадаволенасць, смутак народжаны толькі непаладкамі ў функцыяніраванні нейкага органа чалавечага цела. Доктару, які адмаўляе існаванне душы і прызнае толькі розум, Беларускі аўтар заяўляе: «Лепш памерці, чым жыць «вумнай» жывёлінай. А Антон? Няўжо ж мукі яго, самагубства яго — не драма чалавецкага духу, а ненармальны выпадак, бо цэлу было дрэнна?» Пісьменнік адмаўляе магчымасць пабудовы вартага чалавека гарманічнага грамадства на аснове толькі рацыяналістычнага пачатку, розуму. Згадзіцеся, што гэтыя думкі Максіма Гарэцкага сугучны нашаму сучаснаму погляду на свет, нашаму адыходу ад спрошчаных рэцэптаў шляху чалавецтва да гарманічных грамадскіх адносін, нарэшце, нашаму імкненню вывесці людзей з патока бездухоўнасці.

У гэтым невялікім нарысе закранута толькі адна з граней творчасці Максіма Гарэцкага — з мэтай прыцягнуць увагу чытача да яго мастацкай спадчыны. Думаецца, што і літаратуразнаўства наша яшчэ недастаткова асэнсавала і ацаніла той значны ўклад у развіццё беларускай культуры, які зрабіў гэты найсумленнейшы і мудры мастак.

**Валянціна АГАРКАВА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

г. Мазыр.

РЭЗАНАНС

# Закон быў парушаны

Напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савета на пасяджэнні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны разглядалася пытанне аб Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі ў Гародні. Камісія канстатавала, што Гарадзенскі аблвыканкам, прыняўшы рашэнне аб перадачы праваслаўнай царкве памяшкання колішняга уніяцкага манастыра (цяпер Музей рэлігіі), парушыў пэўны артыкул Закона Рэспублікі Беларусь «Аб культуры». Тым больш, што тымі ж пастановамі аблвыканкам вызначыў для размяшчэння музея плошчы, меншыя чым тыя, якія музей займае зараз, і яны патрабуюць складанай доўгатэрміновай навукова абгрунтаванай рэстаўрацыі.

Камісія Вярхоўнага Савета РБ лічыць, што абвостраная сітуацыя, якая склалася ў сувязі з гэтым паміж музейнымі работнікамі і вернікамі розных канфесій — вынік дакладна не прадуманых, аднаасобных дзеянняў аблвыканкама, ігнараванне ім рэкамендацый урадавай камісіі, якая вывучала гэтае пытанне на месцы, нежаданне прыслухацца да абгрунтаваных просьб Гарадзенскага гарвыканкама, Міністэрства культуры і Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі.

У сітуацыі мела месца і парушэнне існуючага парадку рэгістрацыі жаночага манастыра з боку Упаўнаважанага па справах рэлігій пры Савеце Міністраў Беларусі.

У сувязі з вышэйадзначаным Камісія Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны пастанавіла:

Прыняць да ведама становішча з Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі рэлігіі, якое склалася ў выніку неабгрунтаваных дзеянняў Гарадзенскага аблвыканкама. Падтрымаць прапанову намесніка старшыні Гарадзенскага аблвыканкама А. Калодкі аб тым, што ў перспектыве Дзяржмузею будзе перададзены ў мэтах паляпшэння яго ўмоў дзеяння таксама 12-кватэрны дом побач з будучым музейным комплексам па вул. Замкавай, 16.

Рэкамендаваць Гарадзенскаму аблвыканкаму ў тэрмін да 1 снежня 1992 года распрацаваць навукова-каштарысную дакументацыю на рэстаўрацыю комплекса музейных будынкаў па вул. Замкавай, 16 і вырашыць усе неабходныя арганізацыйныя пытанні:

да 1 верасня 1993 г. адсяліць з памяшканняў, што прызначаны музею (вул. Замкавая, 16), усе староннія арганізацыі;

рэстаўрацыю комплексу будынкаў правесці за кошт сродкаў абласнога бюджэту;

распрацаваць каляндарны план і графік правядзення рэстаўрацыйных работ;

у існуючым парадку, але не пазней 1 студзеня 1993 года, перадаць аб'ект з балансу дзяржаўна-камерцыйнага ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры аблыканкама на баланс Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі.

Камісія Вярхоўнага Савета лічыць, што далейшыя рэлігійныя мерапрыемствы ў царкве Раства-Багародзіцы (вялікая выставачная зала музея) павінны праводзіцца толькі са згоды і ўдакладненняў адміністрацыі музея гісторыі рэлігіі.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЦІ ТРЭБА РАДАВАЦЦА?

Гэты ліст я вырашыў напісаць з нагоды выхаду ў свет перавыдадзенай кнігі В. Ластоўскага «Кароткая гісторыя Беларусі». У адрозненне ад іншых гэтая падзея ў мяне выклікае супярэчлівыя пачуцці. Яно, можа, і добра, што літаратурная спадчына Ластоўскага стала даступнай шырокай аўдыторыі. Але я лічу, што перадрукаванне кніг такога кшталту працуе далёка не на карысць Адраджэння. У гэтых кніжках (я маю на ўвазе яшчэ і нядаўна выйшаўшы ў свет «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» У. Ігнатоўскага) пададзена канцэпцыя гісторыі Беларусі пачатку стагоддзя, згодна якой назва заходняй часткі Беларусі — Літва, імя нашых продкаў — літоўцы, альбо ліцьвіны, а разам з гэтым і наша славутая гісторыя ні за што ні пра што аддадзены суседняму народу, сучасным жмудзінам-летувісам. Народ гэты да гістарычнай Літвы ніякіх дачыненняў не меў. Аўтараў прыгаданых кніг вінаваціць няма ў чым, яны для свайго часу зрабілі ўсё, што маглі, і мы, нашчадкі, удзячны ім за іх працу. Тады гістарычная навука стаяла на іншым узроўні, чым зараз. Не было даследаванняў, якія зрабіў у наш час М. Ермаловіч і іншыя нашы адраджэнскія гісторыкі. Дык вось, хачу задаць пытанне выдаўцам (ці хто за імі стаіць): ці не адкіне гэта гістарычную свядомасць нашага народа на стагоддзе назад? Звычайны беларускі хлопец, напрыклад, з Наваградчыны ці Гарадзеншчыны прачытаўшы «Кароткую гісторыю Беларусі», можа ўспрыняць яе ісцінай у апошняй інстанцыі. Дзякуючы гэтай кніжцы ён аднясе гісторыю сваіх продкаў, кроў якіх цячэ ў яго жылах, да суседняга народа. Добра было б яшчэ, калі б усе гэтыя моманты былі распаведзены ў мастацкай літаратуры, дык не, там таксама наш славуты назоў, а разам з ім і наша гісторыя аддадзены на карысць суседзяў.

Прыгадваю, як вядомы і нацыянальна свядомы беларускі гісторык выступаў з дакладам у «Беларускай хатцы» перад сябрамі клуба «Выбранецкія шыхты». Я задаў яму пытанне на гэтую тэму. Ён адказаў, што калі мы вернем у свядомасць заходніх беларусаў іх гістарычны назоў, то Беларусь пачне раздзяляцца... Мне было дзіўна гэта чуць. Бо яшчэ невядома, хто ад гэтага выйграе альбо прайграе. Заўважце, як занерваваліся жмудзіны-летувісы, калі ў нашым друку пачалі падзяляць разуменне «Літва» (гістарычная) і «Летува» (этнічная). Трэба, каб беларус мог без праблем набыць кнігу па гісторыі Бацькаўшчыны на ўзроўні свайго часу, на ўзроўні дасягненняў сучаснай беларускай гістарычнай навукі, тады адраджэнне беларускай свядомасці пойдзе па-сапраўднаму.

**Алесь ГУРЫНОВІЧ.**

г. Менск.

# З ВЕРАЮ Ў АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

(Пачатак на стар. 1).

вуліцы, дзе размяшчаліся рэдакцыі літаратурна - мастацкага часопіса «Вольны Сцяг» (рэдагаваў Я. Купала) і дзіцячага часопіса «Зоркі» (рэдагаваў З. Бядуля), завітаў тагачасны рэдактар газеты «Савецкая Беларусь» Цішка Гартны. Ён прынёс навіну — выпуск гэтых часопісаў спыняецца, пачнуць выдавацца часопісы іншыя — савецкія, а таму «трэба будзе пераключыцца на новы стыль працы». На пытанне: «Хто так вырашыў?» Гартны адказаў: «У Агітпропе пастанавілі, што замяж «Вольнага Сцягу» будзе выдавацца часопіс «Полымя Рэвалюцыі», а заміж «Зорак» яшчэ не выдумалі, што выдаваць, але зараз нешта выдумаюць».

Пасля гэтых слоў цішыню, якая настала, парушыў Я. Лёсік, які заўважыў, што часопісы ствараюцца, каб існаваць доўга, а таму навошта «Полымя Рэвалюцыі», рэвалюцыя ж прайшла. Ды і як зможа трапіць за мяжу часопіс з такою назваю, а мы ж хочам пасоўваць нашы выданні і туды.

Янка Купала сказаў, што на яго погляд, ні «Полымя Рэвалюцыі», ні «Полымя» без «Рэвалюцыі» не выяўляюць зместу часопіса, што і назваю часопіса «Вольны Сцяг», які рэдагуе, таксама незадаволены. Ён прапанаваў назву, якая можа характарызаваць эпоху абуджэння беларускага народа, — «Адраджэнне». Яго падтрымаў З. Бядуля і прапанаваў замест звыклага «Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!» паставіць лозунг «Адраджэння зара над народам блісне».

Гартны ў Агітпропе змог пераканаць партыйных чыноўнікаў, што «Адраджэнне» — лепшая назва. Адзін нумар такога часопіса выйшаў улетку 1922 года, але затым яго выданне было спынена.

Яўхім Кіпель успамінае, што потым пры сустрэчы з ім Гартны растлумачыў прычыну. Выклікаў яго Кнорын і загадаў спыніць выпуск часопіса, бо з Масквы прыйшоў ліст, дзе гаворыцца, што «Адраджэнне»— назва буржуазная і супрацькамуністычная, выказваецца незадаволенасць. А таму, відаць, давядзецца спыніцца на «Полымі».

Часопіс пад такою назваю выйшаў у снежні 1922 года. Зварот рэдакцыі да чытачоў «Нашы заданні», які, відаць, пісаў Ц. Гартны, быў ужо вытрыманы ў духу часу, патрабаванняў Агітпропа, таго ліста з Масквы. Выданне абвяшчалася часопісам «беларускай рэвалюцыйна - марксісцкай думкі». Вось некалькі вытрымак з рэдакцыйнага артыкула:

**«...Для нас, рэвалюцыйных марксістаў, нацыянальнае адраджэнне не ёсць самамэта — яно толькі сродак прылучэння шырокіх працоўных гушчаў да рэвалюцыйнай творчасці, да чыннага будаўніцтва Савецкай Беларусі.**

**...Тыя, хто нашу праграму прымуць, пойдуць за намі. Усе ж, хто не знойдзе смеласці яе прыняць, пойдуць супроціў нас. Сярэдзіны мы не прызнаём, ды яе й быць не можа.**

**Мы будзем адкрыта змагацца супроціў усіх незалежнікаў, супроціў тых, дзеля каго пытанне нацыянальнага адраджэння ёсць пытанне дзяржаўнага абасобку, супроціў таго, хто лічыць савецкую сістэму часовым злом, якое трэба перажыць...**

**«Полымя» — гэта часопіс барацьбы, а не часопіс акадэмікаў. Мы, рэвалюцыйныя марксісты, навуку нашага змагання і нашых дасягненняў будзем заносіць на старонкі нашага часопіса. Усе тыя, хто хоча разам з намі працягваць далей змаганне пад рэвалюцыйным сцягам, няхай ідуць да нас. У нашы рады, няхай пасобяць нам вызваліць беларускую культурную работу ад станкоў народніцтва й нацыяналістычнай рэакцыі...»**

Нічога не скажаш, грозна, цвёрда і безапеляцыйна. Аднак адразу трэба зазначыць, што дэкляраваны артадаксальна - бальшавіцкі накірунак на працягу ўсяго існавання часопіса падпраўляла жыццё, карэкціравала сама жывая творчасць беларускіх пісьменнікаў, якая не ўкладвалася ў гэтае пракруставa ложа. Нягледзячы на ідэалагічны манапалізм, на жорсткую цэнзуру, на старонках «Полымя» заўсёды, нават у самыя змрочныя часы, білася то ледзьве прыкметна, то з новаю сілаю ідэя нацыянальнага адраджэння, незалежнасці, яно даносіла да чытача таленавітае беларускае мастацкае слова. Згадаем імёны тых, хто друкаваўся ў часопісе ў дваццатыя гады: Янка Купала, Максім Гарэцкі, Якуб Колас, Язэп Пушча, Паўлюк Трус, Міхась Зарэцкі, Кузьма Чорны, Сымон Баранавых, Барыс Мікуліч, Платон Галавач, Алесь Жаўрук, Юлі Таўбін, Змітрок Астапенка, Уладзімір Дубоўка, Валеры Маракоў, Янка Скрыган, Міхась Чарот, Змітрок Бядуля, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка, Міхайла Грамыка і многія іншыя пісьменнікі, усіх цяжка пералічыць.

**— Тым самым, ёсць мажлівасць гаварыць, што часопіс «Полымя» ў нейкай ступені —і гісторыя нашай нацыянальнай літаратуры...**

— Бясспрэчна, бо з яго старонак прыйшлі да шырокага чытача самыя лепшыя набыткі айчыннае літаратуры. Але ж часопіс быў заўсёды не толькі люстэркам літаратурнага працэсу ў рэспубліцы. Ён, калі так можна сказаць, пісаў пастаянна гісторыю культуры і навукі Беларусі. Тут з нумара ў нумар падавалася хроніка падзей, якія адбываліся ў розных сферах жыцця.

**— Пагаджаюся з вамі. часопіс — гісторыя не адной літаратуры, а і культуры, навукі. Гісторыя самога часу — нездарма ж выданне літаратурна-мастацкае і грамадска - палітычнае.**

— «Полымя» рэгулярна асвятляла працу па адраджэнні нацыянальнай культуры, мовазнаўчай, гістарычнай спадчыны. з яго матэрыялаў сёння бачыш, якім агромністым інтэлектуальным патэнцыялам валодала Беларусь у дваццатыя гады. І зроблена было лепшымі прадстаўнікамі нашай інтэлігенцыі шмат. Вось толькі некаторыя штрыхі актыўнага працэсу беларусізацыі: «У Інбелкульце Вайсковая камісія прыняла 385 тэрмінаў, якія датычацца вайсковай справы.., а таксама змест «Вайсковае прысягі» на беларускай мове», «Інбелкультам сабрана да 120 тыс. слоў для слоўніка жывое беларускае мовы», «ЦБ Краязнаўства пачало працу па збору матэрыялаў для геаграфічнага слоўніка. Слоўнік будзе мець каля 200.000 тэрмінаў», «Аддзел мовы і літаратуры ІБК прыступае да апрацоўкі гістарычнага слоўніка», «Настаўнік Л. Іваноўскі ўлажыў пачатковую французска - беларускую граматыку для малодшых класаў сямігодак».

Чытаеш і думаеш: які быў размах адраджэнскае працы, якімі апантанымі ў сваёй дзейнасці былі лепшыя творчыя сілы народа! Але з сумам даводзіцца канстатаваць, што, скажам, такіх слоўнікаў у Беларусі і сёння няма.

Часопіс расказваў пра станаўленне беларускага музычнага мастацтва, тэатра, пра выхад беларускай культуры ў блізкае і далёкае замежжа.

Вялікія планы намячаліся, шкада, што гэтая, такая неабходная для нашай нацыі праца, не здзейснілася. Сёння, на новым этапе беларускага адраджэння, мы асабліва востра адчуваем гэтыя страты.

**— Так, часопіс пісаў гісторыю, але, як мы ўсе сёння добра ведаем, гэтая самая гісторыя атрымліваецца вельмі непрывабнай. Ды, як кажуць, слова з песні не выкінеш... Нумары «Полымя» за трыццатыя гады сведчаць, наколькі «класавая нянавісць» прасочваецца не тое што з кожнай кніжкі, а ледзь не з кожнай старонкі.**

— І гэтыя чорныя старонкі нашай гісторыі трэба ведаць, бо, на вялікі жаль, усё паўтараецца. Вопыт мінулага, як бачым, не стаў засцярогаю, нічому не навучыў сённяшніх змагароў «з класавых пазіцый». Прывяду толькі некалькі выразаў, азначэнняў: «гнілая інтэлігенцыя», «нацыяналістычная абмежаванасць», «антысаветчына», «нацыяналістычная пазіцыя», «звярыная нянавісць да рэвалюцыі», «беларуская контррэвалюцыя», «варожая ідэалогія». Гэтая, знаёмая па «Полымю» трыццатых гадоў, тэрміналогія кінецца кожнаму ў вочы, варта толькі пагартаць падшыўкі газет — органаў ЦК КПБ, абкамаў, гаркамаў, райкамаў — за апошнія гады. Ды і ў сённяшніх рускамоўных, як яны сябе абвяшчаюць, «дэмакратычных выданнях», што плодзяцца на Беларусі, нібы пырнік на агародзе ў нядбайных, ляных гаспадароў, усё тая ж тэрміналогія, тыя ж нападкі на свядомую нацыянальную інтэлігенцыю, на сапраўды дэмакратычныя сілы, на родную мову, на суверэнітэт, незалежнасць нашай рэспублікі.

А калі вярнуцца ў той даўні час, то трэба шчыра сказаць, што за «класавай нянавісцю», якая пачала выплюхвацца на старонкі многіх літаратурных выданняў яшчэ ў канцы дваццатых гадоў, часта хаваліся групаўшчына, барацьба за лідэрства, за ўладу, звычайная зайздрасць бяздарных калялітаратуршчыкаў да таленавітых творцаў. Канечне ж, сцвярджаючы гэта, я не скідаю з рахунку і палітычны, ідэалагічны аспект. Таталітарызм, сталіншчына нагняталі атмасферу падазронасці, варожасці, нацкоўвання адных на другіх. Знайсці, выкрыць ворага, хай сабе гэта будзе і твой бацька альбо брат, — такая была ўстаноўка для кожнага грамадзяніна Краіны Саветаў. А ў літаратуры пошукам ворагаў занялася белапаўская крытыка, якая падзяліла беларускіх пісьменнікаў на буржуазных, спадарожнікаў, сялянскіх, пралетарскіх. Друкавала такія «опусы» і «Полымя». Паказальныя ў гэтым плане разгромныя артыкулы, скіраваныя супраць «Узвышша», супраць асобных пісьменнікаў, такіх, як Я. Пушча, У. Дубоўка, П. Трус, К. Крапіва, З. Бядуля, К. Чорны.

У гэты час поруч з вобразам кулака, якога трэба ліквідаваць як клас, фармуецца яшчэ і вобраз новага ворага — «нацдэма», прыдумляюцца міфічныя контррэвалюцыйныя арганізацыі, такія, як «Саюз вызвалення Беларусі» і іншыя.

У трыццатыя гады многія крытычныя артыкулы «Полымя» (асабліва Л. Бэндэ, М. Клімковіча, А. Кучара, А. Сянкевіча, М. Піятуховіча, А. Александровіча, Я. Бранштэйна) нагадваюць палітычныя даносы, абвінавачыя акты. Так званая «літаратурная барацьба» была толькі невялікаю, бачнаю часткаю той маштабнай, жорсткай, бязлітаснай вайны са сваім уласным народам, якую павялі, каб утрымацца пры ўладзе, Сталін і ягоныя апрычнікі. Астатняе дараблялі каты ў засценках ГПУ і НКУС. Малапісьменныя, абмежаваныя, цынічныя, упэўненыя ў сваёй беспакаранасці, яны глуміліся над безабароннымі людзьмі, галоўнаю сілаю якіх былі толькі розум, інтэлект, талент. Махавік рэпрэсій у дачыненні да беларускіх пісьменнікаў раскручваўся з вялікай хуткасцю.

Дарэчы, і само «Полымя», якое друкавала на сваіх старонках палітычныя даносы, падверглася бязлітаснаму ўдару белапаўскай дубіны ў дакладзе М. Клімковіча на III пленуме праўлення ССП СССР, што праходзіў у лютым 1936 года ў Мінску. Да гэтага часу быў ужо выключаны з членаў рэдкалегіі часопіса Янка Купала (рабіў замах на сваё жыццё!), яе акупавалі белапаўцы. Часопіс, які выходзіў з 1932 года пад назваю «Полымя рэвалюцыі» (вярнулася агітпропаўскае найменне!), вымушаны быў надрукаваць такую ацэнку сваёй дзейнасці: «...«Полымя» стала цэнтрам арганізацыі нацыяналістычных сіл літаратуры, ужо з першага нумара стала прапагандыстам «адраджанізма», г. зн. контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай плыні за «адраджанізм» буржуазнай культуры, за рэстаўрацыю капіталізму і ліквідацыю Саветаў. За спінай «Полымя» стаяла контррэвалюцыйная нацдэмаўская арганізацыя... «Полымя» за 1923—26 гады друкавала шэраг антысавецкіх і ярка нацыяналістычных твораў (п'есы, вершы, крытычныя артыкулы, публіцыстыка)...» Вось так, ні больш, ні менш. Трэба садзіць не толькі тых, хто працаваў ці друкаваўся ў «Полымі», але і сам часопіс, калі б гэта было магчымым.

Мінулае не пераробіш, не перапішаш, як чарнавік верша альбо апавядання. Гісторыя пішацца, як кажуць, начыста. Хоць слова «начыста» тут не падыходзіць. Гады сталіншчыны — самы змрочны гістарычны прамежак у жыцці савецкага грамадства — так набрынялі крывёю бязвінных ахвяраў, столькі ўвабралі ў сябе людской подласці, маральнага бруду, беспадстаўнай жорсткасці, нянавісці, што, чытаючы дакументы таго часу, пачынаючы з садысцкіх рэзалюцый «бацькі ўсіх народаў» і канчаючы даносам маленькага чалавечка «з нізоў», сапраўды можна звар'яцець.

Канечне ж, тым, хто катаваў і расстрэльваў, хто свядома падпіхваў бязвінных людзей у сталінскія жорны, не можа быць ніякай літасці. Яны ведалі, што робяць. Нездарма «жалезныя наркомы», «верныя сталінцы» пасля смерці «бацькі» кінуліся «падчышчаць» ягоныя архівы.

Сляды замяталі не толькі сталінскія апрычнікі. Яшчэ студэнтам універсітэта, шукаючы творы свайго дзядзькі — рэпрэсаванага ў 1936 годзе беларускага паэта Сяргея Ракіты (Сяргея Васільевіча Законнікава), я заўважыў, што з падшывак газет і часопісаў 30-ых гадоў, якія захоўваюцца ў нацыянальнай бібліятэцы (былая Ленінка), выразаны лязом або вырваны многія артыкулы. Ды ва ўсіх бібліятэках, ва ўсіх падшыўках сляды сваёй «працы» не знішчыш, «напісанае застаецца»...

Але я хачу сказаць і пра яшчэ адзін аспект у дачыненні да гэтай няпростай нашай гісторыі. Сёння шмат гаворак вядзецца вакол тых «прызнанняў», якія зрабілі ахвяры сталінскіх рэпрэсій пасля допытаў у засценках ГПУ і НКУС. Некаторым вельмі карціць, каб гэтыя «сенсацыйныя матэрыялы» былі абнародаваны. Аднак мы ўжо ведаем, як фастрыгаваліся такія «прызнанні»: падтасоўкаю, падманам, нават подпісы ставіліся пад капірку, ды і на якія толькі «штукарствы» не былі здатныя следчыя таго часу. Пасля пабояў, зверстваў, у такім стане, калі ад чалавека ўжо нічога не засталося, можна падпісаць што хочаш, нават смяротны прыгавор самому сабе. Так яно часта і было. А таму хочацца сказаць: людцы, майце сумленне, не трывожце, не чапайце гэтыя душы! Хай яны спяць спакойна, бо заслужылі гэта не толькі тым, што імі было зроблена для Айчыны, але і сваімі страшнымі пакутамі.

Кожнаму з нас сёння трэба судзіць не іх, пакутнікаў, а сябе. І спытаць: «А ці здзейсніў ты хоць нейкую часцінку таго, што паспелі зрабіць для адраджэння Беларусі за сваё кароткае жыццё яны?»

**— Такі час, такая эпоха, як сказаў знакаміты паэт. Але «Полымя» цікавае сёння і тым, што можна прачытаць у ім творы многіх з тых, на каго пасля было накладзена своеасаблівае табу. Скажам, творы Юркі Віцьбіча, які апынуўся ў эміграцыі.**

— У «Полымі» друкаваўся не толькі Віцьбіч, а і Сяднёў, Арсеннева, Кандраценя, Целеш і многія іншыя таленавітыя пісьменнікі. З творчасцю многіх пісьменнікаў - эмігрантаў, якая таксама з'яўляецца часткаю беларускай літаратуры, наш часопіс актыўна знаёміць сваіх чытачоў у апошнія гады.

**— Бадай, нельга не сказаць яшчэ пра адзін бок даваеннай дзейнасці часопіса. Канешне, у тым, што членам рэдкалегіі «Полымя» з'яўляўся Іяганес Бехер, можна ўбачыць і даніну таму славутаму «інтэрнацыяналізму», які панаваў тады. А з другога боку — «Полымя» ж па сутнасці паклала пачатак трывалым беларуска-нямецкім літаратурным узаемасувязям?**

— Як і ў тыя часы, так і сёння для развіцця перакладчыцкай дзейнасці, для ўзаемасувязі літаратур вельмі важныя асабістыя кантакты, сяброўства пісьменнікаў. У час паездкі ў Германію ў 1927 годзе Цішка Гартны, Міхась Чарот і Міхась Зарэцкі пазнаёміліся з нямецкімі пісьменнікамі І. Бехерам і Г. Полем, дамовіліся аб супрацоўніцтве. Пасля гэтага ў «Полымі» былі надрукаваны вершы і апавяданні Іяганеса Бехера, таксама яго антыфашысцкі раман «Адзіная справядлівая вайна» («Люізіт») у перакладзе Ю. Зэмеля. Дарэчы, гэты твор не прапускала ў друк нямецкая цэнзура. А таму ён упершыню быў надрукаваны ў «Полымі» па-беларуску, а пасля ўжо выйшаў на нямецкай мове. Бехер пагадзіўся даваць у беларускі часопіс агляды нямецкай літаратуры, тэатра, мастацтва. Друкаваліся ў «Полымі» і творы іншых нямецкіх пісьменнікаў, скажам, Г. Поля, Ф. Вайскопфа.

Наогул, «Полымя» пастаянна публікавала шмат перакладаў з самых розных літаратур свету, агляды іхніх набыткаў. Цяперашні калектыў рэдакцыі працягвае гэтую добрую традыцыю. Хоць, скажу шчыра, па прычыне адсутнасці валюты для аплаты твораў іншаземных пісьменнікаў усё складваецца няпроста. Дарэчы, гэтая ж праблема паўстала і ў дачыненні да публікацыі перакладаў з літаратур блізкага замежжа, але мы не перапыняем сваёй цікавасці да творчасці лепшых пісьменнікаў з рэспублік былога СССР, бо нельга жыць ізалявана. Без узаемаабмену літаратуры, культуры розных народаў, і асабліва суседзяў, не могуць плённа развівацца. Перакладчыцкая праца, абмен духоўнымі каштоўнасцямі патрэбны сёння, як ніколі. Літаратура, культура могуць перакінуць кладку паразумення, сяброўства між народамі і ў наш жорсткі, насычаны недаверам і варожасцю час.

**— У гады вайны, як вядома, часопіс не выходзіў. Але ў пасляваенны час зноў асноўную службу нёс ён, па ім можна далей прасачыць развіццё нацыянальнай літаратуры...**

— Так ужо сталася, што «Полымя» было і застаецца важным асяродкам літаратурнага, культурнага, духоўнага жыцця Беларусі. Калі ўзяць толькі адну літаратуру, то яно выправіла ў добры шлях шмат твораў, якія сталі ўжо класікаю. Пералічыць усё апублікаванае і імёны аўтараў проста немагчыма, ды, відаць, і нявapта гэта рабіць. Яшчэ са школы для ўсіх пасляваенных пакаленняў беларусаў многія творы палымянскіх аўтараў сталі найлепшымі настаўнікамі, дарадцамі і сябрамі. Мы ўдзячныя сваім папярэднікам — былым супрацоўнікам «Полымя», якія здзейснілі многае па далучэнні суайчыннікаў да таленавітага мастацкага слова, да багатай духоўнай спадчыны народа.

**— Мы ўсё пра гісторыю, час пагаварыць і пра дзень сённяшні. Зноў жа — найбольш значныя літаратурныя творы прайшлі праз «Полымя»...**

— Пастаянныя чытачы «Полымя» ведаюць, што толькі за апошнія гады часопіс апублі-

каваў шмат значных твораў прозы. Гэта аповесці і раманы «Аблава» В. Быкава, «Голас крыві брата твайго» В. Адамчыка, «Злая зорка» І. Шамякіна, «Вяртанне да віны» І. Чыгрынава, «Лабірынты страху» А. Асіпенкі, «Но Пасаран», «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» В. Казько, «Бежанцы», «Краем Белага шляху» В. Карамазава, «Двое за нізкім столікам» А. Кудраўца, «Праклятая любоў» А. Жука, «Зона маўчання», «З воўчым білетам» С. Грахоўскага, «Сны імператара» У. Арлова, «За морам Хвалынскім» В. Іпатавай. А яшчэ нельга не ўспомніць апавяданні Я. Брыля, У. Дамашэвіча, Я. Сіпакова, драму А. Дударава «Злом», вершы і паэмы П. Панчанкі, М. Танка, А. Звонака, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, В. Зуёнка, П. Макаля. Шмат цікавых матэрыялаў было змешчана з літаратурнай спадчыны, па гісторыі нашага народа.

**— А дзень заўтрашні? Не толькі новыя творы, але, калі ўлічыць цяперашнюю сітуацыю ў эканоміцы, і ўсе іншыя праблемы...**

— І ўсё ж пачну з твораў, бо найпершы клопат рэдакцыі — знайсці таленавітых аўтараў, данесці іхні літаратурны набытак да чытача. Магу парадаваць нашых падпісчыкаў прыемнымі навінамі. Першы нумар часопіса за 1993 год адкрываецца аповесцю «Сцюжа» нашага пастаяннага і любімага аўтара Васіля Быкава. Гэта твор драматычны, псіхалагічны, філасофскі. Кожная новая аповесць Быкава, нягледзячы на пэўнае тэматычнае пастаянства, не падобная на папярэднія. Пісьменнік адшуквае новыя павароты, па-свойму асэнсоўвае гісторыю народа, наш нацыянальны характар. Словам, той, хто прачытае «Сцюжу», зразумее, што гэта сапраўдная літаратура.

Спадзяёмся, што другая кніжка «Полымя» за наступны год стане бестселерам. Тут будуць апублікаваны невядомыя творы выдатнага беларускага пісьменніка, чалавека трагічнага лёсу Максіма Гарэцкага, стагоддзе з дня нараджэння якога шырока адзначаецца ва ўсім свеце ў 1993 годзе. Гэта «Скарбы жыцця», «Лявоніус Задумекус», «Кіпарысы», «Ашуканы палітрэдактар», якія падаюцца з каментарыем дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны Гарэцкай і навуковымі тлумачэннямі. Змесцім таксама купюры з «Камароўскай хронікі», якія зрабіла «звышпільная» цэнзура пры падрыхтоўцы чацвёртага тома збору твораў пісьменніка.

Шмат цікавага знойдуць чытачы ў раздзелах і рубрыках: «З літаратурнай спадчыны», «Старонкі нашай гісторыі», «Вяртанне». «Успаміны. Дзённікі. Дакументы.», «Публіцыстыка», «Крытыка і літаратуразнаўства». «Культура мовы».

Што да клопатаў фінансавых, эканамічных, то іх хапае. Раней галоўны рэдактар, як гэта і павінна быць, займаўся ў асноўным толькі творчым працэсам. А зараз кожны дзень узнікаюць нейкія матэрыяльныя праблемы: і вялікія, і дробныя. А яшчэ бяда, што паліграфічная база ў рэспубліцы зношаная, дэфіцытам сталі папера, плёнкі для друку, ніткі, клей, смала і многае іншае.

Аднак пакуль што дзяржава, хоць і вельмі скупа, але падтрымлівае наша выданне, і гэта галоўнае. З усімі астатнімі праблемамі справімся самі.

**— Значыць, у сваё восьмае дзесяцігоддзе «Полымя» ідзе ўсё ж з аптымізмам?**

— А як жа жыць і працаваць без аптымізму сёння — у наш бязрадасны, няўстойлівы час? «Полымя» шмат зрабіла для нацыянальнай літаратуры, культуры. Упэўнены, што і ў будучым яго ўклад у духоўнае жыццё незалежнай, суверэннай Айчыны застанецца такім жа важкім. Як бы цяжка нам ні было, калектыў рэдакцыі працуе самаадданa, сказаў бы нават, самаахвярна, са спадзяваннем на лепшае, з непахіснаю вераю ў сапраўднае адраджэнне роднай Беларусі.

# ТОК ЖЫЦЦЯ, альбо Экзістэнцыя ў белых адзежах

## Спроба літаратурнае крытыкі

Надакучыла чытаць прозу трывалую, мускулістую; кандовую, густую (чытаю часам і па-руску); добра спрацаваную, дубовую — калі завяршыць лагічны рад. Мову не абхітрыш— спрацаваная яна і ёсць спрацаваная. Да рэшты. А душа на тое і душа, каб прасіць прозы **жывой.**

Я чытаю жывую прозу ды зноў і зноў вяртаюся да загалоўка апавядання: «Дом на захадзе сонца» («ЛіМ» за 17.10.92). Аўтар — Марыя Вайцяшонак. Прачытаўшы-пражыўшы тэкст, яшчэ раз прабягаю вачыма, перабіраю вачыма-пальцамі вузлы, выступы, аб'ёмы гэтае карціны — чужога, але і майго жыцця. Успрымаю як сваё таму, што руінамі зямля наша поўная, і жывы чалавек успрымае натуральна нават не як непарадак — як бяду гэта зруйнаванае чалавечае жытло (жыццё!) без праблiску надзеі на аднаўленне.

Гэта — чысцюткая кропля вады, а ў яе глыбіні, бы ў той Свіцязі, праявы нашага існавання, нашае існасці. Удала, да часу падабрала аўтарка пару года: светлая, высокая восень. Наша пара. Ды толькі мроіцца мне, што поры года не пойдуць натуральным шэрагам, бо наша, беларуская, восень сапраўды пасля зімы, і гэтая восень — бы тая аддыханка цяжка хворага пасля крызісу: цела скутае стомай, той стомай, якая яшчэ нядаўна была смяртэльнай пакутай, але дух ужо спакойны, светлы, аблегчаны прадчуваннем блізкага ўздыму.

Так і ў Вайцяшонак — людзі дзівяцца, што жанчына кожны дзень ходзіць да абваленых муроў. Павінны зразумець, а можа, і ўжо разумеюць: чалавеку патрэбен храм.

Храм? На друзе? Тэатр на дошках — няхай сабе, але храм на руінах? Без святара?

І ўсё ж: так! Паганскія капішчы давалі болей свабоды чалавечаму духу і былі храмамі, аднак новы час запатрабаваў жорсткай арганізацыі ўсяго жыцця. Змянілася і рэлігія, стаўшы маністычнай, а ў абрадзе стварыўшы жорсткія каноны.

Цяпер шлях да дабрабыту пасля шматгадовага прыцірання знойдзены (краіны рынку). Іншы, крывавы, па-дураломску прамалінейны шлях, бачна, можа браць толькі ахвяры. Людзі гуртуюцца адзінаю небяспекаю, зямля стала цеснай. Тое, што было раней набліжэннем да Бога (ад паганскага пантэону багоў да аднаго), — сёння новае паганства (Хрыстос, Магамет, Буда, Крышна), і лунае недзе ідэя адзінага Храма.

Чытаю ў «Доме...» пра руіны, а сэрцам разумею: Храм! Храм жыцця і смерці — існавання. Гутару з Богам, дзякую яму за тое, што я ёсць, асуджаю тых, хто парушыў чужы дом, хачу (хоць ведаю, што няма спадкаемцы, які мог бы ажыццявіць), каб дом зноў стаў. Куды прытулюся душой далей — канешне, адразу прыкідаю, хоць розум ведае, што дом яшчэ доўга будзе ў руінах. Знойдзецца другі шыфр сустрэчы з Духам жыцця, з Богам — знойдзецца другое месца. У царкве? Ці магчыма знайсці папа, ксяндза і іншых, не абцяжаранага сваёй матэрыяльнай абалонкай? А іх неперадольная зацятасць, што менавіта яны, а не, скажам, баптысцкія прасвітары, бліжэй да Бога... Дык куды? Да багаяў? У храм-лотас? Мабыць, мабыць... Але пакуль — на руіны маёнтка, да вясковых хат з забітымі вокнамі, да друзу на месцы хутара ў лесе... Пяе душа шмат каго з беларусаў у поўным сугуччы з душой вайцяшонкаўскай жанчыны (з песні жальбы гэта ўсё больш становіцца элегіяй), і яна ўсё больш светлая і высокая. Днее...

З пункту гледжання мовы «Дом...» — гэта сапраўды ясны дзень, карціна, выкананая тонка, упэўнена і па-майстэрску дасканала; гэта той выпадак, калі рукою творцы водзіць не розум, а сэрца, і мова ліецца сама сабой, прабіваючы сабе нечакана дарогу там, дзе ўжо збуцвела і стала небяспечнай старая гаць. **«Непрылюдны** чорны бусел!» А магла б напісаць «нелюдзімы» ды ці мала яшчэ як... Колер **«чыста галубовы», «галубовы ствол піхты»;** «Блакітны!» — усклікне нялімаўскі рэдактар і прывядзе рэзоны: няслоўнікавы варыянт; дзякуючы асацыяцыям з памылковым расейскім «голубой» і «голубам» ды зусім страціўшым колер словам «галубіць», сэнс слова раздвойваецца. Ці растройваецца? Адным словам, расстройваецца. Зацямняецца. «Блакітны!» — усклікне графаман, праверыўшы па славутым «Русско - белорусскому словарю» ў двух тамах.

А я паўтару, таму што паверыў: галубовы! Бо восень, улонне прыроды, мой позірк вандруе па дрэвах, хмызах, траве і зусім гатовы да сустрэчы з тымі апошнімі галубіцамі, якія яшчэ вісяць там-сям пры балотных купінах ды маюць не сіні і не блакітны, а свой галубовы колер. Ды і дзікія галубы, якія неўзабаве пралятаюць, як ты, чытач, ведаеш, спрэс шызыя з блакітам — акурат галубовы колер.

Электрычным токам працінае мяне і пакідае стойкае смыленне ў сэрцы вобраз гаспадара заняпалае сядзібы, які ўстаў нарэшце ў прыцемках насустрач прышлай: «...маленькая, усохлая, бы злежаная на цвёрдым галава, здавалася, вочы пільнуюцца, сочаць цябе, але сам чалавек нерухомы, злежаны, жывасіллем падняты на ногі, і ў вачах смяротная засяроджанасць». Я кажу: «Не, не ў вачах, а ў вуснах! Бо вочы не глядзяць». Але гэта маё, а тое аўтаркі, і мне яе тлумачэння досыць.

Як досыць аднаго слоўка з аўтарскага тэксту: «рукі **скрэплі»,** каб прыйшло знаёмае адчуванне немачы замёрзлых пальцаў, якімі няможна, бы яны з пластыліну, зашпіліць гузік на паўпальтку.

Імпануюць мне слоўкі, бы тыя самыя маргарыткі з маёнтка, якія растуць у жывой гутарковай беларускай мове і толькі калі-нікалі — адчувальна, усё больш па разнарадцы — праблісквагоць у халодным краявідзе пацятай маразамі беларускай літаратурнай мовы: «стыдаешся», «ейная», «маёнтак».

Мільганула гарэзлівая думка: а дай палічу, як робяць некаторыя дзеды-ўеды, колькі таго ці іншага слоўнага матэрыялу і ці не зашмат. Я — загадчык гаспадаркі ў мастацкай майстэрні! Гляджу на фота ў газеце перад загалоўкам «Дом...». Веру фатаграфіі. Пасмейся, пасмейся, дзеўчына! А як у цябе з фарбай... ну, скажам, сажай газавай? Не, тут у меру. У канцы дык зусім эканомія — белае слова «шчаслівa». А з грунтам? Скажам, слова «аберуч». «Аберуч» раз, «аберуч» два, «аберуч» тры... У канцы апраўдана, бо «нянька прытрымлівае сябе аберуч». Спачатку — таксама: «Гойдаюць аберуч калыску». А гэта— перарасход! Як могуць дрэвы ляжаць **«аберуч** абапіраючыся на зямлю», няхай яны і ўпалі ўдвох, пабраўшыся?! Нат у аднаго дрэва больш рук, чым дзве. Плаці мне, жанчыно, з аўтарскага ганарару за перарасход матэрыялу!

А вось не тая фарба, больш танная, чым трэба: «Згадка гарчыла **на вуснах».** А па каштарысе ды праекце трэба «гарчыла ў сэрцы» ці яшчэ як, даражэйшай фарбай.

Альбо тут: у разбураным маёнтку трапляе на вочы, і заўсёды нечакана, «галубовы ствол піхты», якая «стаяла фосфаравым слупам на саракавы дзень». Па-першае, для жанчыны горыч жыцця, няхай і большая на заняпалым маёнтку, вакол якога мрояцца здані памёрлых блізкіх, — гэта горыч для яе ўжо сталая з'ява. Па-другое, не можа піхта, нечаканая ў зарасніках здзічэлае сядзібы, так моцна будзіць былое, як... фосфар, ды так недалёка па часе ад дня страты, на саракавіны. Перарасход, спадарыня! Плаці!

Ці вось: як доўга можа матляцца цыганскае кола на дарозе пасля таго, як цыганы ўжо схаваліся, зніклі з вачэй?

Але я спыняю маленькага чалавечка, якога ўжо панесла, бы таго каня. Кола якраз можа матляцца ўсё жыццё. Як і што каму запала. Бо пісьменнік піша карціны жыцця з сябе, і дзе яму браць матэрыял, як не ў сабе? Матэрыял, каб напісаць карціну жыцця. Карціну існавання Экзістэнцыі.

Адагнаўшы аканома, вяртаюся ў мастацкую майстэрню. Бяру з паліцы альбом па жывапісе.

Праглядаю. Еўропа. 14 ст. Мастакі яшчэ не ведаюць перспектывы. Няма светаценю. Карціны плоскія і нежывыя. 15 ст. Пачатак Рэнесанса. Адраджэння па-нашаму. Палотны ажываюць, і цешыцца душа.

**Яўген БЯЛАСІН.**

г. Брэст.

АДРАДЖЭННЕ

# Знаёмцеся: беларускае замежжа

Адной з прыкмет беларускага адраджэння нашага часу з'яўляецца ўсведамленне неабходнасці аб'яднання ўсяго народа. Лёс параскідаў беларусаў па многіх краінах свету: яны жывуць у Амерыцы, Англіі, Канадзе, Аўстраліі. У выніку гістарычных абставін апынуліся за межамі Бацькаўшчыны беларусы Беласточчыны. Доўгі час жыццё нашых суайчыннікаў за мяжой было вельмі мала даследаванай тэмай. Рэдкія артыкулы падавалі беларускім чытачам эміграцыю толькі ў негатыўным плане, выкрываючы эмігрантаў як здраднікаў і злачынцаў. У апошнія гады мы пачалі пазнаваць іх жыццё, іх культурныя здабыткі. Адарваныя ад Радзімы, гэтыя людзі працягвалі працаваць на ніве беларускай культуры, пашыраць і развіваць яе. У бібліяграфічным спісе «Беларускае замежжа» (дадатак да «Новых кніг Беларусі», 1992, №№ 7, 8) сабрана большасць публікацый (да мая 1992 г.), прысвечаных жыццю беларусаў за межамі Радзімы. Ён складаецца з дзвюх частак: у першай расказваецца пра жыццё беларускага замежжа, арганізацыі беларусаў-эмігрантаў і г. д. Матэрыял згрупаваны па краінах, дзе жывуць нашы суайчыннікі. У асобны раздзел вылучаны артыкулы, у якіх паведамляецца пра іх дапамогу ахвярам Чарнобыля, асобным жа раздзелам пададзены і публікацыі, у якіх асвятлялася праца Міжнароднага кангрэса беларусістаў — значнай падзеі на шляху ўзаемаразумення паміж беларусамі ўсяго свету. Кангрэс спрыяў пашырэнню сувязей паміж Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і прадстаўнікамі замежжа. У выніку ў фондах НББ павялічылася колькасць перыядычных выданняў беларусаў з ЗША, Канады, Англіі.

Другая частка спісу падае літаратуру пра асобных прадстаўнікоў беларускага замежжа і іх творы.

У нечым яна паўтарае структуру кнігі Б. Сачанкі «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні». Тут сабраны артыкулы пра спевакоў, кампазітараў, мастакоў, літаратараў, прадстаўнікоў навукі. Дакладней было б сказаць, што гэтая частка грунтуецца на даследаванні Б. Сачанкі, дапаўняючы звесткі з яго кнігі артыкуламі пра таго ці іншага дзеяча і некаторымі імёнамі. Найбольш поўна мы зараз інфармаваны пра літаратурную дзейнасць замежжа. Матэрыялы пра кожнага пісьменніка дапаўняе пералік яго твораў, надрукаваных як у Беларусі, так і за мяжой. Спіс знаёміць з дзейнасцю на Беласточчыне літаратурнага аб'яднання «Белавежа», са зборнікамі твораў яго членаў, пачынаючы ад першага «Рунь» (1959) да альманаха «Белавежа» (1988), якія падводзяць вынікі трыццацігадовай дзейнасці аб'яднання. У фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі захоўваюцца кнігі многіх прадстаўнікоў «Белавежы», але зноў жа з-за абмежаванага аб'ёму дадатка складальнік спыніўся толькі на творах пяці буйнейшых літаратараў: А. Барскага, В. Шведа, Я. Чыквіна, С. Яновіча, М. Гайдука. Значная колькасць артыкулаў пра асобных прадстаўнікоў беларускай дыяспары, на жаль, апублікавана толькі ў газеце «Голас Радзімы», якая ў асноўным разлічана на замежных чытачоў.

У спісе прадстаўлены тыя творы беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Але ж ёсць і іншыя зборы, напрыклад, у філіяле музея М. Багдановіча, у згуртаванні «Бацькаўшчына», мабыць, існуюць яны і ў іншых гарадах Беларусі. На жаль, Нацыянальная бібліятэка Беларусі не мае поўнай інфармацыі пра ўсе зборы эмігранцкіх выданняў. Добра было б выдаць зводны каталог эмігранцкай літаратуры з вызначэннем месца захоўвання таго ці іншага выдання.

**Т. МАЦВЕЕВА,**
**супрацоўніца навукова-бібліяграфічнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

**Васіль ЖУКОВІЧ**



## Белавежская пушча

Старажытны лес раздольны,
волатаў-зуброў гадуеш.
ласёў,
ланяў,
арлоў вольных,
ды ўсё жыцце стрэлы чуеш.

Зведаў шмат крывавых драмаў
ад налётаў нечуваных
каралёў, цароў і хамаў
(не былі тут толькі ханы).

Не, не флора вабіць бонзаў
і не фаўна, а — дзічына,
дачных соснаў медзь і бронза, —
браць умеюць простым чынам.

Лесе гожы, лес багаты,
рабаваны, абстраляны,
хто падлічыць тваё страты!
Хто твае загоіць раны!

## Народ не можа быць нямы

Не шанавалі роднай мовы —
чужая месца заняла.
Ды адрадзіць душу і слова
нам шанц гісторыя дала.
Народ не можа быць нямы.
Мы — не рабы! Рабы — не мы!

Браты! Адчайна заклікаем
на мове роднай размаўляць.
Любіце мову! — заклінаем.
Святыню будзем шанаваць.

Мы — не рабы! Рабы — не мы!
Народ не можа быць нямы.

## Прызнанне

Акраверш

Больш за ўсё люблю паэта —
Аўтара «Пагоні».
Гора здраднікам, каторых
Даганяюць коні!
Ах вы коні, гром з маланкай!
Не стрымаць Пагоні...
О, нясіце волю, радасць,
Віцязі, Краіне,
І няхай пад мечам здрада
Чорная загіне!

## Сучасная калыханка

Месяц спіць за аблачынкай.
Засынай ты, мой хлапчынка.
Я табе, сынок, спяю
песню сумную сваю.

Люлі-люлі, баю-бай,
немаўлятка, засынай.

Спі — і вырасцеш ты хутка.
Кім ты станеш, мой малютка!
Не падумай — песняром,
лепей, сынку, гандляром.

Кнігі цяжка выдаваць.
Лепей лоўка гандляваць.

Ходкім зоймешся таварам —
вечна будзеш ты з наварам.
Будзеш як у масле сыр...
Будзе высь твая і шыр!

З музаю, мой залаты,
без пары загнешся ты.

Злодзеем не станеш, можа,
красьці вельмі непрыгожа, —
скончыць можна і турмой!
А навучаць, мілы мой, —

не крадзі тады казу,
а крадзі казну, казну.

За казу ты купіш кукіш.
А казною ўсіх падкупіш,
сцены ты праб'еш казной...
Што я, родны! Што са мной!...
Люлі-люлі, не ўспрымай,
мой сыночак! Засынай.

## Праўды і гожасці рыцар

Ветка. Унікальны музей.
Кут захапленняў і лраў.
Дзе ж гаспадар-дабрадзей —
Фёдар Рыгоравіч Шкляраў,

той, хто ўратоўваў не раз
кніг неўміручае слова,
хто абразы
ад абраз
і ад агню
уратоўваў!

Дзе самавіты змагар,
той, хто ствараў без прынукі,
кніжнік, мастак і разбяр,
што залатыя меў рукі,

той, хто пра вечнае дбаў,
праўды і гожасці рыцар,
той, хто свой род памятаў,
каб чалавекам адбыцца!

Дзе ён! Што даў яму лёс!
Водгулле сумнага факту...
Болю ён шмат перанёс —
білі маланкі інфарктаў.

Ветка. Адметны куток.
Недзе хай свет мітуслівы.
Прыклад служэння — урок:
служыш дабру — ты шчаслівы.

**Мікола ВОРАНАЎ**



# ГАНАК

## Апавяданне

ДАГЭТУЛЬ пісьмы, адно-два ў год, прысылаў сын Павел, Мальвіна прывыкла, і раптам — нявестка напісала... «Няўжо прылучылася штонебудзь з Паўлам?..» — затрывожылася яна.

Пісьмо было кароценькае, паўлістка школьнага сшытка. Яніна пісала: усё добра ў іх, прасіла тэрмінова прыехаць пагасцяваць.

Узрадаваная, Мальвіна перачытала ліст і раптам насцярожылася: што гэта за тэрміновае гасцяванне?.. Штосьці тут... паспрабуй, адгадай... Карову яна прадала, грошы за яе пайшлі сыну з нявесткай. Чаго ім больш трэба? Прадаць Куліну?

Куліну — так нявестка назвала казу — Мальвіна купіла два гады назад, адразу ж, як прадала карову. Каза ды парсючок уся цяпер Мальвініна гаспадарка.

«Такі ж паеду...» Мальвіна села на ганак — запаветны, як думалася ёй. Сорак гадоў назад гэты ганак зрабіў з дубовых плашак муж Ігнат. Якраз у той дзень Мальвіну схапілі родавыя патугі. Кінуўшы сякеру, Ігнат пабег да старой Хрысціны: «Мусіць, радзіць збіраецца мая баба. Хадзі памажы, Хрысціна,— ты ў гэтай справе майстрыха».

Прыняўшы роды, Хрысціна параіла па даўняму звычаю закапаць пупавіну дзіцяці пад ганкам — пупавіна прывяжа сына да роднай хаты: будзе на старасць паіцель і карміцель.

Толькі адсвяткавалі хрэсьбіны, як давялося спраўляць памінкі: адрабляючы ў лесе гужавую павіннасць, трапіў пад яліну Ігнат, не адратавалі...

Павел удаўся ў бацьку: паслухмяны. Гэтага і баялася Мальвіна: нявестка ўе вяроўкі з сына, ужо навіла... Спатрэбіліся грошы — яна і падмовіла сына: няхай прадасць маці карову, менш клопату будзе з сенам, хопіць ёй і казы. Малака, вядома, хопіць, крыўдна не за гэта... Неяк у добрым настроі, выпіўшы, Павел прызнаўся: гаварыў жонцы, што хоча ўзяць маці жыць, а Яніна: «Або маці, або я — выбірай». Ён памуліўся, выбраў: «І ты, і маці». Яніна закісліла губы: «Шырока разяўляеш рот...»

Мальвіна сама не пайшла б на дзякаваны хлеб, мае на свой: пенсія, гаспадарка, — а пачуць запрашэнне была б рада, пранесла б па Хатолічах: «Нявестка ўпрошвае жыць у горадзе, праходу не дае...»

«Бач, зімовая цыбуліна: «Або маці, або я». Вось табе і сірата...» — пахітала галавой Мальвіна.

Яніна гадавалася ў дзіцячым доме, вучылася ў будаўнічым тэхнікуме — у тым, дзе і Павел. Пасля тэхнікума працавалі ў адным будаўнічым упраўленні, ажаніліся. Спярша атрымалі двухпакаёвую кватэру, а калі нарадзіла Яніна двайнятак, дзяўчынак, двухпакаёвую замянілі на трохпакаёвую — будаўнікоў жыллём не крыўдзілі. Неяк дзіўна атрымалася ў іх: сем гадоў пражылі — не мелі дзяцей, і раптам — прываліла... Пасля дэкрэтнага водпуску Яніна змяніла прафесію — зрабілася хатняй гаспадыняю.

«Паеду ранішнім аўтобусам. Выведаю, што змусіла яе прасіць у госці... — не пакідала Мальвіну цікаўнасць. — Каго б папрасіць паглядзець за казой, парсючком? Насцю, няма каго больш».

Старая Насця жыла напроціў — да яе і пусцілася Мальвіна. Пашанцавала: Насця стаяла пасярод двара, трымаючы пад пахай жаўтапёрага пеўня, чагосьці ўсміхалася. Мальвіна таксама ўсміхнулася, папрасіла:

— Можа б, прыгледзела, Насця, за жыўнасцю. Хачу з'ездзіць у Віцебск, нявестка дужа просіць.

— Добра, — згадзілася Насця. — Толькі спярша зрабі і ты мне паслугу — адсячы галаву гэтаму дурню.

Прыціснуўшы пеўня галавой да калоды, Мальвіна заплюшчыла вочы, замахнулася. Кароткі стук сякерай. Безгаловы певень, крывавячы траву, трапечучы крыллямі, прабег кругам і ткнуўся чырвоным абрубкам у трыпутнік.

Насця падняла і, прыгаворваючы: «Дакукарэкаўся, Пецька», — панесла скубці. Ля паветкі аглянулася:

— Прыгледжу, Мальвіна. Едзь.

Мальвіна памятала: аўтобус ад'язджае ў шэсць гадзін, а да прыпынку ў Дабрэйкаве пяць кіламетраў. Выбралася з дому на золку, пусцілася не дарогай, а напрасткі праз гару Веравойшу. Іншы раз прыпынялася, хапаючыся за грудзі: паколвала злева...

У Дабрэйкава прыйшла самы раз: толькі прысела пад стрэшкай прыпынку — да яго падруліў аўтобус, а праз дзесяць хвілін Мальвіна ўжо ехала. «Яны яшчэ спяць там, а я ўжо трасуся па дарозе да іх», — падумала яна. Дарога параўнела, аўтобус пакаціў шпарчэй.

Ёй пашанцавала: нявестка з сынам былі дома. Хатняй гаспадыні так і належала, а Павел, як потым дазналася, узяў адгулы, два дні. На свякрухіна прывітанне Яніна адказала ветліва, але абнімацца, як раней, не кінулася. Павел сустрэў матку здзіўлена.

— Што гэтак, мама, наскокам?

— Наскокам? Прасілі ж...

Лыпаючы вачамі, Павел падышоў, абняў матку.

— Ну расказвай, як там нашы Хатолічы?

— Усё на тым жа месцы. Пасля раскажу. Дзе ж унучкі?

— Ды тут. Валька, Нінка, — клікнуў ён. — Паглядзіце, хто ў нас. Дык ты ўзяла і прыехала?

«Ён пра пісьмо не ведае... Яніна яму не сказала...»

Прыбеглі ўнучкі, дзве кроплі вады: што значыць двайняткі! Мальвіна дала ім цукерак, пагладзіла па галоўках: «Рыжанькія, як апенькі...» — і глянула на сына:

— Пытаўся — што новага? Царкву адкрываюць. Ужо і поп прыехаў. Маладзенькі папок.

— Мусіць, толькі з семінарыі выйшаў,—заўважыў Павел.—Царквы яшчэ няма, а поп ужо ёсць.

— На Узвіжанне асвячаць будуць.

Запытаўшы: «Хто ў вас там будзе маліцца ў Хатолічах?» — Яніна пайшла ў кухню, хвілін праз дзесяць паклікала абедаць.

Абедаючы, Мальвіна здзівілася: нявестка з сынам ні разу не глянулі адзін на аднаго па-чалавечы, а касавурыліся спадылба, як ваўкі, — і не ўстрымалася:

— Што вы так скрыва? Нібы чорная кошка прабегла паміж вамі...

— Прабегла...— падхапіла Яніна. — Белая, а не чорная...

Знячэўленая, Мальвіна моргала, глядзела па чарзе на сына, на нявестку, нібы дапытваючыся: што за кошка?

— Белая, а не чорная,— паўтарыла Яніна.— Брыгадзіркай у яго на ўчастку... сцены квэцае... Начаваў у яе...

Мальвіне хацелася заступіцца за сына, сказаць: «Можа, дзе-небудзь так начаваў» — і не асмелілася, чакала сынавых слоў, павінен жа сказаць, дзе быў — праўду ці няпраўду. Павел маўчаў. «Чаго ён, як целяпень, слова не вымавіць?» — насцярожылася яна.

Янінін твар перасмыкаўся, вейкі паторгваліся. Ёй, мабыць, хацелася, каб Павел, апраўдваючыся, зазлаваў: «Хопіць лухту вярзці!» — і вылез, пакрыўджаны, з-за стала. Павел бяздумна глядзеў у акно, нібы нікога побач не было — ні жонкі, ні маткі.

І Мальвіна-такі не выцерпела:

— Ты ж скажы, Павел, дзе быў?

— Ведаем дзе.

— На рабоце?

— Ведаем дзе.

«Божа мой, што з ім? У яго ж змяркаецца ў галаве... А я думала — паслухмянец, па бацьку...»

На вачах у Яніны паказаліся слёзы:

— У яго белая ёсць... Нашто яму жонка, нашто яму дзеці... Нінка, Валька — ідзіце палюбуйцеся бацькам...

— Мы ім кожны дзень любуемся, — абазвалася Валька.

«Вось чаго яна запрашала мяне... разлад у сям'і... Каб я прысароміла, абразуміла Паўла», — здагадалася Мальвіна і думала, як абразуміць. Сяды-тады паглядала на нявестку. Шкада Яніны, твару на ёй няма — і раптам успомніла: «Або маці, або я...» Міжволі падумала: «Гэта яе бог карае... Гэта яе абразуміць трэба, а не Паўла...» Мальвіна помслівай не была, але крыўда варушыла душу. «Няхай ёй тое адгукнецца...» — і знарок запытала:

— Павел, а ці добрая яна, белая?.. Што ў яе ёсць?..

— Што і ва ўсіх баб...—зазлаваў-такі Павел і ўскочыў. — Ды ні ў кога я не начаваў. Адзін раз ездзілі ў Полацк, другі раз—не памятаю ўжо.. звышурочная работа, здаецца...

Мальвіна ўбачыла: нявестка супакойвалася, вейкі перасталі торгацца. Пачула, мабыць, тое, што хацела пачуць. Можа, праўду сказаў, можа, і няпраўду — балазе сказаў. А то ўпёрся, як у слуп...

Крыўда адхлынула, Мальвіна падумала: «Трэба ж і мне што-небудзь сказаць. Яна ж прыслала пісьмо, каб я...» Кашлянула ў кулачок.

— Павел, ужо немаладзён. Досыць у дурыкі гуляць. Бацька твой не дурэў. Час абразуміцца. Вунь дзеці ўжо якія...

Павел не адспрэчваўся, абедзве, нявестка і матка, былі задаволены. Яніна, лагаднеючы напомніла:

— Ад розуму — прыбытак, ад дурыкаў — убытак.

Павел пацвердзіў:

— Ад яблыні — яблыкі, ад ёлкі — шышкі.

Памалу, як бы прынюхваючыся, яны загаварылі паміж сабой так, быццам нічога і не было, не прабягала кошка, і Мальвіна адчула сябе нібы лішняй. Стараючыся паднаравіць і нявестцы, і сыну, напомніць, што яна, старая, жыве не на голым месцы, Мальвіна раптам зазлавала на сябе за тое, што забыла ўзяць завяшчанне, прывезці ім.

— Якое завяшчанне? — не зразумеў Павел.

— Была неяк у Дабрэйкаве, заглянула ў выканком — і падумала: трэба афарміць завяшчанне на сына...

Павел падумаў.

— Неабавязкова было. Я ж і так наследнік па закону. Нікога больш няма.

Думаючы штосьці сваё, Яніна раптам запытала:

— А застрахаваны дом?

— Усё, як у людзей. Застрахаваны. Ды і не згарыць мой дамок. З запалкамі гуляць няма каму, курыць няма каму.

У дзвярах пачуўся званок. Яніна падхапілася, адчыніла. Увайшоў мужчына ў бардовай кашулі. Здаравяк, а галоўка— як у хлопчыка. «Дзе я бачыла яго?.. — намагалася ўспомніць Мальвіна — і ўспомніла: прыязджаў неяк з Паўлам, як была ў яе карова, касіць. Два разы, расказваў Павел, гэты чалавек сядзеў за кражу.

— Праходзь, Рамуальд, праходзь, — запрасіла Яніна.

— Няма калі. Пазыч, Яніна, паўсоценьку. Во як трэба!..

Яніна адлічыла яму пяцьдзесят рублёў, засмяялася:

— Вось ты, Рамуальд, хвалішся: злодзей у законе. А я табе веру больш, чым каму.

## Мае сёстры

**Ой вы сёстры, мае вы сястрыцы!**
**Тры сястры — і ўсе тры удавіцы.**
**На пачатку дарог**
**хто падумаць бы мог,**
**што шчаслівай не быць**
**ні адной з трох дарог!**

**Тры дарогі, тры лёсы-нядолі.**
**Колькі слёзаў, пакутаў і болю!**

**За якія грахі**
**па трох сем'ях удар!**
**Ды нябесны ўсявышні**
**маўчыць валадар.**

**Рана свежая ў меншай сястрыцы.**
**Ой вы сёстры мае, працаўніцы!**

**Дзеці выраслі вашыя,**
**ўнукі растуць,**
**толькі вашым рукам**
**адпачыць не дадуць.**

**Дзе мне лекаў знайсці, мае сёстры, —**
**боль суняць,**
**і глыбокі і востры!**

●

**Малінавы шар канюшыны.**
**Паветраны шар дзьмухаўца.**
**Замёрлі маторы і шыны**
**прад чыстай красою тварца.**

**Сузор'е блакітнай валошкі**
**у моры жытнёвым гарыць.**
**Самотная сцежка-дарожка**
**па родных прасторах бяжыць.**

●

**Далікатная пяшчота,**
**ты заснула ў цішыні.**
**Бы вярнулася з палёту,**
**з дальніх даляў.**
**Адпачні.**

**Час начны.**
**А я да рання**
**ці на міг заснуць змагу!**
**Тваё лёгкае дыханне,**
**твой спакой**
**аберагу.**

●

**Ля баравіны а ці плёсу,**
**пад сонцам ці пад Шляхам Млечным**
**дзве блізкія душы,**
**два лёсы**
**так размінуцца недарэчна!**

**А недзе сыдуцца (чаму так!!)**
**несумяшчальныя, чужыя...**

**Каб душы блізкія ў пакутах**
**глыбей кахалі і тужылі!**

●

**Музы́ка мýзыку стварыў,**
**адкрыў гармоніі сакрэты —**
**ён ноткамі загаварыў**
**з зямлёю, зоркамі, сусветам.**

**Музыка слынны, як цудоўна,**
**што ёсць мелодыі твае,**
**што ёсць мастацтва від бязмоўны,**
**што мова гукаў існуе!**



Фота В. МАЙСЮКА.

Гэта цешыла Рамуальда, стрымліваў сябе ад паўнаты пачуццяў. Запыніў пагляд на Мальвіне:

— Ніяк не ўспомню, дзе гэта цябе бачыў?

— А я ўспомніла. Касіць прыязджаў з Паўлам. Растлумач: што гэта за злодзей у законе? Няўжо і злодзею закон пісаны?

Рамуальд засмяяўся:

— Злодзеі бываюць усякія. Як, напрыклад, куды раней: купец першай гільдыі, другой гільдыі... Я злодзей першай гільдыі...

Павел сашчаміў рукі, зарагатаў:

— Даўно, Рамуальд, па табе вяроўка плача...

«Бач, як добра жывуць з гэтым злодзеем першай гільдыі... — здзівілася Мальвіна. Успомніла, як Рамуальд на касьбе выматаўся сам, выматаў Паўла, і падумала: — Чаму ён, умеючы так працаваць, крадзе?»

Паўлавы адгулы кончыліся, пайшоў на работу. «Трэба і мне збірацца дамоў, — падумала Мальвіна. — Навошта, калі падумаць, прыехала? Нявестка пасварылася з сынам — і чалом б'е свякроўцы: ратуй. А ратаваць, аказваецца, няма каго, няма ад каго. Павел толькі здзівіўся: «Дык ты ўзяла і прыехала?..» Не ведае пра чалабітную...»

Яніна кудысьці пайшла, доўга не было. Вярнулася пахмурая, заскардзілася: чэргі ў магазінах бясконцыя, усё дорага, не дакупіцца. «Навошта яна мне гаворыць — ці я павышала цэны?» — пакрыўдзілася Мальвіна. Каля нявесткі, унучак адчула сябе адзінокаю куды больш, чым дома адна. Пaглядаючы ў акно, загаварыла, што трэба ехаць дамоў, пагасцявала — і хопіць.

Яніна прытворліва насупілася:

— Ужо? Пабыла б, можа, дзянёк яшчэ? Ну, як ведаеш, як ведаеш. Я праводжу цябе, пасаджу ў аўтобус.

Развітваючыся, Мальвіна цалавала ўнучак — Нінка з Валькай адварочваліся, гідзіліся старой, — прасіла Яніну прыехаць з імі ў вёску, адпачыць на прыволлі. Яніна паабяцала: вось Павел возьме водпуск...

У Дабрэйкава Мальвіна прыехала на захадзе сонца, дахаты пусцілася зноў напрасткі, праз Веравойшу.

Захад яшчэ палымнеў, а на ўсходзе загусала сутонне. На прыдарожных вольхах драмалі крумкачы з паапусканымі глюгамі. Было маркотна на старой дарозе каля дуплаватых вольхаў. Узышоў чырвоны, нібы акрываўлены, поўнік, павіднела. «Колькі людзей хадзіла тут да мяне і пры мне?..» — думала Мальвіна.

Не змеціла ў одуме, як апынулася ў Хатолічах. Ціха было на вуліцы, ні душы навокал. Але вось пачулася: «Но-о» — на паваротцы выплыў з ліловага змроку воз, забялелі дошкі, запахла смалою. «Хто гэта вязе?» — зацікавілася Мальвіна — і знерухомела ў здзіўленні: каля воза ішоў поп — папок, як называла яна ў думках. «Забыла, як жа завуць яго? — І ўзрадавалася, успомніўшы: — Вікенцій».

— Добры дзень, ойча, — першая павіталася яна.

— Добры вечар, маці, — адказаў Вікенцій.

«Трэба яшчэ нешта сказаць, трэба яшчэ...» — думала яна і не ведала, што сказаць. Запытала:

— Скора наша цэркаўка будзе гатова?

— Скора, скора. На Узвіжанне асвячаць буду.

Воз схаваўся ў змроку. «Напэўна, павёз дошкі рамантаваць цэркаўку, — падумала Мальвіна і затрывожылася: — Доўгі быў перапынак у маленні. Бог не дарує такіх канікулаў...»

Раніцай, толькі Мальвіна сабралася весці казу на лужок, у двор увайшла Насця, здзіўлена ўзняла вочы:

— Адгасцявала ўжо?

— Надакучыла. Сяджу — ні дома, ні ў гасцях.

Насця западозрыла: штосьці там было няладна, мусіць.

— Ці прывеціла ж нявестка?

— Прывеціла. Няўжо ж не. І Павел рад быў. Ты б, Насця, не пазнала цяпер майго Паўла: патаўсцеў, з лысінай. Не прараб, а прафесар.

Насця заўважыла: не кожны лысы — прафесар, не кожны прафесар — лысы, і глянула на грушу ля плота:

— Ого, колькі дуляў!

— А ты нашчыкай сабе. Ужо салодкія.

Пакуль Насця шчыкала дулі, Мальвіна адвяла казу на лужок, села кляпаць касу на калодзе.

— Аднесла б Сымону — не адмовіў бы, — заўважыла Насця.

— Сама пакляпаю. Нашто мне Сымон.

Праз год, як Мальвіна пахавала свайго Ігната, Сымон Гаўрута прыходзіў сватацца да яе, за свата быў ветэрынар Машчонак. Падпяразаны ручніком, Машчонак першы ўвайшоў у хату, пакланіўся ў парозе: «Жаніху сват — родны брат. Жывеш, Мальвіна, адна, як зязюлька, Сымон жыве адзін, як шпак. Па добрай згодзе прыкінем, як жыць-векаваць абаім» — і гэтак далей, і гэтак мудрэй.

Мальвіна адмовілася замуж; Сымона яна не ганіла, адмовіла дзеля сына, Паўла. Няхай сабе і добры чалавек Сымон, а ўсё-такі айчым будзе, чужая косць.

Пакляпаўшы касу, Мальвіна ўзяла пад застрэшкам хлява старую, купленую Ігнатам, мянташку і пусцілася за гарод пад алешнічак — там на латочыне сотак у дзесяць густа адскочыла атава. Каса рэзала, Мальвіна пагнала вузенькі пракос — і не змеціла, як дагнала. Заняла другі, падумала: «Да вечара, гуляючы, дакашу».

На трэцім пракосе раптам кальнула злева ў грудзях, застукала, як сарвалася, сэрца. Кінула касу, пачакала, пакуль адпусціць, і пасунулася ў двор; ідучы, спынялася, адпачывала. У хаце накапала з пляшачкі валяр'янкі ў лыжачку, выпіла і чакала палягчэння, трымаючы пляшачку пад рукою — кожны дзень трымае пад рукою, а другая, поўная пляшачка стаяла на палічцы ў запасе. Звярталася Мальвіна да ўчастковага ўрача Гасюты. Выслухаў, пахітаў галавой: «Сваволіць сэрцайка... Даўно яно ў цябе?..»

— «Як памёр мой Ігнат, з таго і пачало... Спярша ледзь-ледзь, адале — болей. Калі б не валяр'янка, не ведаю, што і рабіла б, толькі і ратуюся ёй». Гасюта зноў пахітаў галавой: «Не трэба яе лішне... Жыць бы табе бліжэй да паліклінікі. Ёсць хто-небудзь у горадзе?» Мальвіна адказала: «Сын ёсць... Няма ў яго дзе павярнуцца...» Сорамна прызнацца было, што сын прыціснуты ўмовай: або маці, або жонка, — горка думаць было, што нявестка атрымала ўладу над ягоным жыццём і смерцю.

«Палягчэла, ці толькі падалося мне?— вагалася Мальвіна. — Такі ж палягчэла. Трэба ісці дакасіць».

Яна радавалася, што перастала калоць у левы бок, была ўпэўнена: памагла валяр'янка, — і папракала ў думках Гасюту за тое, што не раіў лішне ўжываць валяр'янкі. Памагае — чаму не ўжываць?

Дакасіла загадзя, прасіла ў бога надвор'я высушыць атаву. Бог пачуў просьбу, дні стаялі сонечныя, з ветрыкам — атава сохла, на трэці дзень Мальвіна паўносіла рэзгінамі сена пад павець, у дадатак да ранняга, чэрвеньскага. Успомніла, як любіў Павел спаць на свежым сене пад павеццю. У канаве падкошваў баркуну, сушыў — ад яго, казаў, дух, як на пасецы. З Паўлам спаў і Рамуальд, той злодзей першай гільдыі; падумала, што і злодзеі не ўсім аднолькавыя: каму нялюбыя, каму свае людзі. Нябось, з Паўлам спаў побач на сене — як родны брат.

Пах сена расплываўся па двары і цяпер.

Мальвіна села на ганак, улюбёнае месца. Думка находзіла на думку. Вось Павел жыве там, у камяніцы, а тут, пад ганкам, закапана ягоная... Успомніла сказанае калісьці старой Хрысцінай: «...пупавіна прывяжа сына да роднай хаты — будзе на старасць паіцель і карміцель».

Па вуліцы праехала на веласіпедзе паштальёнка, на хаду павіталася, сказала, што нічога на гэты раз няма ад нявесткі. «Дзякуй богу...» — адказала ўслед Мальвіна.

Хавалася за Веравойшай сонца, а цяпла не ўбаўлялася — дыхала нагрэтая зямля. У траве каля плота сакаталі конікі. «І пасля мяне будуць сакатаць, — думала Мальвіна,—і сонца будзе хавацца за Веравойшай».

З малалецтва ёй думалася: наперадзе чакае штосьці значнае, галоўнае. Нібы навыперадкі беглі дні, адыходзілі гады — так і не дачакалася галоўнага. Цяпер ужо і грэх глядзець наперад, шэсцьдзесят пяць гадоў за плячамі; аглянулася ў думках назад — і толькі галавой паківала. Ні спераду, ні ззаду — навошта, як падумаць, жыве на свеце? Ігната даўно няма, Павел адшчыкнуўся, толькі і загляне раз у год, як кажуць, дзеля гадзіся.

Раней, бывала, Мальвіна мела прывычку лічыць дні: чацвер, пятніца, субота. Цяпер кінула лічыць. Адна субота адыдзе, другая прыйдзе — што зменіцца?

Асцярожна, Мальвіна і не заўважыла, падкралася восень. Пахла завялым агурэчнікам і спелым кропам, паніжэла вераснёвае сонца, а на грушы пракінулася жоўтае лісце.

Мальвіна любіла восень за прыціхласць і дастатак, пабойвалася яе за доўгія дажджлівыя ночы — у такія ночы закрадваецца незразумелая трывога.

Ранняя выпала восень — не спазнілася і зіма. У лістападзе навалiла снегу — і ён не раставаў, схоплены замаразкамі. «Няўжо зазімак лёг? Няўжо не адпусціць?» — непакоілася Мальвіна, прадчуваючы халады, баючыся прастуды на хворае сэрца.

Падзьмуў вецер-віскуцень, усхадзілася завіруха. Неспакойна пaглядаючы ў акно, Мальвіна думала: «Ці ўляжацца гэтая крутаверць? Ці перазімую?»

Нібы наклікала на сябе...

На вадохрышча, ідучы раніцай па ваду, Насця спынілася ў здзіўленні: па ўсіх Хатолічах з камінoў віўся дым, толькі ў адной Мальвіны чамусьці не было дыму з коміна. «Няўжо яшчэ спіць?..» — насцярожылася Насця і, паставіўшы вёдры пасярод вуліцы, заспяшалася ў двор. Ганак быў зацярушаны сняжком... Пацягнула за дзверы — зачынены на засаўку. Насця зірнула ў акно — і абамлела: пасярод хаты ляжала Мальвіна... Не помнячы сябе, Насця кінулася да Сымона: трэба адчыніць дзверы, сказаць людзям.

Па тэлеграме прыехалі Павел з Янінай. Нагінаючыся над труною, заломваючы рукі, Яніна галасіла: «Чым жа мы ўкрыўдзілі цябе, нашто ж нас пакінула, матулечка?..» — і ракою лілася; не пазнаючы скрозь слёзы людзей, паварочвалася да Паўла, нібы пытаючы: як жа далей жыць?

Пахаваўшы матку, Павел прадаў сёетое з гаспадаркі, а потым прыехаў на грузавіку, пагрузіў з Рамуальдам астатнія пажыткі, забіў дошкамі накрыж вокны і прыклеіў на дзвярах, на слупе процíў хаты аб'явы: прадаецца дом, цана па дамоўленасці.

Але ў цане якраз і не маглі дамовіцца. Давалі чатыры тысячы, Павел прасіў восем. Цана адпуджвала пакупнікоў, прыклейваў на слупах новыя аб'явы — і зноў цанаваліся, спрачаліся. «Смяешся?.. — хапаўся за рыжую галаву мужчына з Лёзна. — Хата старая, бярвенні ўшчэнт патачыў шашаль: разбярэш — і не збярэш, перавёзшы струхлелую. Чатыры з палавінай — і перахрысціся...» Даводзячы, што хата яшчэ хоць куды, просячы ў сведкі бога, Павел прыгнечана хітаў галавой: «Якія ж гэта грошы?..»

Мінула зіма, выпала халодная вясна. Якраз паднялі цэны — хто б мог меркаваць? — у дзесяць разоў, у дваццаць, бог ведае ў колькі... Называючы жыццё катаргай, Яніна заскардзілася Паўлу:

— Такая дарагоўля, а ў нас капейкі няма за душой. Жывём ад зарплаты да зарплаты. Хоць бы страхоўку тую атрымаў, ці што.

Павел пацісну плячамі:

— Страхоўку выплацяць, калі хата... Што, я паліць павінен?

— Ёсць каму без цябе... Рамуальду толькі пакажы соценьку-другую — хоць хату, хоць вёску спаліць.

Павел кісла ўсміхнуўся: спаліць, вокам не міргне.

...У ноч пад Ілью Грамавога ў Хатолічах ускінуўся пажар — гарэла Мальвініна хата. Грымеў гром, шумеў праліўны дождж, а чырвонае полымя ўзнімалася пад неба, заглушаючы трэскам шум дажджу і крыкі вяскоўцаў, што збегліся на пажар.

Ацалеў толькі ганак. Зацвярдзелыя плашкі з дубу не паддаліся агню, толькі абкурэлі.

У наступнае лета бучная крапіва заглушыла двор. Неяк ідучы па ім да грушы, Насця раптам страпянулася — засмылела нага. Прысела на ганак і, тручы рукою лытку, думала: «Гарачая жыгучка. Пячэ, нібы агнём...»

## Барыс ЛУЦЭНКА:

# «Я НЕ ІШОЎ І НЕ ВЯРТАЎСЯ...»



**З 5 па 11 снежня ў Рускім тэатры Беларусі адбыўся паказ лепшых спектакляў: тэатр адзначыў сваё шасцідзесяцігоддзе. Зыходзячы з меркавання, што аблічча тэатра перадусім вызначае ягоны лідэр, мы прапануем вашай увазе гутарку з мастацкім кіраўніком Рускага тэатра Беларусі Барысам ЛУЦЭНКАМ.**

**— Пытанні дзеля паразумення мусяць быць найважкімі. На вашу думку, чым павінен быць рускі тэатр у нашай рэспубліцы? Як яму самавызначацца ды спраўджвацца? Што ставіць сваёю найгалоўнаю мэтаю? Якім чынам спалучаць, скажам, нацыянальную кан'юнктуру ды мастацкасць?**

— Іншаземец у чужой дзяржаве... Я толькі што з Германіі, дзе назіраў, як яе грамадзяне, людзі розных нацыянальнасцяў, зносіліся між сабою на розных мовах і, паколькі яны людзі тэатра, прапаноўвалі спектаклі на розных мовах. Абы іх зразумелі. А што, калі я ў Рускім тэатры пастаўлю штосьці па-ангельску? Што, праз гэта спектакль не будзе ўласнасцю Беларусі? Будзем шчырымі: у сённяшнім Менску, у сённяшняй Беларусі ёсць патрэба ў рускім тэатры, ён — неабходны. Але мусім разглядаць яго як беларускі тэатр, які працуе па-руску... Існаванне ягонае мусіць быць вызначана, як існаванне нацыянальнага тэатра! Я — выхаванец Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (акадэміі), я прадстаўляю Беларусь за яе межамі як беларускі рэжысёр... Я — не чужаніца, як не чужаніца ў тутэйшым асяродку і мой тэатр.

**— Барыс Іванавіч, чаму вы апраўдваецеся? Мо я некарэктна сфармулявала свае пытанні?**

— Толькі-толькі скончыўся Гомельскі агляд беларускіх спектакляў, а нас, з Рускага тэатра, туды нават не запрасілі... Мы вылучылі спектакль «Тры нажы з краіны Вэй» рэжысёра Сяргея Астрэнкі, палічыўшы ягоную работу вельмі тэатральнаю, фестывальнаю. Шведскі аўтар напісаў п'есу на кітайскую тэму; спектакль пастаўлены на сцэне Рускага тэатра Беларусі рэжысёрам з Латвіі з беларускімі артыстамі... Мы заявілі спектакль у праграму, а нас (з якіх найвышэйшых меркаванняў?) не пажадалі дапусціць да параўнання альбо да зносін з калегамі...

**— Пачынаць размову на «нацыянальна-тэатральную» тэму ў атачэнні сённяшняй кан'юнктуры, дайце веры, няпроста. Я крыўджу вас ужо тым, што датыкаюся да яе. З другога боку, згадаем часіну адноснай стабільнасці, — а менавіта тую, якая спарадзіла легенды пра ваш тэатр, знакамітую для вас часіну сямідзесятых, калі спектаклі Рускага тэатра, ад Шэкспіравага «Макбета» да Брэхтавай «Трохграшовай оперы» альбо да «Трагедыі чалавека» І. Мадача набывалі для тутэйшай публікі важкасць грамадска-палітычную — праз сваю мастацкую адметнасць.**

— Разумею... Вы тады толькі пачыналі сваю глядацкую біяграфію... Я паспрабую вярнуцца назад, разумеючы падтэкст вашага пытання: чаму з уладара думак ды настрояў тэатр ператварыўся ў змясцілішча пэўнага мастацкага крызісу... Я лічу, што Рускі тэатр сёння ў крызісе, можа быць, і я — у крызісе. Мабыць, і ўсё тэатральнае жыццё Беларусі перажывае сёння крызіс. Хтосьці вырываецца наперад з адным спектаклем, але тэатральныя з'явы надараюцца ўсё радзей ды радзей. Тады быў іншы час, — мы былі маладыя. Я трапіў у Рускі з Купалавага тэатра, і магу паведаміць, што прызначэнне «у галоўныя» мяне здзівіла, бо да кіруючай тады партыі я дачынення не меў, а тут — выклікаюць да Машэрава (хоць разумею, што, па ўсім відаць, размеркаванне рэжысёраў зрабіў Андрэй Макаёнак), папярэдне сказаўшы на вуха: «Рыхтуйся!» Я пачаў быў тлумачыць Пятру Міронавічу, што гэты тэатр у заняпадзе, што я занадта малады ды безаўтарытэтны, але ўсярэдзіне ўсё трымцела... Мяне блаславілі прыняць Рускі тэатр аж з самога ЦК... І я нават выпытаў сабе права пачаць з таго, што даўно хацеў зрабіць, — з «Макбета»... Тэма «Макбета» зрабілася для мяне вызначальнаю на доўгія гады: у кожным чалавеку сядзіць д'ябал, і калі ён абуджаецца, гісторыя «Макбета» паўтараецца й паўтараецца... Чаму д'ябал абуджаецца? Чаму злачынства пераследуе пакаранне? Мабыць, гэта тэмы не аднаго «Макбета»... І ў кожным маім наступным спектаклі гэтую тэму можна было адчуць, пабачыць ды вызначыць. Нават у «Апошніх» Максіма Горкага гэтая тэма гучала ды вар'іравалася ў асаблівым выглядзе. Я ніколі не падзяляю людзей на благіх і добрых. Рыхтык паводле Станіслаўскага, я шукаю ў благім добрае, а ў добрым — благое, намагаюся зразумець першапрычыны ўчынкаў, нават сваіх уласных... Дык вось, я прыйшоў у Рускі тэатр са сваёю праграмай, крыху перапалоханы самім тэатрам, і заняў досыць цвёрдую пазіцыю. Мне чамусьці дазволілі ставіць тое, што хацеў я сам, і выключэнні былі рэдкія. З тэатра тады пайшлі шмат якія артысты, як я цяпер лічу, добрыя артысты, але яны разумелі мой максімалізм і дзякую ім за тое, што яны не зрабілі маё становішча няёмкім. Я запрасіў шмат новых акцёраў: Бандарэнку, Зайцаву, Ткачонка, Кармуніна... А тое, што «Макбета» спаткаюць так зацікаўлена й хораша, і што ён пратрымаецца ў рэпертуары шаснаццаць гадоў, ніхто не чакаў. Праўда, я ўклаў у спектакль усё, што ўмеў на той час... Дык вось, глядач не адразу адрэагаваў на з'яўленне «Макбета», і толькі праз некаторы час касірка з палёгкаю ўздыхнула. Дарэчы, ніколі Рускі тэатр не цураўся беларускай драматургіі, і я працягваў гэтую лінію «Апошняй інстанцыяй» М. Матукоўскага, «Вяртаннем у Хатынь»... А «Трохграшовая...» пачыналася, як ні парадаксальна, не з захаплення матэрыялам, не з выразшэння, не з задумы, а з жадання, каб у тэатры пабольшала гледачоў... Не магу не памянуць і пра свайго настаўніка Уладзіміра Андрэевіча Маланкіна, — здаецца, пад ягоным уплывам я і да гэтага часу знаходжуся. Менавіта з Маланкіным мы адчулі, што ў гледача тых часоў была вялікая патрэба ў тэатры, і я да сёння лічу, што тэатр — адзінае месца, дзе з гледачом можна размаўляць шчыра. Менавіта тады я адчуў, калі хочаце, сваю місію: не хлусіць гледачу. І нават тады, калі мяне прымусілі (так, прымусілі) ставіць «Паднятую цаліну» М. Шолахава, я... быў на баку кулакоў. Я напісаў ліст да Шолахава (адказу не атрымаў), я падымаў свой тэатральны цалік так балюча-сумленна, што спектакль закрылі...

**— Пра тэатральнае мінулае мы можам размаўляць толькі пункцірам, але, паўтаруся, вы распачалі ды завяршылі пэўную эпоху ў Рускім тэатры Беларусі. Але вы пайшлі, каб... вярнуцца?**

— Я не ішоў і не вяртаўся... Прыход ды адыход, напэўна, не тыя паняцці, не тыя вызначэнні, якімі мусіць вымярацца сутнасць маіх учынкаў. Адзін з найлепшых сяброў-калегаў, чые меркаванні спатрэбіліся для наймоцнай кіруючай інстанцыі, а менавіта КДБ, не пашкадаваў мяне... З Рускага тэатра Беларусі мяне проста выставілі... Менавіта ў той час я разам з Валерыем Раеўскім займаўся ў творчай лабараторыі Георгія Таўстаногава ў былым Ленінградзе; менавіта тады я ацаніў і зразумеў каштоўнасць парады й падтрымкі майстра... Магу дадаць, што тая лабараторыя мела характар зносінаў з майстрам як з асобаю, — асобаю, што сабою ўвасабляе тэатр. Тады да мяне прыйшло разуменне, што знакамітая руская тэатральная школа не ёсць нешта нерухома-самасцверджанае, але вызначаецца асобамі, якія яе стваралі ды прадстаўлялі, скажам, школай Вахтангава альбо школай Меерхольда, якія не зблытаюцца са школай Міхаіла Чэхава... Я магу прадбачыць ваша наступнае пытанне: а што ўяўляе сабою школа Рускага тэатра Беларусі, а мо і школа рэжысёра Луцэнкі, але крыху пачакайце з імі.

**— А як, на ваш погляд, можна ацаніць шлях Рускага тэатра Беларусі да сённяшняга часу?**

— Мне перашкодзіць яго ацаніць надта вялікі перапынак у дачыненнях з ім... Эпоха сямідзесятых скончылася, адышла. Памятаю, як ставілі кропку ў кабінеце тагачасна-

# «МАЯ ГІТАРА—ЛУК, А СТРУНЫ—ЦЕЦІВА...»



**«...І ў сэрца рвецца гук, як вострая страла». Гэтыя радкі належаць аднаму вельмі цікаваму чалавеку. Праўда, у арыгінале яны гучаць па-руску, і няхай выбачаюць мяне шаноўныя чытачы за саматужны пераклад, але ж размова наша будзе не пра паэзію. Таму не спяшайцеся шукаць недахопы ў вершах. Бо гэта не проста зарыфмаваныя словы, гэта своеасаблівая споведзь, жыццёвае крэда, у нейкім сэнсе сутнасць і мэта самога жыцця іх аўтара, гарадзенскага гітарыста Уладзіміра Захарава.**

**Адукаваны музыкант, нястомны энтузіяст сваёй справы, натхнёны прапагандыст горача любімай гітары, ён — адзін з тых людзей, дзякуючы якім пакуль яшчэ не гасне ў Гародні агеньчык творчасці, саграючы душы, на жаль, нешматлікіх, затое сапраўдных сяброў высокага мастацтва. Лёс не надта быў прыхільны да маладога выканаўцы, але настойлівасць і мэтанакіраванасць, старанная праца і, канешне, талент дапамаглі яму пераадолець цяжкасці і нарэшце зведаць поспех, які прыйшоў да музыканта сёлета. На VII Міжнародным конкурсе гітарыстаў у Кракаве У. Захараў стаў уладальнікам IV прэміі (пра што паведамляў і «ЛіМ») і першым адкрыў рахунак удалых выступленняў беларускіх гітарыстаў на міжнароднай арэне, які, спадзяюся, будзе багаты. Дарэчы, крыху раней вядомы наш музыкант В. Жывалеўскі ў сваім інтэрв'ю назваў У. Захарава выканаўцам міжнароднага ўзроўню. Тады, можа, хто і засумняваўся, але ж цяпер гэтае своеасаблівае прароцтва збылося...**

**— Валодзя, паколькі кракаўскі конкурс — гэта, будзем лічыць, першая кульмінацыйная кропка тваёй творчай біяграфіі, мо з яго і пачнём размову...**

— Міжнародны конкурс гітарыстаў у Кракаве праводзіцца з 1986 года. У абавязковай да выканання праграме робіцца акцэнт на музыцы іспанскіх і лацінаамерыканскіх кампазітараў, хаця, безумоўна, не выключаюцца і творы іншых стыляў. VII конкурс сабраў музыкантаў з Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Польшчы, Венгрыі, Чэха-Славакіі, Украіны, Малдовы, Расіі, ну і з Беларусі.

**— Ты быў адзіны з нашай рэспублікі?**

— Так. Вельмі прадстаўнічае было журы, у склад якога ўваходзілі вядучыя гітарысты свету. Напрыклад, аргенцінцы Х. Марэль і Х. Кардоса, вядомыя выканаўцы з ЗША, Францыі, Польшчы. Цікава, што пасля заканчэння конкурсу пачаўся фестываль, дзе з канцэртамі выступалі члены журы. Удзельнікам конкурсу выдаваліся запрашэнні, так што давялося ўсё ўбачыць і пачуць. Уражанні, канешне, незабыўныя. Сам конкурс складаўся з трох тураў. На першым з абавязковых твораў я іграў Варыяцыі на тэму Паганіні Ф. Тарэгі, «Калібры» Х. Сагрэраса і па выбару — сваю Прэлюдыю і фугету на славянскія тэмы. На другім туры, куды былі допушчаны 10 чалавек, — тры танцы Паўднёвай Амерыкі ва ўласным перакладжэнні, «Кардовы» І. Альбеніса, сарабанду і жыгу з 1-ай скрыпічнай партыты І. С. Баха, а таксама некалькі мініяцюр са свайго «Дзіцячага альбома». На апошні тур прайшло толькі чацвёра. Праграма была адвольная, на 35—40 хвілін. Усё запісвалася для радыё і тэлебачання, уваход у залу быў платны. Я выканаў «Арабскае капрычыо» і «Успамін пра Альгамбру» Ф. Тарэгі, ужо згаданыя свае творы і дзве п'есы ў старадаўнім стылі з цыкла «Беларускія фантазіі» В. Жывалеўскага.

**— І ў выніку заняў 4-е месца. А хто ж стаў пераможцам?**

— Першую прэмію вырашылі не прысуджаць, а дзве другія і адну трэцюю атрымалі польскія гітарысты.

**— Ці не насцярожвае такое панаванне гаспадароў конкурсу на вышэйшых прыступках п'едэстала?**

— Здаецца, гэта аб'ектыўна, бо ў Польшчы сёння даволі моцная гітарная школа, шмат яркіх выканаўцаў і вялікая цікавасць да самога інструмента ў слухачоў, у чым я пераканаўся на ўласным вопыце нядаўніх гастроляў.

**— Чытачоў, напэўна, цікавіць, калі не сакрэт, матэрыяльны бок твайго поспеху...**

— Няма ніякага сакрэту. Я атрымаў салідную грашовую прэмію (на якую дома давялося б вельмі доўга працаваць) і пяць камплектаў лепшых струн для гітары, што для мяне асабліва каштоўна, бо, як вядома, у нас з гэтым вялікія праблемы. А ўвогуле ў фінансавых адносінах конкурс быў даволі «небяспечны», калі можна так казаць. Бо ўсе выдаткі — праезд, афармленне дакументаў, харчаванне, жыллё, — усё гэта аплачвалася за кошт удзельнікаў і плюс 40 долараў — уступны конкурсны ўзнос. Вось і ўяві сабе, што было б, калі б я не прайшоў на II ці III тур?!

**— Але ж у цябе былі, відаць, якія-небудзь спонсары?**

— На жаль, не. Адзіны «спонсар» — мая маці. Усё рабіў сам, пачынаючы з пошукаў інфармацыі пра конкурс. Праўда, дапамагалі з дакументамі ва ўпраўленні культуры, па маёй просьбе нават званілі ў Кракаў, каб даведацца, ці варта мне ехаць, бо запрашэнне, якога я чакаў да апошняга моманту, напэўна, згубілася недзе па дарозе.

**— І ты так і паехаў на свой страх і рызыку?**

— Так. Дарэчы, гэта каштавала мне вялікіх хваляванняў. Напрыклад, у Кузніцы польскія пагранічнікі ледзьве не знялі мяне з цягніка, прыняўшы за звычайнага камерсанта, бо я не меў камандзіровачнага пасведчання. Прыйшлося паказваць буклеты конкурсу, тлумачыць, хто я і куды еду, прасіць. Добра, што паверылі, а калі б не? І гэта яшчэ не ўсё. Напярэдадні ад'езду я перайграў рукі. Дзякуй лекарам — вярнулі ў форму. А якая цяжкая была дарога. Прыехаў у Кракаў ноччу. Куды падзецца? Збіраўся ўжо ўладкавацца дзе-небудзь на плошчы, але дапамог дырэктар конкурсу, спадар Чэслаў Драздзевіч, які знайшоў месца ў гатэлі. А ўжо наступнай раніцай — першы тур. Пашчасціла, што выцягнуў нумар хоць і першы, але на паслязаўтра. Змог трошкі ачуняць.

**— Валодзя, у кожным туры конкурсу ты выконваў свае кампазіцыі. Як лічыш, ці паўплывала гэта на выніке твайго выступлення?**

— Лічу, што так. Хаця безумоўна, калі б я быў слабы ў абавязковай праграме, ні пра якія прэміі немагчыма было б і марыць... Пасля III туру да мяне падышоў рэдактар аднаго з вядомых амерыканскіх выдавецтваў «Арфей» спадар Матан'я Офі і прапанаваў надрукаваць мае творы, а таксама напісаць што-небудзь у буйной форме. Нядаўна я закончыў фантазію для гітары

# «Палякі» Летувы і Беларусі

### З нагоды адной публікацыі

У 1964 годзе ў архіве аднаго летувіскага кляштара ў Амерыцы быў знойдзены рукапіс своеасаблівай навукова-даследчай працы Вільнішкіса пад тытулам «Летувісы Віленшчыны». За акіян гэтая праца патрапіла з Летувы ў 1941 годзе і ўпершыню была апублікавана пазалетась у штотыднёвіку «Літаратура ір мянас».

Аўтар, робячы экскурс у гісторыю Летувы і Беларусі, разважае, спасылаючыся на дакументальныя крыніцы, аб відавочных цяпер фактах і працэсах, у выніку якіх з'явіліся ў нашым беларуска-летувіскім краі нібыта палякі, вядомыя ўсім пад іх саманазвай «тутэйшыя». Ужо толькі з параўнання статыстычных дадзеных аб колькасці і нацыянальным складзе жыхароў, скажам, Віленшчыны, пачынаючы з 1925 года, калі граф С. Плацер выдае ў Брэслаў сваю «Геаграфію ўсходняе часткі Еўропы», аж да 1931 года падчас сумнавядомага перапісу ў Польшчы, яскрава відаць, як за кошт беларускага і летувіскага насельніцтва павялічваецца лічба перш рускіх (1897 г.), а потым палякаў.

Тое, што менавіта беларусы і летувісы ў той ці іншы час афіцыйнымі ўладамі прадстаўляліся ў перапісах то рускімі, то палякамі насуперак рэчаіснасці, Вільнішкіс пераканаўча паказвае, аналізуючы дакументальныя крыніцы і іх статыстыку аб дзейнасці нацыянальных культурна-асветніцкіх таварыстваў, аб распаўсюджванні нацыянальнага друкаванага слова, а таксама аб стане нацыянальнага школьніцтва ў 1920—1930 гадах на Віленшчыне.

Слушнасць сваіх тэарэтычных высноў аўтар пацвярджае, выкарыстоўваючы ўласна польскі навуковы матэрыял 1920-х гадоў, і тым самым забівае апошні цвік у даўно ўжо струхлелую труну міфа аб польскасці беларуска - летувіскага краю.

Якраз на факце супярэчнасці між сцвярджэннямі афіцыйных польскіх улад, з аднаго боку, і вынікамі навуковых даследаванняў польскіх мовазнаўцаў, з другога, варта спыніцца асабліва.

Як вядома, падчас перапісу ў 1931 годзе на «крэсах ўсходніх» нацыянальная прыналежнасць вызначалася паводле мовы, якой нібыта карысталася насельніцтва. Пэўна ж, залішне тут згадваць, якая грамадска-палітычная абстаноўка тады панавала на той жа Віленшчыне. Лютавала пілсудчына. І, выдаўшы сябе за паляка, селянін-беларус ці селянін-летувіс, тым больш каталіцкага веравызвання, больш-менш мог пазбегнуць шмат якіх непрыемнасцяў у сваім і так гаротным жыцці.

Аднак што ж наконт «пальшчызны» на нашых землях думалі самі палякі-навукоўцы?

Вільнішкіс згадвае групу вядомых мовазнаўцаў — Т. Бенні, Й. Нітша, Й. Развадоўскага і Г. Улашына, якія ў 1925 годзе ў Кракаве выдаюць «Граматыку польскай мовы» з картамі польскіх дыялектаў. Дык на гэтых картах пазначаная мяжа польскіх гаворак ледзь дасягае горада Сувалкі, але ні ў якім разе не да Нёмана. У выдадзеных выдатным знаўцам польскіх дыялектаў К. Нітшам тэкстах (Львоў, 1929 г.) таксама пададзена карта, на якой паўночная мяжа польскіх гаворак з боку горада Гародні толькі часткова падыходзіць да Нёмана. Такой думкі трымаліся і іншыя мовазнаўцы тагачаснае Польшчы, сярод якіх той жа Т. Пізло. У выдадзенай у Вільні ў 1929 годзе яго «Граматыцы польскай мовы» даволі абгрунтавана сцвярджаецца, што польская мова на Віленшчыне з'явілася штучна і нават не ў такіх шырокіх маштабах, як нібыта паказвае перапіс 1931 года.

**Пераказаў**
**Алесь МІРОНЧЫК.**

# «У БЕЛАРУСЬ Я ПЕСНЯЮ ІМЧУСЯ»

### Да 90-годдзя з дня нараджэння Анатоля ВОЛЬНАГА

Сучаснікаў здзіўляла, адкуль у гэтага сарамлівага хлопца з Пухавіч столькі замілаванай пяшчоты і дабрыні, радаснага адчування хараства жыцця, рамантычнай захопленасці і прагі творчасці. Закаханасць у родныя краявіды, у хвалі жыта, у шматколернасць кветак і траў, у гоман смалістых бароў і трэлі салаўя абуджалі звонкія струны яго маладога сэрца. А яшчэ — любоў і дачыненне да чалавека, да яго клопатаў, да яго мінулага і сучаснага.

У паэме А. Вольнага «Сінія кветкі» ёсць такія радкі, якія можна назваць лейтматывам усёй яго творчасці:

**З халодным сэрцам жыць прыгожа,**
**А як з пякельным болем жыць:**
**Магу дзяліць я радасць з кожным,**
**А гора з кім мне падзяліць!**

Аўтару ішоў тады дваццаць чацвёрты год. А. Вольны вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце і ўжо каля чатырох год выступаў (з 1922 года) з вершамі, артыкуламі замалёўкамі. Сапраўднае прозвішча было Ажгірэй.

У маленстве Анатоль бачыў цяжкі лёс пухавіцкіх сялян-парабкаў. За волю і зямлю трэба было змагацца. Крыху пазней пра сваю бацькаўшчыну А. Вольны ўзнёсла скажа: «Я ведаю дзве Беларусі. Беларусь паўстання і Беларусь лучын і журбы». У 1920 годзе, у васемнаццацігадовым узросце ён далучыўся да паўстанцаў, пасля стаў чырвонаармейцам.

А. Вольны стаў членам ЦК камсамола рэспублікі, які тады ўзначальваў на год старэйшы за яго Барыс Кузняцоў. Працуючы разам, яны больш за ўсё гаварылі пра ліквідацыю непісьменнасці, бескультур'я, даставалі сшыткі, алоўкі, падручнікі, ладзілі школы, палітычныя і ваенныя гурткі.

Працуючы ў рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», А. Вольны часта змяшчае вершы, урыўкі з паэм, а пад псеўданімам Алёша — кароткія фельетоны і гумарэскі. Толькі ў адным 1925 годзе выйшлі зборнік вершаў «Чарнакудрая радасць», аповесці аб грамадзянскай вайне «Два» і «Ваўчаняты», якую напісаў разам з А. Александровічам і А. Дударом.

І ўсё ж А. Вольны быў народжаны для паэзіі. Нібы паветрам, ён жыў паэтычнымі вобразамі, валодаў менавіта паэтычным мысленнем. Хай сабе яго вершы часам вызначаліся паспешлівасцю, квяцістай і абстрактна-сімвалічнай фразеалогіяй, у іх моцна адбіўся сам час. І што асабліва ўражвала — яго прыўзнята-рамантычны настрой, яго нястрымны парыў, яго «чарнакудрая радасць» ад таго, што жыве сярод цудоўных і цікавых людзей. Здаецца, ні хвіліны ён не мог жыць без любай і шматпакутнай радзімы. На некалькі дзён ад'ехаўся, каб адпачыць на Каўказе, і адразу напісаў верш «Мне і тут без Беларусі цесна»:

**У Беларусі жыты русы.**
**Песенныя ўсплескі**
**Свецяць зоры ў чорным бору,**
**У бору чорным зоры**
**Заранеюць, рдзеюць, рэюць**
**Над соснамі снамі...**
**Ой, журуся, у Беларусь я**
**Песняю імчуся.**
**Васількамі, сцебялькамі**
**У песні заплятуся.**

Разам са сваім земляком М. Чаротам, а таксама з А. Дударом, А. Гурло, М. Зарэцкім, П. Галавачом, П. Трусам і іншымі А. Вольны — адзін са стваральнікаў «Маладняка», удзельнічаў у рэдагаванні аднайменнага часопіса. Сталеючы духоўна і творча, усё больш цікавіўся падзеямі нацыянальна-вызваленчага руху Заходняга краю, асэнсоўваў мінуўшчыну. Ён піша паэму «Кастусь Каліноўскі» (1925), аповесць «Антон Савіцкі» (1927), прысвечаную драматычным старонкам жыцця гомельскага рэвалюцыянера-анархіста А. Савіцкага. Яго прыцягваюць незлічоныя ахвяры беларускага народа, «магілы чорных дзён», жудасныя здзекі белапольскіх акупантаў над бабруйскімі сялянамі. А. Вольны часамі працаваў у архівах, запісваў у вёсках успаміны ўдзельнікаў грамадзянскай вайны.

У дадатку да газеты «Савецкая Беларусь» і іншых выданнях ён змясціў цэлы шэраг літаратурных сілуэтаў добра знаёмых яму маладых беларускіх пісьменнікаў. Як жывыя, паўстаюць перад намі У. Дубоўка і Я. Пушча, П. Броўка і П. Галавач, М. Зарэцкі і М. Лынькоў.

Калі ў 1928 годзе была створана кінастудыя «Савецкая Беларусь», А. Вольнага запрасілі працаваць сцэнарыстам. Праз год па яго творах выйшлі адразу два гісторыка-рэвалюцыйныя фільмы «У агні народжаная» і «Атэль «Савой». Аб А. Вольным загаварылі як аб выдатным кінасцэнарысце. Потым ён напісаў сцэнарыі фільмаў «Сонечны паход», «Новая радзіма», «Арыфметыка шэфа» (урывак друкаваўся ў газеце «Звязда») і іншыя. За заслугі ў развіцці маладога беларускага кінамастацтва ў 1935 годзе А. Вольнаму было прысвоена званне заслужанага дзеяча мастацтваў.

А неўзабаве абрынулася на яго сякера сталінскіх рэпрэсій. 35-гадовы Анатоль Вольны — паэт, публіцыст, кінасцэнарыст стаўся ахвяраю гулагаўскіх катаў. Упала прыгожае моцнае дрэва, якое давала спелыя плады. Абарвалася песня набраўшага моц неўтаймаванага салаўя, якога прагна слухаў край сінявокі.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ПАДРУЧНІКУ — БЫЦЬ!

Чым далей, тым больш мы пераконваемся, што адрадзіць беларускую культуру і нацыянальную самасвядомасць магчыма толькі на шляху канкрэтных спраў, практычных дзеянняў, якія, на жаль, вельмі часта падменьваюцца агульнымі дэкларацыямі і доўгімі размовамі.

У чэрвені 1991 г. група вучоных Інстытута філасофіі і права АН Беларусі звярнулася ў Міністэрства народнай адукацыі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з прапановай (цытую): «стварыць на беларускай (паралельна і на рускай) мове **падручнік па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі** (са старажытных часоў да 1917 г.), прызначаны **для вышэйшых навучальных установ** рэспублікі (універсітэтаў, педінстытутаў, інстытута культуры і інш.), прыблізна ў 20—25 аркушаў, пад назвай «Беларуская думка» («Белорусская мысль»). Паралельна, гаварылася ў прапанове, можна было б стварыць аналагічны падручнік **для беларускіх ліцэяў і старэйшых класаў сярэдняй школы.**

Аўтарамі прапановы былі Д. Шыраканаў, дырэктар Інстытута філасофіі і права АН Беларусі, акадэмік; А. Майхровіч, загадчык аддзела гісторыі філасофіі таго ж інстытута, доктар філасофскіх навук; С. Падокшын, вядучы навуковы супрацоўнік таго ж інстытута, доктар філасофскіх навук. У склад аўтарскага калектыву па падрыхтоўцы падручніка, акрамя вышэйзгаданых навукоўцаў, увайшлі кандыдат філасофскіх навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права Т. Кароткая і доктар філасофскіх навук, загадчык аддзела навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны У. Конан. Названыя вучоныя — высокакваліфікаваныя спецыялісты, аўтары шматлікіх прац па гісторыі беларускай думкі, культуры, здольныя паспяхова вырашыць пастаўленую задачу. **Менавіта цяпер, як ніколі, наспеў час для такога падручніка.**

Да ідэі стварэння падручніка «Беларуская думка» Міністэрства народнай адукацыі аднеслася прыхільна. Да дырэктара Інстытута філасофіі і права з'явіўся інспектар В. Кушнер і прапанаваў скласці план падручніка і каштарыс. Усё гэта было зроблена і прадстаўлена ў міністэрства. Аднак, як у нас звычайна адбываецца, на гэтым справа скончылася. Відаць, таму, што ў той час у міністэрства яшчэ не было гаспадара — міністра.

Прайшоў больш чым год. Пра вострую патрэбу падручніка па гісторыі беларускай думкі гаварылася за «круглым сталом» «Выкладанне філасофіі ў ВНУ Рэспублікі Беларусь» (16 чэрвеня 1992 г.), які быў арганізаваны філасофска - эканамічным факультэтам Белдзяржуніверсітэта.

Там жа была выказана і другая, не менш важная думка: **пра неадкладную патрэбу стварэння ў БДУ кафедры гісторыі беларускай думкі і культуры.** Менавіта гэтая кафедра змагла б адыграць істотную ролю ў выхаванні студэнцкай моладзі ў духу **высокай і шчырай павагі да нацыянальных духоўных каштоўнасцяў,** паколькі выхаванне нацыянальнай самасвядомасці **немагчыма без тэарэтычных, канцэптуалізаваных ведаў** пра беларускую культуру. А такія веды дае галоўным чынам **гісторыя філасофіі.** Ідэя арганізацыі кафедры гісторыі беларускай думкі і культуры была падтрымана спецсаветам па абароне доктарскіх дысертацый па філасофіі пры БДУ, што зафіксавана ў пратаколе ад 25 чэрвеня 1992 г.

І, нарэшце, неабходнасць у падручніку і кафедры гісторыі беларускай думкі і культуры пацвердзіла міжнародная навуковая канферэнцыя «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў» (19—20 жніўня 1992 г.), якая праходзіла ў Маладзечне. На адной з яе секцый — «Вопыт гісторыі» — была выказана наступная думка. Як час нельга памысліць без адзінства яго трох кампанентаў — мінулага, сучаснага, будучага, так і нацыянальная самасвядомасць ёсць адзінства яе гісторыі і актуальнага стану. Метадалагічна памылковым з'яўляецца меркаванне, згодна з якім гістарычны аспект нацыянальнай самасвядомасці (а яго падстава ёсць нацыянальная гісторыя філасофіі) мае «музейны характар». Як сучасная расійская самасвядомасць мае свае карані і свае асноўныя ідэі ў папярэдняй грамадска - філасофскай традыцыі (Філафей, Іван Жахлівы, заходнікі, славянафілы, Дастаеўскі, Талстой, рэвалюцыйныя дэмакраты, марксісты У. Салаўёў, М. Бярдзяеў і да т. п.), так **і сучасная самасвядомасць беларусаў неадрыўная ад яе стваральнікаў і тэарэтыкаў** (Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, беларускіх летапісцаў і храністаў, Скарыны, Цяпінскага, С. Буднага, Л. Сапегі, М. Сматрыцкага, дзеячаў праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і уніяцкай царквы, Яна Чачота, Дуніна - Марцінкевіча, Каліноўскага, Багушэвіча, Багдановіча, заходне - русістаў і іх апанентаў і, нарэшце, «нашаніўцаў», Купалы, Коласа і да т. п.). Нельга выхоўваць нацыянальную самасвядомасць без апоры на духоўна - культурную **«традыцыю народа».** Калі будзе парушана «сувязь часоў», калі мы паспяшаемся адправіць гісторыю нацыянальнай думкі «ў музей» ці «ў архіў», мы адарвёмся ад сваёй падставы, пазбавімся сваіх каранёў, саб'ёмся са шляху і зноў пачнём блукаць у цемры хлуслівых ідэй, чужых каштоўнасцяў, утапічных праектаў, салодкіх, але небяспечных, як гамераўскія сірэны, міфаў. Гісторыя беларускай думкі ёсць самая сапраўдная нацыянальная філасофія, а Скарына — сучасны беларускі філосаф у такой жа ступені, як Дастаеўскі, Талстой, Бярдзяеў — сучасныя філосафы Расіі.

Улічваючы вышэйсказанае, **прапаную** неадкладна:

— Стварыць пры Беларускім дзяржаўным універсітэце **кафедру гісторыі беларускай думкі і культуры;**

— стварыць групу (з прадстаўнікоў Інстытута філасофіі і права АН Беларусі, нацыянальнага навукова - асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, Белдзяржуніверсітэта) па падрыхтоўцы **падручніка** па гісторыі беларускай філасофскай і грамадска - палітычнай думкі («Беларуская думка») для вышэйшых навучальных устаноў, ліцэяў і сярэдніх школ Рэспублікі Беларусь.

Будзем, шаноўныя спадары, падмацоўваць нашы словы канкрэтнымі справамі. Будзем сеяць і спадзявацца, што гэтая сяўба дасць добрыя ўсходы.

**С. ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН Беларусі.**

ПРЭМ'ЕРЫ

## «Кантрабас» — па-беларуску



Віктар МАНАЕЎ (справа) з рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля Рыдам ТАЛІПАВЫМ.
Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ.

Усё незвычайна і нязвыкла ў гэтым спектаклі. У ім усяго чатыры дзейныя асобы: Манекен, Балерына, Кантрабас, Кампазітар. Імя драматурга, які даў жыццё персанажам, наўрад ці знаёма каму-небудзь, акрамя спецыялістаў. П'есы Патрыка Зюскінда ніколі не ставіліся на тэрыторыі былога Саюза, хоць і ў сябе дома, у Германіі, і ў Заходняй Еўропе ён даўно ўваходзіць у лік прызнаных аўтараў драматургіі.

— «Кантрабас» — спектакль пра чалавека, у якога вельмі шырокі дыяпазон успрымання навакольнага свету і вельмі шырокі дыяпазон адчувальнасці, — расказвае рэжысёр Мінскага тэатра-студыі Рыд Таліпаў. — Такім людзям заўсёды жыць намнога складаней, чым іх сучаснікам, якія навучыліся прыстасоўвацца да любых абставін.

Акцёр тэатра імя Янкі Купалы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Віктар Манаеў і народная артыстка рэспублікі, лаўрэат Міжнародных конкурсаў балерына Таццяна Яршова, занятыя ў спектаклі, працуюць у нязвыклым пакуль што для нашага тэатра жанры — трагікамедыі псіхааналізу. Прэм'ера прызначана на снежань. Гэта першая работа тэатра-студыі Р. Таліпава на беларускай мове.

МУЗЫКА

## У філармоніі сустрэліся сябры

Харавыя канцэрты з удзелам калектываў агульнаадукацыйных школ сталіцы зрабіліся традыцыйнымі на Беларусі. Намаганнямі энтузіястаў - хормайстраў створаны цудоўныя дзіцячыя калектывы, узгадавана і слухацкая аўдыторыя, якая ў сэнсе зацікаўленасці і непасрэднага ўспрымання дасць фору самай дасведчанай публіцы. На Беларусі створана нямала школ з харавым ухілам, дзе навучэнцы не толькі пяюць, а паглыблена вывучаюць музычныя дысцыпліны. Адзін з лепшых на Беларусі — хор «Журавінка» мінскай школы № 130 пад нязменным кіраўніцтвам А. Еўсюкова. Нядаўна хор упершыню выканаў у філарманічным канцэрце кантату А. Масляніцына на словы І. Масляніцынай «Парушанае слова», а праз некалькі дзён адбылося выступленне калектыву і ў зале на Залатой Горцы. У абодвух канцэртах удзельнічалі госці з Германіі, якіх прымала ў Мінску «Журавінка». Знаёмства адбылося летам, калі мінскія школьнікі па дарозе ў Англію, куды ехалі з канцэртамі, спыніліся ў паўднёвагерманскім гарадку Рытберг (спонсарам паездкі была фірма «Белсан», прэзідэнт В. Яцына). Каб зарабіць на дарогу праз Ла-Манш, хор даваў там канцэрты; адбылося знаёмства з Уда і Ханай-Лорай Шрайбер, якія займаюцца дабрачыннай дзейнасцю ў дапамогу чарнобыльцам. І вось — сустрэча ў Мінску. «Журавінка» спявала кантату «Парушанае слова», часткі з кантаты Э. Казачкова «Не загубі» на вершы В. Жуковіча і інш. Дуэт акардэаністаў Уда Шрайбер і Аня Ройхельт, выканаў шэраг твораў. У зале прысутнічалі таксама дзеці з Англіі, у якіх жылі беларускія школьнікі ўлетку. Атмасфера канцэрта была надзвычай цёплай і дружалюбнай.

І. ГУРАРЫЙ.

ФЕСТЫВАЛІ

## Поўніўся музыкай Віцебск...



І не толькі музыкай. Апроч разнастайных канцэртных праграм, якія ладзіліся ў межах IV Міжнароднага фестывалю імя І. Салярцінскага, гучалі ў Віцебску захопленыя прамовы й навуковыя паведамленні — у музычнай гасцёўні праходзіла канферэнцыя. Тут, як і ў канцэртных залах, было таксама цікава, бо гаворка вялася пра цікавых людзей, так ці інакш звязаных з унікальным культурным асяроддзем Віцебска 20-х... А выставачныя залы горада, як заўсёды, вабілі арыгінальнымі экспазіцыямі. Пра ўсё гэта мы з часам раскажам чытачу. Пакуль жа зірніце на фота: адно з цудоўных музычных імгненняў фестывалю, які сёлета прыпаў на 90-я ўгодкі з дня нараджэння І. Салярцінскага. З ансамблем салістаў «Класік - Авангард», дарэчы, пачынальнікам гэтай фестывальнай традыцыі, выступае яго добрая творчая партнёрка, чароўная літоўская спявачка, лаўрэат міжнародных конкурсаў Ю. Лейтайтэ.

Фота М. ШМЕРЛІНГА.

ЛІТКУР'ЕР

## Васіль Быкаў—Чалавек года

Як паведаміў генеральны дырэктар Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (МБЦ) у Кембрыджы (Вялікабрытанія) Эрнест Кэй, Васіль Быкаў прызнаны Чалавекам года (1992—1993). Гэтае высокае званне надаецца рэдакцыйнымі і кансультатыўнымі радамі МБЦ толькі нешматлікім выдатным асобам за вялікі ўклад у развіццё сусветнага супольніцтва.

МБЦ выпускае больш дваццаці выданняў пад рубрыкай «Хто ёсць хто» ў розных галінах, дзе падаюцца біяграфіі тых, каму надаецца ганаровае званне Чалавека года. Біяграфія В. Быкава будзе ўключана ў дзесятае выданне «Хто ёсць хто сярод інтэлектуалаў».

## Аб'ядналіся ўкраіністы

Аб'яднанні беларусістаў існуюць у Харкаве, Львове, Чарнігаве, Жытоміры, Ужгарадзе і іншых гарадах Украіны. Нарэшце аб'ядналіся і ўкраіністы нашай рэспублікі — пад эгідай навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны і як аддзяленне Міжнароднай асацыяцыі ўкраіністаў. Мэта Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў — умацаванне і развіццё традыцыйнага беларуска-ўкраінскага пабрацімства, сапраўды добрасуседскіх адносін паміж нашымі народамі. Вырашана прыняць удзел у чарговым сусветным кангрэсе ўкраіністаў, што адбудзецца летам наступнага года, наладзіць сувязі з украінскімі суполкамі і пасольствам Рэспублікі Украіны.

Старшынёй асацыяцыі абрана перакладчыца Т. Кабржыцкая.

## «Спадчына» сабрала сяброў

На чарговай вечарыне сяброў клуба «Спадчына», што прайшла ў Доме літаратара, прафесар Мінскага інстытута культуры, ганаровы член клуба А. Грыцкевіч падрабязна расказаў пра Слуцкае паўстанне 1920 года. Кіраўнік клуба А. Белы і музычны кіраўнік Г. Смоляк пазнаёмілі прысутных з мерапрыемствамі, што маюць адбыцца ў бліжэйшы час.

П. ГАРДЗІЕНКА.

ДРУК

## Пташачка позняя, ды...

...хараша спявае. Быццам пра тэматычны план выпуску літаратуры выдавецтвам «Беларусь» на 1993 год сказана. Іншыя даўно ўжо анансавалі свае планы, а ў «Беларусі» ўсё ўзважвалі, прыгляданіся. І, здаецца, не прагадалі. Як ніколі раней, прапануецца шырокі выбар кніг, якія — несумненна — саслужаць добрую службу на карысць нацыянальнага Адраджэння.

Асабліва багаты раздзел «Гісторыя». У падарожжа ў полацкую даўніну з часоў язычніцтва да пачатку дваццатага стагоддзя запрашае У. Арлоў — «Таямніцы полацкай гісторыі». У. Емяльянчык у кнізе «Паўстанне Т. Касцюшкі на Беларусі» па-новаму асвятляе падзеі канца XVIII стагоддзя. Выходзяць фундаментальныя «Нарысы гісторыі Беларусі» ў двух частках. Да іх, можна сказаць, у нечым прымыкае і зборнік «Гісторыя Беларусі: пытанні і адказы». Л. Казлоў і А. Цітоў аповяд пра мінуўшчыну назвалі «Беларусь на сямі рубяжах». Назва кнігі В. Скалабана гаворыць сама за сябе— «Беларуская Народная Рэспубліка: за волю і шчасце». Тое ж самае можна сказаць і пра нарысы А. Ненадаўца «Скарбы Беларусі». С. Крапівін узіраецца ва ўчарашні дзень стольнага Менска — «Прадзед, які кідаў камені ў аўтамабіль». Калектыўны зборнік «Трагедыя мінскага гета» ўзнаўляе адну з самых трагічных старонак мінулай вайны. «Тыя, хто думае ва унісон» А. Уліцёнка — дыялогі з «былымі», спроба разабрацца ў іх поглядах. З беларускім замежжам пазнаёміць В. Кіпель — «Беларусы ў ЗША». Перавыдаецца вядомая праца А. Багдановіча «Перажыткі старадаўняга светабачання ў беларусаў». У перакладзе з нямецкай мовы выходзіць кніга А. Цеханавецкага «Міхал Казімеж Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме». Чытач пазнаёміцца з нарысамі А. Мяснікова «Нацдэмы: лёс і трагедыя Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка і Фабіяна Шантыра», зборнікам «Мая апошняя воля...» ксяндза А. Станкевіча (уключаны яго творы «Родная мова ў святынях», «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» і іншыя), кнігай «Жанчыны-легенды».

Чакаецца сустрэча з новай кнігай С. Алексіевіч «Зачараваныя смерцю» (слова пра тых, хто канчае жыццё самагубствам); кнігай А. Станюты (замалёўкі, дыялогі) «Стэфанія» (пра маці, народную артыстку Стэфанію Міхайлаўну Станюту); зборнікам нарысаў П. Сабіны «Плач вады». В. Вячорка папулярна расказвае дзецям пра гісторыю дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь — «Пра герб і сцяг».

Выходзяць фотаальбомы «Беларусь» і «Траецкае прадмесце», адрыўны каляндар «Родны край» на 1994 год, шэраг выданняў па музыцы: навукова папулярны даведнік Т. Мдзівані і Р. Сергіенкі «Кампазітары Беларусі», кніга Д. Падбярэзскага «Запіскі з рок-фронту», «Хрэстаматыя па беларускай харавой літаратуры», «Беларускія народныя танцы для фартэпіяна» Г. Вагнера, «Школа ігры на цымбалах» І. Жыновіча, «Вераснёвы вальс. Вакальныя творы для дзяцей» Л. Захлеўнага...

Серыю «Плошча Свабоды» папоўняць кнігі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь М. Ігнатовіча «Абскарджанню не падлягае», вядомага бельгійскага журналіста С. Бломарта «Нельга, але можна» і Ю. Залоскі «Дыялогі пра заўтра». Апошняя «лімаўскім» чытачам знаёма: на старонках штотыднёвіка публікаваліся гутаркі з В. Быкавым, У. Конанам, І. Жуком...

## «Роднае слова», № 11

Пра тое, як праходзіць беларусізацыя школы ў Баранавічах, разважае загадчык Баранавіцкага гарана Л. Цупрык («Адрадзіць беларускі этнас адна школа не зможа...»)

У раздзеле «Методыка і вопыт» выступаюць: Тамара Мушынская («Я — сучасны чалавек», вывучэнне рамана А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя», У. Гурыцкі (заканчэнне артыкула «Выкарыстанне фонахрэстаматыі на ўроках»). Тут жа — праграма праспект па беларускай літаратуры для VIII—XI класаў (літаратура перыяду грамадзянскай вайны і дваццатых гадоў, раздзел падрыхтаваны М. Арочкам), вершы У. Караткевіча, што вывучаюцца ў школе, метадычныя распрацоўкі У. Саўко і І. Саўко «Дзелавая гульня».

Артыкул М. Абабуркі «Якуб Колас і развіццё беларускай апавядальнай мовы», заканчэнне штрыхоў да творчага партрэта І. Пташнікава «З Мсціжаў бачны свет», артыкулы Г. Андарала «Назвы адзення ў мове твораў Караткевіча», П. Сцяцко «Нарматыўнасць трывальна-часавых формаў дзеяслова» аб'яднаны ў раздзеле «Філалогія».

У нумары — заканчэнне эсэ У. Арлова пра жыццё і творчасць С. Полацкага («Муж дабраверны, царкве і дзяржаве патрэбны...»), гутарка М. Маліноўскага з мастаком С. Свістуновічам «Багрым даўно ўжо стаў легендай...», артыкул Ц. Ліякумовіча «Колас і Гогаль», сцэнарый літаратурнай вечарыны, прысвечанай творчасці Я. Брыля «Усё жыццё ў народзе і з народам», падрыхтаваны М. Яўхімавай, заканчэнне артыкула В. Шматава «Святло Скарынавых кніг», слова С. Барыса «Песня пра Нёман» у сувязі з 90-годдзем з дня нараджэння Н. Сакалоўскага, карэспандэнцыя У. Конана «З гісторыі мінскага друку», чарговая старонка «Літаратурнага ветразя» (М. Скобла «прадстаўляе» паэта І. Пракаповіча), іншыя матэрыялы.

## Вяртанне Шолама-Алейхема

Сталася так, што апошні раз кніга класіка яўрэйскай літаратуры Шолама-Алейхема (зборнік «Апавяданні») выйшла на беларускай мове ў 1940 годзе. Пасля гэтага яго асобныя творы з'яўляліся толькі ў перыёдыцы ды калектыўных выданнях.

Лёд, нарэшце, скрануўся. Чарговым томам у бібліятэцы «Скарбы сусветнай літаратуры», якую выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура», стала выбранае гэтага пісьменніка — «Тэўе-малочнік». Акрамя аднайменнай аповесці ў зборнік увайшлі аповесць «Хлопчык Мотл», юнацкі раман «Песня песняў» і лепшыя апавяданні Шолама-Алейхема, перакладзеныя на беларускую мову М. Валошкам, А. Васілевіч, Ф. Батрыным, Ю. Канэ, С. Міхальчуком, З. Бядулем.

Укладальнікі тома — Ю. Канэ і Р. Барадулін, прадмову «Мір вам!» напісала Ю. Канэ.

Аповесць «Хлопчык Мотл» значыцца і ў плане выдавецтва «Юнацтва» на 1993 год.

## Шчодры «Каласавічок»

«Каласавічок» — так называецца чытанка-маляванка для дашкольнікаў, якую выпусцілі Беларускі дзіцячы фонд і яго выдавецкае таварыства «Хата». Змест склалі вершы, казкі, песні і гульні, што друкаваліся на старонках часопіса «Вясёлка». Сярод аўтараў — Пімен Панчанка і Максім Танк, Алесь Пісьмянкоў, Мікола Маляўка, Мікола Чарняўскі, Серафіма Бестава. Прадстаўлены беларуская народная казка «Курачка-рабка», руская — «Лісіца і збан», украінская — «Саламяны Бычок». Ёсць у кніжцы песня «Вучыць азбуку Гусак» (музыка З. Яўтуховіча, словы Л. Пранчака) і шмат-шмат малюнкаў.

Падпісчыкі «Вясёлкі» атрымалі «Каласавічок» бясплатна, але ён прадаецца і ў газетна-часопісных кіёсках.

КУЛЬТУРА

## Сезон пад знакам Коласа

Адна з лістападаўскіх вечарын у Краснапольскім тэатры была прысвечана 110-м угодкам Якуба Коласа. Пасля расповяду пра жыццё і творчасць паэта акцёры тэатра чыталі ягоныя вершы, а таксама паказалі аднаактовую п'есу «На дарозе жыцця». Удзельнікі вакальнага ансамбля з вёскі Горы выканалі народныя песні. Такім чынам вечарына распачала чарговы сезон Краснапольскага тэатра.

Я. КАПЛУНОВА.

## Свята харэаграфіі

Дванаццаць танцавальных калектываў прынялі ўдзел у Міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі, які праходзіў у Віцебску. Сюды прыехалі артысты з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Таліна, Пермі, Тальяці, Екацярынбурга і іншых гарадоў.

Свабодная пластыка, адмысловыя харэаграфічныя кампазіцыі, якія выяўляюць складаныя ідэі, усё гэта можна было ўбачыць на канцэртах свята сучаснай харэаграфіі.

Статус Міжнароднага фестывалю набыў дзякуючы ўдзелу ў рабоце журы педагога-харэографа школы «Гранд-Опера» Філіпа Базвіля і прысутнасцю прадзюсераў з Іспаніі. Узначаліў журы мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага Вялікага балета Рэспублікі Беларусь В. Елізар'еў.

Пераможцам фестывалю былі ўручаны грашовыя прэміі і прызы.



Харэаграфічная кампазіцыя ў выкананні артыстаў тэатра «Фабрыка нацюрмортаў» з Масквы.
Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.

## Справа майстра баіцца

Жывапісец Вольга Кудрашова.

Кожны выраб Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва, як, дарэчы, і ўся беларуская кераміка, па-свойму арыгінальны і непаўторны. Наборы кухоннага посуду, сервізы для кавы, вазы, кашпо, разнастайныя сувеніры, дробная пластыка — эскізы гэтых і іншых відаў прадукцыі ствараюць мастакі-керамісты, у большасці сваёй выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў.

Асаблівасць барысаўскай керамікі і ў тым, што вырабы тут выпускаюцца малымі серыямі — не больш за 400 штук. Нягледзячы на ўзрослыя цэны, прадукцыя не залежваецца на прылаўках.

Эканамічная нестабільнасць, вядома, закранула і Барысаўскі камбінат прыкладнога мастацтва. Рэзка скарацілася колькасць заказаў на вытворчасць керамікі для афармлення інтэр'ераў грамадскіх будынкаў. Вялікая група таленавітых мастакоў засталася амаль без работы. Недазвальняльная раскоша — не выкарыстаць у поўную сілу іх творчы патэнцыял і магутную вытворчую базу камбіната. Відаць, у гэтай справе патрэбна дапамога і Міністэрства культуры, і іншых урадавых структур.

Тэкст і фота Яўгенія КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ.

# СІНЕМА

ЭСЭ

Адам ГЛОБУС

## Алкаголь

Сінема лепш, чым кіно, бо на слова «кіно» занадта многа рыфм — віно, даўно... А Жуль Рэна́р пісаў, што рыфмы псуюць прозу, праўда, я з ім не згодны. Вось, напрыклад, «віно» — «кіно», тут жа не толькі рыфма, тут ёсць і сэнсавая сувязь. Што рабіць увечары? Піць? Большасць маіх суайчыннікаў так і робіць. А калі не піць? Тады ісці ў кіно. Толькі гэта не галоўнае. У слове «сінема» чуецца нешта італьянскае, можа, сіняе мора, можа, сіняя смуга, а можа, яшчэ што-небудзь. А без Італіі няма кіно. Але пра гэта пазней. Вернемся да алкаголю.

Была ў мяне дзеўчынёха. Нішто сабе дзяўчо з вельмі заможнай сям'і, яе бацька помнікі на могілках рабіў. Адносіны ў мяне з ёю былі абуральна-цнатлівыя, вось мы і хадзілі ў кіно. У той раз, пра які буду гаварыць, я ўзяў квіткі ў кінатэатр «Цэнтральны». Кінатэатр неблагі, толькі ён стаіць занадта блізка да вакзала, і адпаведна — публіка там, выбачайце, свіны мешань. На кіначасопіс мы спазніліся, і як на тое гора, мне яшчэ захацелася ў прыбіральню. Праўда, я не з тых людзей, што саромеюцца сваіх жаданняў. Яшчэ ў дзіцячым садку мяне прывучылі паважаць арганізм. «Пачакай, я хутка», — сказаў я сяброўцы і пайшоў. Іду праз курылку. І які разумнік прыдумаў буфет і курылку з прыбіральняй побач зрабіць?! Буфет быў зачынены, а ў курылцы на лаўцы пляшка стаяла. Ну, стаіць і стаіць. Мне што? Паглядзеў я на кафлю над пісуарам, вяртаюся. Пляшка на месцы. Зіхціць! Узяў яе ў рукі. Закаркаваная. «Чыя гарэлка?», — спытаў я ў буфетных і прыбіральных дзвярэй. Ціха! Адкаркаваў я пляшку і выпіў з рыльца, больш як палову цёплай, ледзь пракаўтнуць, вадкасці. Паставіў пляшку на месца і пайшоў цешыцца з дасягненняў кінематографа. Як ішоў, як па чужых нагах тап-таўся, як сеў, помню. А што на экране было — не помню. Адны пляміны чырвоныя і зялёныя і яшчэ жоўтыя засталіся ў памяці. Дзіва, што хоць пляміны засталіся. Кепска мне зрабілася. Зала поўная, цёмна, дыхаць няма чым. Выйшаў я разам з брыдкімі словамі, што ў мяне гледачы запускалі. Добра, што не ванітавала на плечы папераддзесядзячых. Абышлося.

А вось у кінатэатры «Партызан» не абышлося. У Алеся Ласевіча была хата, так выйшла, што кватэру яму далі, а хату не знеслі. Мы ў ёй майстэрню зрабілі. Мальберты, карціны па сценах, канапа і, вядома, натуршчыцы. Маладыя гады, маладыя жаданні, як пісаў класік. Запрасілі мы Касю Роганаву. У Касі пастава, я вам скажу, усе мужыкі азіраліся. Не фатографы і розныя там кіна-тэле-кліпарэжысёры, а звычайныя пралетарыі. Высокая, васемнаццацігадовая дзеўка, а важыла, пэўна, цэнтнер. Вось так. «Верх здыму, а ніз — не!» — сказала, як адрэзала, наша натуршчыца. «Здымеш. Гэта толькі пачатак. Сорам адолееш і здымеш свае майткі. Як і ўсе папярэднія здымалі», — падумаў я і пачаў фарбы на палітру выціскаць. «У цябе што, лажа?» — спытаў Алесь. Кася паружавела і сказала, што, калі б у яе была менструацыя, яна б зусім не прыйшла б, бо ў хаце нават гарачай вады няма. «Адвярніцеся». Мы адвярнуліся. «Усё!» Я павярнуўся і... закусіў шчаку, каб не засмяяцца. Кася Роганава стаяла пасярод майстэрні, шырока расставіўшы мануменатльныя ногі і высока ўзняўшы голаў, не раўнуючы Жанна д'Арк у парыжскім натоўпе. Важкімі кулакамі Роганава ўпіналася ў свае смятанныя клубы. У адным з кулакоў яна заціснула станік. Я глянуў на Алеся і мацней закусіў шчаку. Што зрабіў Алесь, каб не заржаць, не ведаю. А я пракусіў сам сабе левую шчаку. У роце зрабілася салёна. Я схіліўся і плюнуў на палітру, каб запэўніцца, што поўны рот крыві, а не сліны. Смех прапаў. «Пакладзі станік і стань нармальна». Голас у мяне быў нейкі вайсковы, і Кася паслухмяна паклала на канапу белы станік, зняла майткі і стала спакойна і асуджана, як жанчыны становяцца ў доўгую чаргу. Я пісаў толькі торс — плаўныя ключыцы, налітыя грудзі з ружовымі, што мальвы, саскамі. «Мне халодна!» — Касіны блакітныя і пустыя вочы глядзелі на мяне патрабавальна. «У мяне ёсць віно», — з-за мальберта вынырнуў рабы Алесеў твар. Мы выпілі дзве бутэлькі горка-салодкага «Агдаму» і не прыдумалі нічога лепшага, як пайсці ў кінатэатр. Зала была напаўпустою, мы селі на першы рад і пачалі смяяцца, пэўна, выходзіў той «ржач», які мы праглынулі ў майстэрні. Кіначасопіс скончыўся. Запалілася святло, да нас прычыкілдыгала наглядальніца. Яе азызлы, што вялікая цыбуліна, злосны твар з выбеленымі вусікамі і бурачковым ротам наблізіўся да мяне: «Будзеш смяяцца — выведу з залы!» Смяяцца расхацелася, захацелася сыграць джаз. Пад экранам блішчэла чорнае піяніна. Алесь іграў, Роганава спявала, як жыхарка амазонскае сельвы ці як Іма Сумак, я іміціваў Армстронгаву трубу, зала свістала, тупала, лаялася і крычала. Такі поспех здараецца адзін раз на ўсё жыццё. На вуліцы было свежа пад буйнымі зялёнымі зоркамі. І я натхніўся і, абняўшы Роганаву, сказаў, што самыя вялікія зоры адбіваюцца ў цёмнай вадзе Амазонкі.

А з вадою, толькі не з рачною, а басейнаваю, у мяне зніітаваны яшчэ адзін выпадак. У кінатэатры «Спартак», цяпер гэта Дом работнікаў гандлю, быў шыкоўны буфет. Мясціўся ён на антрэсолях, а не каля прыбіральні ў сутарэннях, як у «Цэтральным» і «Партызане», дарэчы. За стойкаю там увіхалася кірпатая круглатварая дзявуля, якую мы празвалі Рэпа. На верхняй паліцы ў Рэпы стаяла віно. На італьянскі фільм «Мы так любілі» ў «Спартак» мы прыйшлі ўчатырох — я, Алесь, Жанка і Вовік. Мы доўга разглядалі верхнюю паліцу з віном. «Кабернэ», «Рыслінг», «Такайскае»... Мы скінуліся і ўзялі партугальскі «Марцінес». Мы сядзелі на першым радзе і пілі чырвонае моцнае віно і смяяліся, і глядзелі трагікамедыю. «Тры маладыя і вясёлыя рымляніны закахаліся ў адну дзяўчыну. Яна іх таксама любіла і нават пераспала з імі па чарзе. Ну, вядома, рэўнасць, начны Рым, фантан, ліхтары, смех, падание ў фантан... Буйны план — вочы і слёзы. Буйны план — усмешка. Яна — ён. Яна — ён (толькі ўжо другі ён)». Мы п'ём віно, як дамовіліся, маленькімі глыткамі. «Сваркі. Героі махаюць рукамі. Так умеюць махаць толькі італьянцы. За адно імгненне пралятае дваццаць год. Яна выпадкова сустракае аднаго з іх. Яны п'юць у бары віно». Мы таксама п'ём пакрысе, каб расцягнуць кайф. «Яны знаходзяць яшчэ аднаго са старых знаёмых. Яны ўсе бедныя і вясёлыя. Праз паліцыю яны даведваюцца адрас чацвёртага. Ідуць да яго. Вялікая віла з басейнам. Ён у махровым халаце выходзіць з вілы, ідзе праз разарый да блакітнага, а хутчэй колеру марской хвалі, басейна, скідае халат і ўзбягае на вышку, ён ляціць у ваду. Стоп-кадр. Ён вісіць над басейнам колеру марской хвалі. А жанчына і яе сябры, пацiскаючы плячыма, смяюцца і сыходзяць. Канец». У Вовіка парожняя пляшка з-пад «Марцінеса», і ён п'яны. Так заўсёды, нехта адзін напіваецца першы, хай сабе і дамовіліся піць маленькімі глыткамі. Усе смяюцца і кажуць, што гэта я ныркну ў басейн, ажанюся з габрэйкай і пабудую вілу з басейнам. А я кажу, што нырне Вовік. Вовік кажа, што Алесь. Мы ўтрох не нырнулі ў басейн колеру хларыраванай хвалі. Віла толькі ў Жаны. Яна выйшла замуж за нашчадка аўстравенгерскага пана і пераехала з Менска ў Чарнаўцы. Жана піша вялікія карціны накшталт «Уз'яднання Букавіны з Украінаю», някепска зарабляе і жыве з мужам, сынам і цешчаю на хутары. Толькі хутар той — гэта ж не хата з хлевам сярод лесу пад Налібокамі, а сапраўдны маёнтак, і басейн ёсць, вось вам. Гэта мне Жанін бацька расказаў, толькі паскардзіўся, што ўнук не гаворыць ні па-расейску, ні па-беларуску, а толькі па-ўкраінску, і ён (дзед) не ўсё разумее.

## Дом кіно

**Дом кіно я не люблю. А хто яго, зрэшты, любіць? Можа, экзальтаваныя дурніцы, што прыехалі ў горад з райцэнтраў ды так і засталіся ў сваім развіцці на ўзроўні кінакасірак? Ці, можа, дападныя юнакі, якія бачаць у снах рэжысёрскую кар'еру? Не. Нават яны не любяць менскі Дом кіно. А за што яго любіць? І сапраўды. Можа, за тое, што там часам паказвалі галівудскія кінастужкі са стрыптызам (лабок на ўвесь экран) ды садызмам (кроў капае з кулака). Ці за тое, што дзябёлая бармэнка налівае разбаўлены каньяк? А мо за творчыя вечарыны?**

**На адной з такіх вечарын я выступаў у якасці паэта. Вечарына называлася «Мова паэзіі і мова кіно». Пракруцілі два фрагменты. Адзін з «Мальбы» Абуладзе, другі з «Люстэрка» Таркоўскага. У тым выпадку пра якасць гэтых стужак гаварыць не выпадала. Я выйшаў да мікрафона і панёс на Абуладзе, напэўна, дарма, але я абураўся, што ў расейскім варыянце «Мальбы» ўсе вершы чыталіся з дзікім грузінскім акцэнтам. Нібыта іх чытае не прафесійны актор, а савецкі салдат каўказскага паходжання, які ледзь навучыўся разбіраць кірыліцу. Культывацыя ўсялякіх акцэнтаў і іміджаў — адна з самых брыдкіх з'яў савецка-маскоўскага мастацтва. І можна было б уявіць абурэнне маскавітаў, каб вершы Пушкіна з «Люстэрка» пасля дубляжа на ангельскую мову загучалі б з расейскім акцэнтам. Але што вялікім народам да праблем малых?! Яны пануюць, яны гаспадары свету, яны ператвараюць мовы ў акцэнт, а нацыянальную самабытнасць і самакаштоўнасць у сувеніры, бутафорыю, імідж.**

**Дом кіно. Гэта на паперы ён «дом» і «кіно». А ў сапраўднасці яго няма, ёсць былы касцёл, які часова абсталявалі пад адміністрацыйны будынак з кіназалаю.**

**А каб у Менску сапраўды быў Дом кіно, трэба спачатку займець сваё беларускае кіно. А як яго зрабіць, гэтае беларускае кіно? Напэўна ж, так, як італьянцы зрабілі сваё. Аляксандра Блазэці ў сваёй нататцы «Або італьянцы, або нічога» пісаў:**

**«Рым — адкрыты горад» — сапраўдная слава італьянскага кіно, сапраўдны паварот у сусветным кінамастацтве — меў той поспех, які ён меў, і гэта аднадушнасць замежных прыхільных водгукаў разнесла ўшчэнт слепаваты педантызм некаторых італьянскіх крытыкаў — бясспрэчна і толькі таму, што яго паставіў італьянец, сцэнарый напісалі італьянцы, ролі выконвалі італьянцы, здымалі італьянцы, удзельнічалі італьянскія статысты і зняты ён быў у Італіі. Менавіта гэты ягоны цалкам італьянскі «характар», з усімі годнасцямі дый недахопамі, нават памылкамі (але італьянскімі), адрознівае фільм па ягоным духу ад усёй астатняй сусветнай кінапрадукцыі...**

**...Для тых, хто захоча ўгледзець у маіх турботах тупы «нацыяналізм», рэцыдывы італафільскага фанатызму, а не сапраўдную праблему характару, а як следства і стылю, нагадаю, што за ўсю гісторыю кінамастацтва фільмы, створаныя ў выніку «міжнародных» камбінацый, ніводнага разу не мелі трывалага поспеху.**

**А беларусы?**

**Як казаў двухмоўны паэт Шэлехаў — супрацоўнік кінастудыі, што стаіць каля станцыі метро «Маскоўская»: «Зрэдку я сустракаю ў калідорах беларусаў, раз на месяц, а то і радзей, але што яны там робяць, я не ведаю».**

**І я таксама не ведаю. Дык які ж, прабачце, Дом кіно?**

## Эротыка

Эротыка ў кіно для мяне тое самае, што і палітыка ў кіно. Праўда, гэта зараз кожны фільм мае эратычныя сцэны, а раней нябачны і ўсемагутны цэнзар выстрыгаў з замежных стужак усю, як тады лічылі, парнаграфію, усю, як цяпер кажуць, эротыку. Палітыку цэнзар таксама выстрыгаў, але ад гэтага стужкі не рабіліся карацейшыя, бо дубляжоры проста гаварылі не пра «халодную» вайну, а пра халодныя закускі. А ўявіце сабе, які фільм можна было б зманціраваць з гэтых павыстрыганых кавалкаў. Думаю, білеты б распрадалі на год наперад. Але гэта нездзяйсняльная мара, хаця ў такім вось накірунку і працуюць аматары падпольнага мастацтва — айчынныя кінамеханікі. Тое, што не выстрыг магутны і нябачны, выстрыгае просты кіншчык. Самыя-самыя стрыжкі вядомы ў войску, але і на волі робяцца эратычныя калажы.

Сакавітая Гундарава ў начной паўпразрыстай сарочцы на голае цела («У чацвер і больш ніколі») не паспявае і слова сказаць, як на экране імітацыя акту («Мужчына і жанчына»), а потым расейская музыка і жанчына-мара («Белае сонца пустыні») заходзіць у крынічную ваду і павольна ўздымае спадніцу, вышэй і вышэй і... чорна-белы труп даўганогай італьянкі («Прызнанне камісара паліцыі пракурору рэспублікі») кладуць у апалубку і залiваюць цэментам.

Напэўна, у кожным кінамеханіку тоіцца кінарэжысёр з кінаапаратарам. І чаму ім не таіцца, калі ў кожным дырэктары кінатэатра жыве і квітнее цэнзар. Хачу — пушчу, хачу — не пушчу, закажу — не закажу, прывязу — не прывязу. А план усё роўна будзе, адзін індыйскі фільм на месяц, напрыклад, «Ноч у Бамбеі», — і план ёсць.

А што рэжысёры?! А нічога. Адзін Феліні, па чутках, быў супраць продажу сваіх фільмаў у СССР. Дык гэта ж Феліні! Сапраўды. А можа, у свеце і ёсць адзін рэжысёр — Феліні? Не? Сапраўды, ёсць і Вісконці, і Розі, і Пазаліні, і Антаніёні, і Берталуччы... Адны італьянцы? Нешта не тое? Тады ёсць Бунюэль са сваім «Андалузскім сабакам». Раз убачыш і ніколі не забудзеш.

«Пралог.

Аднойчы.

Ноч. Гаўбец. Каля гаўбца чалавек вострыць брытву-галяк. Ён глядзіць на неба і бачыць праз шкло...

Лёгкая хмурынка набліжаецца да поўні.

Потым — твар дзяўчыны. Яе вочы шырока раскрыліся. Да вока падносіцца лязо брытвы-галяка.

Хмурынка праплывае перад поўняю.

Лязо рассякае вока.

Канец пралога».

Уражвае Бунюэль. Мяне дык страшэнна ўзрушвае. Пэўна, альянс атрымаўся, бо сцэнарый разам з рэжысёрам пісаў мастак Сальвадор Далі. І ролі выконваліся не выпускнікамі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, а тымі ж Далі (святар) і Бунюэлем (чалавек з брытвай-галяком). Толькі тут і выходзіць адна непрыемнасць. Бо для мяне іспанскае кіно як пачынаецца на Бунюэлі, так і канчаецца на ім; зрэшты, не толькі іспанскае, а і французскае. У французаў хапае тэмпераменту, каб рабіць пародыі і камедыі, а на кіно іх не хапае. У немцаў яшчэ горш. Глядзіш нямецкі фільм і раптам ловіш сябе на такой думцы: выдатныя ў немцаў бутафоры. І як гэта яны змаглі столькі аўтамабіляў 30-х гадоў назбіраць і адрапараваць? У палякаў і скандынаваў ёсць выдатныя кінамастакі, толькі падзеі разгортваюцца ў два разы марудней, чым трэба. Альбрыхскі ідзе па восеньскім парку. Настрой, каларыт і пытанне. Калі ж ён прыйдзе туды, куды ідзе? А ўсё проста. Скараціць бы гэты парк, і ўсяе бяды. Але ж паўночны тэмперамент не дазваляе. Амерыканцы скарачаюць, не шкадуючы. Гэта ў іх ад Чапліна ў спадчыну засталося. Трах-бах, вой-вой, памірае зайчык мой. Трапечуцца героі, скаляцца гераіні. Міма. У малако. Кінг-Конгі. Поспехі толькі ў касірак. Але гэта ўсё кветачкі. Каго здзівіць мая думка пра замежнае кіно? Хіба што жонку. І мая любоў да італьянскага неарэалізму ўсім да лямпачкі. Вось і давядзецца вярнуцца ў родную «Беларусь», ёсць у Менску такі кінатэатр на Юбілейнай плошчы, і глядзець там стужкі «Беларусьфільма», ёсць жа такое прадпрыемства каля станцыі метро «Маскоўская». А вочы б мае не бачылі! А вушы б мае не чулі! Але вочы бачылі, і вушы чулі...

Пад Лагойскам здымалі фільм пра вайну. «Беларусьфільм», у народзе «Партызанфільм», любіць і не ўмее здымаць фільмы пра вайну. Кіношнікі назбіралі мясцовых мужчын, выдалі ім па аўтамату, паабяцалі заплаціць па тры рублі і загадалі легчы на зямлю каля рэчкі. Ноч. Цёмна. Пражэктарам асвятляюць толькі галоўных герояў. Пачаўся бой. Піратэхнікі працуюць. Камера стракоча. Рэжысёр маўчыць. Усё ідзе па плану. Немцы ідуць, нашы партызаны ляжаць у засадзе. Пражэктар асвятляе нашых, лагойскіх хлопцаў, яны ляжаць з аўтаматамі ў руках, з каменнымі`рашучымі тварамі. Толькі ляжаць яны не на роднай зямлі, як было загадана, а на газетах. Рэжысёр запсіхаваў, ускочыў, пабег праз «немцаў» да «партызан». Лаяўся ён па-

расейску. А нейкі дзядзька падышоў да яго, аддаў аўтамат і сказаў, што за тры рублі хлопцы ў сваёй адзежы на зямлю не лягуць. Рэжысёр супакоіўся, вярнуў аўтамат і паабяцаў заплаціць па чырвонцу. У фільм гэта сцэна, вядома, не ўвайшла. Але ў ёй было кіно, быў тэмперамент і нечаканасць. У кінатэатрах круцілі экранізацыю савецка-партызанскай аповесці А. Адамовіча. Рашучыя твары, аўтаматы, немцы на матацыклах — мура. Ну, вядома, пра эротыку тут і згадваць нявapта. «Беларусьфільм» — самая цнатлівая і сарамлівая кінастудыя ў свеце, прынамсі, была. Пакуль не дазволілі. А як дазволілі (згадаем народнае: «Прымусь дурня Богу маліцца, ён лоб разаб'е»), з'явіліся на экране такія сцэны:

«Завод. Распраналка. Дзве работніцы распранаюцца і ідуць у душ. Адна з работніц шыракатварая з белымі грудзямі, другая — хударлявая з лісіным профілем і нязграбным шнарам ад апендыцыта. Работніцы шаруюцца мачалкамі, уздыхаюць і радуюцца вадзе. Намыўшыся і нацешыўшыся, яны вяртаюцца ў распраналку і пачынаюць выцірацца пухнатымі ручнікамі.

— А дэталі так і не прывезлі, — гаворыць шыракатварая і выцірае свае белыя грудзі.

— Зрываецца план, — занепакоена гаворыць другая і выцірае доўгую худую шыю.

— Трэба сабраць сход і абмеркаваць гэта пытанне, — шыракатварая ўскладае бежавы станік.

— Я абавязкова выступлю, бо калі так і далей пойдзе, мы не выканаем пастаўкі.

На экране важкія сцёгны ў сятчастых панчохах.

Заводская прахадная.

— Дык ты выступіш? — шыракатварая адкідае з ілба пасму валасоў.

— Абавязкова, — лісіны профіль у махеравай шапачцы ківае».

Такіх дзікіх сцэн па сумяшчэнні так званага карыснага з так званым прыемным, вядома, няшмат. Пакуль што няшмат. Але ў планах кінастудыі, што каля станцыі метро «Маскоўская», мільгае набокаўская «Лаліта». Вось там ужо будзе, будзе. «У каго слабыя нервы, тым лепш лакінуць залу», — папярэджваў гледачоў Герман Франк. Вось і я прапаную пісаць на афішах замест «для дарослых» — «для гледачоў з моцнымі нервамі». А можна і не пісаць, бо фірма «Беларусьфільм» ужо сама за сябе гаворыць.

Ёсць у мясцовых кінатворцаў і тэарэтычнае абгрунтаванне сваіх пачвар.

У Доме кіно зноў даводзіцца згадваць пачвару, я быў сведкаю, як адзін майстра з аб'яднання «Летапіс» павярнуў да залы свой твар колеру старой анучы і з цынічнаю ўхмылачкаю пачаў разважаць: «А вы ведаеце, шаноўныя, што дзяцей-уродаў бацькі любяць больш, чым нармальных. Вось і я свае благія і бяздарныя фільмы люблю значна больш, чым пасрэдныя і добрыя. Так што, выбачайце, шаноўныя». Вось і атрымлівае глядач бруднай анучай па твары. Вось і выкарыстоўвае цынік драбочкі гуманізму, што ёсць у нашым грамадстве.

Можна не хадзіць на ягоныя фільмы!

Э, не. Тут памылачка. Можна не хадзіць на мастацкі фільм. А так званы кіначасопіс прадаецца «ў нагрузку» і без папярэджання. Класічны «кот у мяху». Глядач пакорліва купляе, прымае, як непазбежнасць, прадукцыю вось такога цыніка з тварам колеру бруднай анучы, што сядзіць на мяккім крэсле ў Доме кіно, паліць дарагія цыгарэты, п'е разведзены каньяк і пасміхаецца. І ніякі ён не ўрод і не калека, і не хворы, ён — цынік, і фільмы ягоныя не ўроды, а хлусня цыніка.

«Пайшоў прэч! Чуеш, я табе кажу. Пайшоў прэч!»

Гэты «хітры», а на самай справе подлы, ход з кіначасопісам прыдумалі даўно, але гэта зусім не азначае, што ён будзе заўсёды.

І я не патрабую сатысфакцыі, не патрабую пакараць цыніка, які «з'еў» тысячы дзяржаўных рублёў, і нават не патрабую забараніць дэманстрацыю кіначасопісаў. Бо ў мяне ёсць у запасе контр-ход. Можна проста не пайсці на кіначасопіс. Але бываюць і добрыя... Прабачце. Лес сякуць — трэскі ляцяць. І я яшчэ не жабрак, каб есці бясплатную кінакатлету з камбітлушчам.

Але хопіць пра недарэк ад кінематографа.

Калі ў зале гасне святло, ёсць у гэтым моманце нешта таемнае і эратычнае. Галава сама паварочваецца і хоча агледзець суседзяў, а раптам побач павабная самотная суседка. Тады можна і пазнаёміцца, ці хаця б паспрабаваць пазнаёміцца, ці яшчэ што-небудзь паспрабаваць. Вядома, у большасці выпадкаў трапляеш у кінатэатр з кімсьці, і тады няма розніцы, які незнаёмы ці незнаёмка побач з табой, за выключэннем, калі трапіцца п'яны ідыёт ці смярдзючы біч, які захрапе пасярод фільма. Але ёсць выпадкі, калі ідзеш у кіно адзін. Зрабілася крыўдна на ўвесь свет. Усе людзі — быдла. Вар'яцееш ад адной толькі думкі, што з гэтым быдлам ты пражывеш усё сваё наканаванае жыццё. Што рабіць? Куды плыць?

І трапляю ў залу, і павольна цямнеюць лямпы, і заўважаю, што побач сядзіць жанчына. Ёй год трыццаць-трыццаць пяць. У яе азначылася другое падбароддзе. А ў руках яна трымае папяровы кулёк з мармеладам. Яна манерна кладзе ў рот дрогкую мармеладзіну і абтрасае з пальцаў драбочкі цукру. Мне ўжо ўсё роўна, што дзеецца на экране. Я крадком кладу руку на жаночае круглае і слізкае ад нейлонавай панчохі калена. А тая ўдае, што цалкам занятая фільмам і мармеладам. А мая рука ціха адзе па нейлоне. А незнаёмка нахіляецца да мяне і шэпча: «Прыбяры руку і з'еш цукерку». Я не прыбіраю руку, я спыняю яе. Тады незнаёмка бярэ маю руку — у яе на пальцах засталіся драбочкі цукру — і засоўвае яе ў папяровы кулёк. Мы ядзім мармелад. І нарэшце ён канчаецца. Незнаёмка шархоча паперай, хавае скамечаны пакет у сумачку. Мая рука трапляе на панчоху. Я гладжу нагу незнаёмкі крыху вышэй калена. «Табе колькі год?» Я ледзь разбіраю словы, так ціха яна спытала. «Шаснаццаць». — «А мне трыццаць шэсць, і ў нас нічога не атрымаецца». — «Чаму?» — «Прыбяры руку і глядзі фільм, потым пагаворым». Гляджу на экран і нічога не магу зразумець:

«На беразе рэчкі стаіць чалавек. Ён абапіраецца на парэнчы. Чалавек падобны да самотнага прахожага, які выпадкова апынуўся на пустэльным беразе. Ён глядзіць долу, туды, дзе коцяцца шэрыя і халодныя хвалі.

Побач спыняецца другі чалавек. Першы не ўздымае галавы і гаворыць:

— Пан доктар, днямі недзе непадалёк ад Прагі скінулі парашутыстаў. Што вы ведаеце пра гэта?

— Нічога... зусім нічога, — з нарочыстым здзіўленнем запэўнівае «доктар».

Той, што спытаў, маўчыць, пэўна, ён не зусім паверыў «доктару». І гэты не быў падрыхтаваны да такога лабавога пытання і разумее, што доказ прагучаў не зусім пераканаўча.

— Праўда... Мы прасілі прыслаць з Лондана радыста, — гаворыць «доктар», ён імкнецца выправіць становішча, — але пакуль ніхто не з'яўляўся. Можа, яго схапілі.

— Не можа такога быць!... І ўсё ж я баюся, каб хто-небудзь не нарабіў глупства...»

Астатні час я і не імкнуўся глядзець на экран, я думаю над сакраментальнымі пытаннямі. Ці можна закахацца ў кінатэатры? Ці запросіць незнаёмка да сябе? Ці ёсць у незнаёмкі муж і дзеці? Якая ў яе пастава, калі яна стаіць пад душам? Я кручу сваё кіно. А на экране:

«Дзеці купаюцца ў рэчцы. На полі працуюць людзі. Цягнік імчыць у далячынь. Канец».

Грукаюць крэслы. Я зажмурваюся ад яркага вулічнага святла. «Ну, і што далей?» У незнаёмкі густа напудраны нос. «А далей, хлопчык, мы пойдзем на таксі». Яна бярэ мяне пад руку, і мы ідзём праз сквер. Яна мне страшэнна не падабаецца ў вулічным святле, другое падбароддзе выглядае ўдвая большым. На прыпынку шмат таксовак. Яна адчыняе заднія дзверцы, сядае і кажа: «Еш мармелад. І расці вялікім». Таксоўка ад'язджае. Я азіраюся на кінатэатр, на афішу і даведваюся, што паглядзеў чэшскі фільм «Ключ».

# ДЗЯДУЛЯ ЯЎРЭЙСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ



**8 снежня споўнілася 75 гадоў як не стала пачынальніка рэалізму ў яўрэйскай літаратуры, класіка яе Мендэле-Мойхер-Сфорыма**

«Месца майго нараджэння — Капыль, якое знаходзіцца ў Слуцкім павеце Мінскай губерні. Бог не вылучыў гэтае мястэчка ні багаццем, ні прыгожым жыццём і не выбраў яго для вялікага гандлю, але затое ён адарыў тутэйшы край вабнасцю прыроды, цудоўнымі лясамі, спакоем, зялёнымі далінамі і дагледжанымі палеткамі.

Мой дзень нараджэння нідзе не зарэгістраваны. Пра гэта раней яўрэі і падумаць не маглі, асабліва ў маленькіх мястэчках. Але, па маіх падліках, я нарадзіўся ў 1836 годзе, і, як устанавілі мае родныя, дзень майго нараджэння прыпадае на 20 снежня».

Так пачынаецца аўтабіяграфія Якава Абрамавіча Шалома, які падпісваў свае творы псеўданімам Мендэле-Мойхер-Сфорым, што ў перакладзе азначае Мендэле-Кніганоша. Амаль у кожным творы апавяданне вядзецца ад гэтага імя. Заслуга ж пісьменніка ў тым, што ён першым укараніў у яўрэйскую літаратуру лепшыя традыцыі еўрапейскіх і рускіх класікаў, якія былі падхоплены яго наступнікамі.

Першым настаўнікам хлопчыка быў яго бацька, равін Капыля, а ў 1850 годзе, калі ён памёр, Якава ўладкавалі ў Цімкавіцкі ешыбот. Са сродкамі ў сям'і было цяжка, таму праз некаторы час хлапец апынуўся ў Слуцку, разлічваючы, што там знойдзе хоць нейкую работу, каб лягчэй пракарміцца. Ды ўсё ж вучобу давялося пакінуць. Маці ў гэты час выйшла другі раз замуж і жыла на хутары Мельнікі, што за вёрст дзесяць ад Капыля. Айчым прапанаваў пасынку вучыць яго дзяцей. Адначасова Якаў пашыраў і свае веды, вывучаў творы старажытнаяўрэйскіх, еўрапейскіх і рускіх класікаў, пачаў пісаць вершы на іўрыце. Пад уплывам асветнікаў стварыў трактат «Ліст аб выхаванні».

У далейшым Мендэле-Сфорым апынуўся ў Камянец-Падольску, дзе працаваў выкладчыкам у яўрэйскай казённай школе. Там пазнаёміўся з пісьменнікам-асветнікам Гатлоберам, які аказаў на яго вялікі ўплыў у справе паглыблення ведаў па літаратуры і філасофіі. Неўзабаве ў газеце «Гамагід» («Асветнік») была надрукавана ўжо згаданая праца «Ліст аб выхаванні». З'явіліся і артыкулы, у якіх аналізаваліся асобныя мастацкія творы, выказваліся цікавыя думкі аб методыцы выкладання і выхавання.

У 1858 годзе пісьменнік пераехаў у Бердзічаў і цалкам прысвяціў сябе творчай працы. Выдаў на іўрыце зборнік крытычных артыкулаў, з'явілася аповесць «Бацькі і дзеці», сітуацыя і тэма якой пераклікаюцца са знакамітым раманам І. Тургенева.

Каб заваяваць папулярнасць простага чытача, перайшоў на ідыш — мову кухарак і прачак, як пагардліва адзываліся тады аб гэтай мове знаўцы іўрыта. Першай на ідыш стала аповесць «Маленькі чалавечак». Сюжэт яе просты, як само жыццё. Кніганоша Мендэле прыязджае ў Глупск са сваім таварам. На вочы яму трапляецца рукапіс «Споведзь Іцхак-Абрама Такіфа», у якой той расказвае пра свае шляхі-дарогі. Знаёмства з багатым чалавекам Варгерам пераканала яго, што раскошы можна дабіцца толькі падманам, насіллем над іншымі. Ды аказваецца, усё складаней, чым падаецца на першы погляд. Ёсць ужо ў Іцхака і дастатак, і незалежнасць, аднак сумленне не дае спакою. У чым жа справа? Думае, разважае, пакутуе герой. Праз сумненне прыходзіць да адзінай высновы. Ён перакананы, што ўся прычына ў тым, што ён не быў духоўна багатым. Каб адпусціць свае грахі, Іцхак-Абрам Такіф пакідае завяшчанне, у якім просіць пасля яго смерці ўсе грошы аддаць на адкрыццё ў горадзе навучальнай установы для дзяцей беднякоў і на дабрачынныя мэты.

Аповесць «Маленькі чалавечак» прынесла Мендэле-Мойхер-Сфорыму сапраўднае прызнанне. У яўрэйскай літаратуры з'явіўся выдатны пісьменнік. У наступным сваім таленавітым творы «Залаты пярсцёнак» ён праўдзіва паказаў самаўдасканаленне маладога чалавека Гершэле. Напачатку той, атрымаўшы рэлігійную адукацыю, жыў фанатычна, марыў аб залатым пярсцёнку, які прынясе яму сапраўднае шчасце. Толькі паступова прыйшоў Гершэле да ўсведамлення, што чароўны пярсцёнак, пра які ён увесь час думаў, гэта глыбокія пазнанні ў розных навуках. Такі асноўны ідэйны змест аповесці, і яна ўсхвалявала чытачоў гэтаксама, як і папярэдні твор Мендэле-Мойхер-Сфорыма.

П'есу ж «Таксама» ён напісаў у жанры сатыры, нават сарказму, у духу М. Салтыкова-Шчадрына. Гэта прынесла непрыемнасці. Давялося пакінуць Бердзічаў і пераехаць з сям'ёй у Жытомір. Справа ў тым, што ў гэтым творы многія пазналі сябе. Аўтар востра высмеяў гарадскіх махінатараў.

Як вядома, Мендэле-Мойхер-Сфорым ускладаў вялікія надзеі на адукацыю, бачачы ў ёй панацэю ад усіх бед яўрэйскага народа. Праўда, у чарговай сваёй п'есе «Кляча» — яна напісалася па прыездзе ў Жытомір — ён прыходзіць да думкі, што наўрад ці толькі падобнымі захадамі можна палепшыць становішча яўрэяў. Пераважная большасць іх цярпелі двайны прыгнёт: і з боку ўладаў, і з боку ўласных прыгнятальнікаў. Сацыяльна-палітычныя ўмовы не давалі ім магчымасці займацца земляробствам, яны не мелі доступу да разумовай працы, таму што ім нельга было жыць па-за рысамі аседласці, гэта значыць, у буйных гарадах. Тым самым і выбар фізічнай працы для яўрэяў быў абмежаваны. Таму, пераканаўся Мендэле-Мойхер-Сфорым, палепшыць іх становішча можна пры ўмове, калі яны стануць раўнапраўнымі з іншымі народамі.

Аднак і ў аповесці «Кляча», і ў іншых сваіх творах ён далёкі ад думкі, што раўнапраўя яўрэяў можна дабіцца насільным шляхам. Як заўсёды, аповесць пачынаецца з уступнага слова Мендэле-Мойхер-Сфорыма. Маўляў, у яго загінуў конь, ён сядзіць і гаруе. Тут падыходзіць знаёмы і прапануе купіць «клячу». Даведаўшыся, што Мендэле не мае грошай, пагаджаецца не толькі пачакаць, але і даць сёе-тое на дробныя расходы. Да ўсяго ўручае рукапіс пад назвай... «Кляча», а гэта нататкі маладога асветніка Ісроліка...

Ісролік, аказваецца, займаўся медыцынай, але гэта сказалася на яго здароўі. Урачы параілі пакінуць вучобу, болей бываць на прыродзе. Аднойчы ён убачыў, як коні знаных дваран зайшлі ў сялянскія пасевы. Аднак ніхто іх адтуль не выганяе, а вось худую клячу ўсе б'юць. На запытанне Ісроліка «За што?» адказваюць: «Яна — не нашая. Нічыя яна, без гаспадара, прыблуда».

Калі Ісролік падышоў да каня, той раптам загаварыў чалавечым голасам. Высвятляецца, што яго зачараваў нейкі прынц. Таму і вымушана каняка жыць у выгнанні. Вазіла кляча цэглу, камені, рознае рыззё. А цяпер зусім нікому няма да яе справы. Уражаны пачутым, Ісролік звяртаецца ў камітэт «Міласэрнасці да жывёл», каб хоць неяк дапамагчы беднай жывёліне. Там адказваюць, каб яна павучылася мудрасці ў памешчыцкіх коняў. Відавочна, што ў вобразе клячы пісьменнік паказаў яўрэйскі народ, усімі затурканы. Ісролік жа — асветнік, які глядзіць далей, чым прыхільнікі грамадска-палітычнага вучэння.

Аповесць была перакладзена і пачала друкавацца ў яўрэйска-рускім часопісе «Восход», але ўмяшалася цэнзура. Друкаванне спынілі, шэсць месяцаў не выходзіў і сам часопіс.

Чарговы твор Мендэле-Мойхер-Сфорыма — сатырычная аповесць «Падарожжа Беньяміна Трэцяга» (1869). У творы гэтым матывы блізкія да матываў рамана М. Сервантэса «Дон Кіхот». Нездарма крытыкі назвалі Беньяміна яўрэйскім Дон-Кіхотам. Пісьменнік высмеяў празмерны рэлігійны фанатызм, які адцягвае людзей ад паўсядзённага жыцця.

Хоць Менделе-Мойхер-Сфорым і шмат друкаваўся, за ганарары яму было цяжка пражыць, таму ў 1881 годзе пісьменнік з сям'ёй пераехаў у Адэсу, пачаў загадваць гарадской талмудторай (рэлігійнай школай). На гэтай пасадзе і знаходзіўся да апошніх сваіх дзён (памёр 8 снежня 1917 года). Хоць работа і займала шмат часу, з творчай працай не развітваўся. Пісаў новыя творы, дапрацоўваў ранейшыя. Невялікае апавяданне «Фішка Кульгавы», якое з'явілася ў 1869 годзе, перарасло ў аднайменную аповесць. У 1899 годзе з друку выйшла яшчэ адна аповесць — аўтабіяграфічная, пад назваю «Шлойма, сын Хаіма»...

Традыцыі Менделе-Мойхер-Сфорыма пераянялі і падхапілі яго прадаўжальнікі Шолам-Алейхем, Іцхак-Лейбуш Перац, Абрам Рэйзін, Шалом Аш, Апатошу, Вайсенберг і іншыя. Сам жа ён назаўсёды застаўся ў гісторыі дзядулем яўрэйскай літаратуры. І памяць пра яго жыве, як памяць пра кожнага, хто быў першапраходцам.

На шчасце, у Адэсе захавалася магіла Мендэле-Мойхер-Сфорыма і помнік на ёй. Шкада, што дом, у якім прайшло маленства і юнацтва пісьменніка, у гады Вялікай Айчыннай вайны згарэў. Яшчэ больш шкада, што ў Капылі няма вуліцы, якая б насіла імя нашага славутага земляка. Да вайны ж была. Дык, можа, варта назву аднавіць?

Рыгор РЭЛЕС.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы, намесніку галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь» Таісе Бондар з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці МУЖА.

# АПОКРЫФ

## пра Якуба Коласа

**Алесь КАЖАДУБ**

**Апокрыф — гэта, натуральна, неканані чны тэкст на тэмы Свяшчэннага пісання, прасцей кажучы — пра святых. Але я дазволю сабе ўжыць гэты тэрмін у загалоўку свайго эсэ. Імя Якуба Коласа ў беларускай культуры стаіць побач з імёнамі Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Янкі Купалы. Святыя, дый годзе.**

МОЙ БАЦЬКА на пачатку пяцідзесятых гадоў паступіў завочна ў інстытут народнай гаспадаркі вучыцца далей на бухгалтара. Ён прыехаў з маіх родных Ганцавіч у Мінск на сесію і ці не адразу ж пайшоў паабедаць у рэстаран. Правінцыялы раней любілі зайсці ў рэстаран. Чарка-другая гарэлкі, закуска, катлета, згатаваная не па-хатняму. Ад сала ды кумпяка, ды сальцісону, а таксама ад кілбасы, пальцам пханай, абавязкова захочацца ў рэстаран, дзе белыя абрусы, сурвэткі, афіцыянткі, карты з назвамі нянаскіх страў. Але, паўтараю, гэта было даўней.

Бацька зайшоў у рэстаран «Зара», на месцы якога зараз рэстаран «Патсдам», выбраў сабе месца пад пыльным фікусам, якія ў нас тады замянялі пальмы, і пачаў чытаць меню, прадзіраючыся праз назвы накшталт «бефстроганаў» да жаданай катлеты. Але не паспеў ён як след начытацца. як падышла афіцыянтка ў карункавым фартуху і паставіла на стол бутэльку віна, салату і катлету з гарнірам.

— Я ж яшчэ не заказваў!—сказаў бацька, справядліва ўбачыўшы ў гэтым некаторую ўшчэмленасць годнасці правінцыяла.

— А гэта без заказу,—усміхнулася афіцыянтка.—Кожны наведвальнік рэстарана атрымлівае сёння падарунак ад Якуба Коласа. У яго дзень нараджэння.

«Я выпіў гэтае віно.— расказваў пазней бацька,—заказаў яшчэ трыста гарэлкі і за здароўе дзядзькі Якуба! Га, сын? Вось гэта пісьменнік! Самы лепшы».

Тое, што ўкладваецца ў нашы вушы ў дзяцінстве, застаецца назаўсёды. Якуба Коласа я сапраўды пачаў лічыць лепшым з пісьменнікаў.

Але на гэтым мая сувязь з Коласам не скончылася.

У семдзесят чацвёртым годзе—як зараз успомніць, залатая пара!—я скончыў універсітэт і паехаў настаўнічаць у Крайск на Даўгінаўскім шляху за Плешчаніцамі. Адрабіў год фізруком, дадаткова выкладаючы мову і літаратуру ў восьмых і дзевятых класах, і летам на вакацыях я пачаў задумвацца аб далейшым. Жыццё ў вёсцы, канечне, не параўнаць з гарадскім, але было ў мяне накіраванне ў аспірантуру, хацелася напісаць дысертацыю пра каравайны абрад на Палессі. Адным словам, я задумваўся.

І выпадкова—некаторыя думаюць, што падобныя сустрэчы адбываюцца выпадкова—я сустрэў свайго аднакурсніка, які працаваў у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук.

— У нас аб'яўлены конкурс на малодшага навуковага супрацоўніка,—сказаў ён.—Падавай дакументы да нас!

Я сабраў нейкія паперы, прынёс да дырэктара—і прайшоў па конкурсе. Такое іншы раз бывае, нячаста, але бывае.

Працаваць я пачуў у сектары сучаснай беларускай мовы пад кіраўніцтвам Мікалая Васільевіча Бірылы, пухам яму зямля. Пра нябожчыкаў гавораць альбо добрае, альбо нічога не гавораць. Благога я пра Мікалая Васільевіча не ведаю. У сектары працавала шмат маладых прыгожых дзяўчат разам з незабыўнай Любоўю Васільеўнай Шаталавай, бабай Любай, якая нястомна змагалася за дысцыпліну ў сектары. Што і казаць, у неафіцыйнай абстаноўцы час бавіўся тады даволі весела. Застой, як бы там не пляваліся і не лаяліся некаторыя.

Мяне прынялі на работу, і сам дырэктар Міхась Раманавіч Суднік павёў новаспечанага навукоўца доўгімі акадэмічнымі калідорамі да майго рабочага месца. Мы спыніліся перад высокімі дзвярыма з шыльдай: «Кабінет-музей Якуба Коласа».

— Вось тут будзеце працаваць!—адчыніў Міхась Раманавіч дзверы.

Перш мне кінуліся ў вочы чатыры ці пяць пекных дзяўчат, якія перабіралі карткі ў скрынках. Але мне заўсёды спачатку кідаецца ў вочы не тое, што трэба. Галоўнай прыналежнасцю ці аздобай кабінета былі зусім не дзяўчаты. Дырэктар іх нават не заўважыў. Ён адразу павёў мяне ў мемарыяльную частку, да вялізнага дубовага стала і двух чорных скураных крэслаў. Падобныя крэслы паказвалі тады толькі ў фільмах пра Леніна.

Дырэктар сам адчапіў тоўсты шнур з кручком, які аддзяляў мемарыяльную частку ад дзяўчат.

— Бачыце, які стол?—пацёр ён здаровай рукой паверхню.—Цяпер такіх сталоў не робяць.

І сапраўды, за ўсё сваё далейшае жыццё нічога падобнага я не бачыў. Більярдныя сталы—і тыя меншыя. Ну а крэслы... Сядаючы іншы раз у адно з іх, папярэдне, вядома, зачыніўшыся, я падумваў, што ў крэсле можна не толькі сядзець, але і спаць. Нават не аднаму. Але пра гэта як-небудзь іншым разам...

Я пачаў працаваць у коласаўскім кабінеце. Мяне пасадзілі за пісьмовы стол, падобны на дзіцячы, я заставіў яго скрынкамі з карткамі і ўзяўся гэтыя карткі апрацоўваць. Займаліся ўсе мы, я і дзяўчаты, падрыхтоўкай слоўніка мовы Якуба Коласа. Усе коласаўскія тэксты, празаічныя і паэтычныя, былі разбіты на фраземы. Кожнае слова падавалася ў кантэксце, з якога быў зразумелы яго сэнс. Мы выпісвалі адпаведнае слова на картку для далейшай яго апрацоўкі. Работа была ў многім аўтаматычная, выконваць яе маглі людзі і без вышэйшай адукацыі, але мне асабіста яна дала дужа шмат.

Па-першае, ад дэкларатыўнай тэзы бацькі («Колас—лепшы з пісьменнікаў») я непрыкметна ішоў да пераканання ў гэтым. Вядома, я перапісаў не ўвесь збор твораў Якуба Коласа, усяго толькі яго пятую ці шостую частку, аднак будова Коласавай фразы, танальнасць яе, гукапіс, рыфма, метафарычнасць і гэтак далей рабіліся блізкімі, сваімі. Ну і сама асоба пісьменніка паўставала за радком «Новай зямлі» ці лірычным адступленнем у «На ростанях».

Вось тут мне хочацца сказаць колькі слоў пра ментальнасць беларускай душы. А ментальнасць гэтая выяўляецца не толькі ў этнічных асаблівасцях народа, але і ў творчасці яго лепшых сыноў. Янка Купала і Якуб Колас увасабляюць дзве іпастасі беларуса. Янка Купала—гэта шляхетна-рамантычная узнёсласць, інтэлектуальная адоранасць, памяць фальваркаў і замкаў. Якуб Колас—сялянская мудрасць, жыццеўстойлівасць, памяць зямлі, на якой аруць, сеюць, збіраюць ураджай, ставяць хату.

Зараз большасць нашай беларускай інтэлігенцыі напраміны Бог ірвецца ў «Эўропу», заблытваючы тым самым сутнасць пытання. Беларусы заўсёды былі і ёсць у Еўропе, у самым яе цэнтры. Можна, канечне, успомніць, што драгавіты-драгавічы-дрыгавічы прыйшлі ў запрыпяцкія землі з Балкан у шостым стагоддзі ад Р.Х., а яшчэ раней іхнія сляды знаходзяцца ў Вісла-Одэрскім басейне. Затое крывіцкая галіна беларускага дрэва цалкам тутэйшая, яна належыць не толькі беларусам, але і рускім. Беларусы як нацыя сфарміраваліся менавіта ў цэнтры Еўропы, яны тыповыя прадстаўнікі гэтай геаграфічнай зоны, і ім няма ніякага сэнсу імкнуцца на захад або на ўсход. Нацыя, якая ўзнікла на мяжы Лесу і Стэпу, на мяжы Праваслаўя і Каталіцтва, на мяжы Усходу і Захаду пацярпела вялікія выдаткі, але гэта прадмет асобнай гаворкі. Мы ж спынімся на тым, што адбылася падмена тэрміну, пад Еўропай многія на Беларусі разумеюць Заходнюю Еўропу. Дакладней, ім гэтая падмена мэтанакіравана ўводзіцца ў вушы.

Мне здаецца, Якуб Колас не зразумеў бы арыентацыю сучаснай інтэлігенцыі выключна на захад, на тыя каштоўнасці, што выпрацаваны за стагоддзі заходнееўрапейскай культурай. Зрэшты, дзядзька Якуб ва ўсім абапіраўся на народ, на ягоныя філасофію і геапалітычны погляд. Беларусі не можа быць без Русі ў прынцыпе, пра гэта трэба помніць заўсёды.

Я распісваў карткі ў коласаўскім кабінеце, і ягоны дух не мог не з'яўляцца ў ім. Зараз я перакананы: тое, што маладзенькі настаўнік перабраўся з глыбінкі ў акадэмічны інстытут, без самога Коласа не абышлося. Дзядзька Якуб заўсёды спрыяў настаўнікам, ва ўсім. Нанова перачытваліся «Дрыгва», «На ростанях», «Новая зямля», з пісьмаў паўставаў жывы чалавек, якога даймаюць хваробы і прасіцелі. Моладзь, што працавала са мной, весялілася, амаль не зважаючы на вялізныя стол і крэслы, і віцэ-прэзідэнт акадэміі, нябачны, займаў сваё месца за сталом.

Ён шмат зрабіў для гэтай моладзі, цяпер адпачывае.

Мікалай Васільевіч Бірыла, здаецца, адчуваў прысутнасць Якуба Коласа. Зрэшты, у іх былі свае адносіны і рахункі, шкада, што не можна ўжо запытацца пра іх. Мы вельмі часта пачынаем нешта разумець, калі ўжо позна.

Дарэчы, яшчэ адно спецыфічнае казанне пра Якуба Коласа тычыцца якраз словазлучэння «ужо пайшоў». Калі адзін з чарговых рэдактараў Якуба Коласа акуратна абвёў алоўкам апошні склад першага слова і першы склад другога, нарадзіўшы такім чынам вядомае ў народзе слова, дзядзька Якуб, як гавораць сведкі,ззлаваў, пайшоў чырвонымі плямамі і крыкнуў (так, крыкнуў), што такога слова ў беларускай мове няма. Іншае ёсць, аднолькавае па зместу і адрознае па гукапісе.

У гэтым апокрыфе зноў выявілася акалічнасць, якая зрабіла Канстанціна Міцкевіча Якубам Коласам: выключнае адчуванне народнага гумару. Да адметнасці нашага гумару ў параўнанні з рускім, украінскім, польскім і літоўскім я прыйшоў і праз творы Коласа. Перачытайце яшчэ раз раннія апавяданні пісьменніка, «На ростанях» — і вы мяне зразумееце. Між іншым, лепшай кнігі пра станаўленне свядомага беларуса, чым коласаўскія «На ростанях», няма. І касмічнасць беларускага інтэлігента, які хоча сягнуць да зорак, таксама найлепей выказана ў «На ростанях». А жаночыя вобразы ў трылогіі? Толькі той празаік уваходзіць у шэраг выбітных, хто ўмее напісаць жанчыну. Заміранне маладой душы, якая ўпершыню сутыкнулася з каханнем, — хто лепей за Коласа ў нас зрабіў гэта? Перачытайце, дальбог, перачытайце яшчэ раз «На ростанях».

Быў Францішак Скарына, быў Ян Баршчэўскі, быў Францішак Багушэвіч — і быў Якуб Колас, яшчэ адзін крок у хадзе народа да сустрэчы з іншымі народамі, братамі, але іншымі.

Я цяпер абавязкова пішу ў аўтабіяграфіі, што найбольшы ўплыў на мяне з пісьменнікаў аказалі Якуб Колас і Уладзімір Караткевіч. Менавіта ў такім парадку — Колас і Караткевіч.

А скончу я тым, з чаго пачаў. Пакуль апакрыфічныя казанні будуць суправаджаць постаці, накшталт Коласавай, датуль яны будуць успрымацца народам як волаты.

Якуб Колас быў жывы чалавек — і ён падняўся ў людской свядомасці да легенды.

Згадзіцеся — гэта дужа шмат.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### Перазовы са случакамі

21 лістапада ў Магілёве адбыўся канцэрт, прысвечаны памяці беларускіх жаўнераў — удзельнікаў Слуцкага паўстання. Распачаў канцэрт натхнёным словам пра тыя слаўныя ды трагічныя падзеі дырэктар музея гісторыі Магілёва Ігар Пушкін. Дух узнёсласці падтрымалі цудоўнымі народнымі спевамі дзяўчаты з фальклорнага гурта «Голас» пад кіраўніцтвам Алены Ткачовай (г. Менск). З задавальненнем слухачы прымалі вядомага барда з Гародні Віктара Шалкевіча, песні якога моцна кранулі сэрцы магілёўцаў.

С. ГЛАЗШТЭЙН,
прэзідэнт фонду «Музей Магілёва».

### «Беларус» пра Беларусь

Выйшаў кастрычніцкі нумар нью-йоркскага «Беларуса». Выпуск адкрываецца рэдакцыйнымі назіраннямі «Прэзідэнцкія выбары ў ЗША і беларусы». Газета расказвае пра брыфінг у Белым доме для чатырнаццаці прадстаўнікоў беларускае грамадскасці Злучаных Штатаў. Шэраг матэрыялаў прысвечаны некаторым дэталям мажлівай амерыканскай палітыкі ў стасунку да камуністычных і посткамуністычных дзяржаў Еўропы ды Азіі.

Адказ на пытанне «Адкуль на Беларусі антысемітызм?» даецца ў аднайменным артыкуле. Кароткі, але змястоўны аналіз моўных праблем у беларускім школьніцтве прапануе Вінцук Вячорка. Побач з гэтым матэрыялам чытаем «Заклік» памагчы стварэнню сапраўды нацыянальнай школы на базе менскай СШ № 131. Выданне друкуе «Зварот да беларусаў свету» ЗБС «Бацькаўшчына» і ЗБВ у сувязі з чарговымі ўгодкамі Слуцкага збройнага чыну 1920 г. Піша «Беларус» аб заснаванні філіяла амерыканскага Фонду Сораса ў сталіцы нашай краіны. Пра побыт дэлегацыі БНФ і БХДЗ у Бруселі расказвае Янка Жучка. Адпачынак у Аўстраліі і Англіі дзяцей з забруджаных радыенуклідамі мясцін — тэма артыкулаў Р. М. і А. Здановіча.

Цікавыя весткі з культурна-грамадскага жыцця беларусаў Парыжа, Квебека, ЗША. Заходняй Аўстраліі, Эстоніі падае газета на сваіх старонках. Выданне змяшчае некалькі матэрыялаў пра ўрачыстасці ў ААН, прысвечаныя 110-ым угодкам ад нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Уражаннямі пра наведанне Айчыны дзеліцца кліўлендчанка Іра Каляда-Смірнова.

### Уводзіны ў тэатр

Тэатральны ліцэй запрацаваў у Віцебскім ПТВ-37 машынабудавання імя М. Ф. Шмырова. У ягонай праграме — падрыхтоўка хлопцаў ды дзяўчат да ўспрымання тэатральнага мастацтва, сустрэчы са стваральнікамі спектакляў, абмеркаванне пастановак коласаўцаў. Плануецца правядзенне ўрокаў нетрадыцыйнага жанру (канцэртаў, сустрэч), урокаў-спектакляў па беларускай літаратуры і эстэтычным выхаванні.

Юрась СЦЯПАНАЎ.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі:Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры; Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 10.12.92 у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:
Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12